21 траўня 2021 | № 19 (727)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

9 772218 214005 21019

**Беларусь спартыўная**
**Стар. 7–18**




# Бывае, праўда вочы коле…

Аксана КОЛБ

**Свой дзень я звычайна пачынала з таго, што адкрывала TUT.BY. Як і некалькі мільёнаў беларусаў. Мы заходзілі на партал, каб прачытаць праўдзівыя навіны пра тое, што адбываецца ў краіне ад прафесіяналаў журналістыкі. Раніцай 18 траўня мы даведаліся, што ў рэдакцыі і рэдактараў вобшук, а неўзабаве — і пра тое, што партал заблакаваны.**

Што ж, бывае, як пісаў Кандрат Крапіва, праўда вочы коле… Зуб на TUT.BY вастрыўся даўно і метадычна. На партал ціснулі і выкручвалі рукі. Журналістаў і рэдактараў запалохвалі і адпраўлялі на нары. А яны ўпіраліся, не ламаліся і сумленна рабілі сваю працу. Але праўда, сумленне, гонар і прафесіяналізм цяпер не патрэбныя. І таму сёння пачаўся чарговы віток ціску на незалежныя медыя. Бо праўдзівая інфармацыя — гэта зброя супраць хлусні, глыток паветра ў задушлівай каморы.

Як напісаў Пётр Кузняцоў, заснавальнік «Моцных навін», які сам разам з журналістамі не так даўно прайшоў праз рэпрэсіі: «Інфармацыя — гэта тое, што зрабіла магчымым лета-восень 2020 года. Яшчэ задоўга да з'яўлення новых палітычных лідараў і іх кампаній, беларускі народ бурліў і абураўся, бо бачыў паводзіны ўладаў у перыяд першага этапу пандэміі. На працягу многіх гадоў усведамленне таго, у якой краіне і пры якім рэжыме мы жывем, назапашвалася ў беларусах па кроплі, каронавірус жа стаў тым самым момантам, які прымусіў усіх пераасэнсаваць тое, што адбываецца, раскласці ў галовах па палічках і прыйсці да выразнай высновы: так жыць далей нельга. І ўсё гэта было б немагчыма без доступу да праўдзівай інфармацыі, што забяспечылі нашым людзям незалежныя СМІ, стаўшы альтэрнатывай дзяржпрапагандзе, дзе заўсёды "ўсё добра".

Улады, падобна, разумеюць усё гэта не горш за нас з вамі, таму змагаюцца са СМІ літаральна з усіх сіл. Па звычцы і па старых метадычках, яны не пакідаюць спробаў утаймаваць інфармацыйны паток па-старому, гэта значыць, "захапіць тэлеграф". Але сёння грамадскае меркаванне фарміруецца самім інфармацыйным асяроддзем, паколькі голас, літаральна, ёсць ва ўсіх. Таму змагацца, на самай справе, даводзіцца не з канкрэтнымі медыя і аўтарамі, а са з'явай — з інфармацыйнай эпохай.

Ці можна перамагчы ў гэтай барацьбе? Разумным людзям відавочна, што такімі метадамі — не. Відавочна і іншае: паслядоўны рух у кірунку "ўсіх прыдушыць" можа прывесці толькі да таго, што ў інфармацыйным полі Беларусі з'явіцца раскрытыя пустэчы. У гэтым сэнсе гібель існуючага незалежнага медыясектару будзе азначаць удар не толькі і не столькі па дэмакратычна думаючай частцы грамадства, колькі па Беларусі як цывілізаванай краіне як такой. Відома, у цяперашніх умовах гэта гучыць дзіўна: "Беларусь — цывілізаваная краіна". Аднак большасць беларусаў застаюцца цывілізаванымі людзьмі нават у нецывілізаванай дзяржаве, і прафесійныя СМІ, якія паказваюць стан спраў такім, які ён ёсць, з усіх бакоў і без прыкрасаў, проста неабходныя ім для таго, каб цывілізаванымі ж і заставацца: прымаць свае рашэнні і вызначаць лінію сваіх паводзінаў, зыходзячы з усіх існых фактараў.

Сёння падобна на тое, што ва ўладзе разуменне ўсяго гэтага адсутнічае, і яны гатовыя круціць гайкі да канца. І робяць велізарную памылку. Праблема і ёсць, і будзе ў тым, што паўсталі беларусы ў 2020-м пад уплывам інфармацыі ў цэлым як з'явы. А вось культурнымі і цывілізаванымі яны засталіся ўжо толькі таму, што менавіта прафесійныя і добрасумленныя СМІ і журналісты не дапусцілі аднабокага і істэрычнага перафарматавання павесткі ў тым стылі, які цяпер дэманструе дзяржпрапаганда.

Калі розуму мала, а сілы і ўпартасці шмат, да добрага гэта прыводзіць рэдка. Прыкладваючы ўсе намаганні да закручвання гаек, сарваць разьбу можна значна хутчэй, чым самому хацелася б».

Ці ёсць яшчэ каму наверсе ўсвядоміць сказанае Кузняцовым? Хочацца спадзявацца, што ёсць. Але, хутчэй за ўсё, ціск на медыя працягнецца. І заўтра ранкам могуць прыйсці зператрусам да любога з незалежных журналістаў, па прыдуманым абвінавачанні заблакаваць любы рэсурс, а журналістаў адправіць за краты. Дзясяткі журналістаў ужо за кратамі толькі за тое, што казалі людзям праўду. А праўда гэта вочы коле. І яе спрабуюць знішчыць замест таго, каб заўважыць «лыч у брудзе».

***P.S.:** Сёння мы ўсе — TUT.BY. Трымайцеся, калегі. Праўду забіць немагчыма!*

# Змяняць знешнасць і ўжываць агнястрэльную зброю

**У судах пачалі разглядаць адразу некалькі гучных крымінальных спраў, а ўлады ў паніцы працягваюць прымаць неканстытуцыйныя законы. Падрабязней — у нашым дайджэсце.**

У Магілёўскім абласным судзе пачаўся працэс над сямю фігурантамі справы аб масавых беспарадках. Па ёй праходзяць сустаршыня БХД Павел Севярынец і актывісты грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Яўген Афнагель, Павел Юхневіч, Максім Вінярскі, Андрэй Войніч, Ірына Шчасная, а таксама блогер Дзмітрый Казлоў. Судовы працэс закрыты нават для іх сваякоў. Тым не менш палітвязняў прыйшлі падтрымаць некалькі дзясяткаў чалавек. Спачатку міліцыянт адагнаў іх ад будынка суда, а потым АМАП зладзіў аблаву на людзей у бліжэйшых дварах. У выніку затрымалі траіх: журналістаў Аляксандра Буракова і Уладзіміра Лапцэвіча, а таксама рэгіянальнага каардынатара БХД Алену Аксёнаву. Ім прысудзілі арышты.

У судзе Маскоўскага раёна Брэста 12 траўня распачаўся крымінальны працэс над баранавіцкім актывістам, фігурантам так званай «справы Аўтуховіча» 60-гадовым Уладзімірам Гундарам. Яго судзяць па абвінавачванні ў «гвалце або пагрозе гвалту да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі».

Вынеслі прысуд палітзняволенаму барабаншчыку Аляксею Санчуку. Яго абвінавацілі па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса: ч.1 і 2 арт. 342 (арганізацыя, падрыхтоўка дзеянняў, актыўны ўдзел у дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак), ч. 3 арт. 293 (навучанне ці іншая падрыхтоўка асоб для ўдзелу ў масавых беспарадках) і арт. 13 ч. 2 арт. 293 (падрыхтоўка да ўдзелу ў масавых беспарадках). Суддзя Таццяна Пірожнікава асудзіла палітвязня на шэсць гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

На месцы народнага мемарыяла, дзе быў забіты Аляксандр Тарайкоўскі, улады паставілі сметніцу. Камунальнікі на скаргі грамадзян адказалі, што ўстаноўка кантэйнера ўзгодненая, ён усталяваны на цвёрдым пакрыцці ў сувязі з правядзеннем несанкцыянаванага гандлю (хаця ніякага гандлю там не было). У адным адказе дадаткова тлумачыцца, што «на названай азелянёнай тэрыторыі пашпартам аб'екта не прадугледжаны мемарыяльны комплекс».

У нядзелю, 16 траўня, на Цнянскім вадасховішчы ў Мінску АМАП затрымаў вялікую групу раварыстаў. Паводле інфармацыі відавочцаў, каля дзясятка чалавек як мінімум на чатырох мікрааўтобусах павезлі ў Савецкае РУУС «для высвятлення». Затрыманыя — удзельнікі MINSK FIXED GEAR. Паведамляецца, што адзін чалавек быў затрыманы за майку «АнтиЛукашенко». У панядзелак раварыстам далі суткі.

Лукашэнка падпісаў закон пра дзяржаўную абарону. Ёй будуць падлягаць вайскоўцы Узброеных Сіл у выпадку іх удзелу ў «ахове грамадскага парадку», супрацоўнікі Службы бяспекі прэзідэнта, Аператыўна-аналітычнага цэнтра, «іншыя асобы ў сувязі з замахам на іх бяспеку» (тыя ж прапагандысты), а таксама іх блізкія. За дзяржаўны кошт асобам, якія знаходзяцца пад абаронай, а таксама іх блізкім, могуць змяніць знешнасць. Якія меры абароны трэба прымяняць да той або іншай асобы, вызначаць супрацоўнікі органаў унутраных спраў «на падставе аналізу тых пагроз, якія паступаюць».

Таксама Лукашэнка падпісаў закон «Аб змяненні законаў па пытаннях нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь». У ім у тым ліку канкрэтызуюцца падставы для правядзення асабістага надгляду грамадзян, надгляду рэчаў, транспартных сродкаў. Удакладняюцца ўмовы і межы прымянення фізічнай сілы, спецыяльных сродкаў, зброі, баявой і спецыяльнай тэхнікі. Прадугледжваецца, што супрацоўнікі міліцыі не нясуць адказнасці за шкоду, прычыненую ў выніку іх прымянення, калі такое прымяненне ажыццяўлялася ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўчых актаў, што рэгулююць дзейнасць гэтых органаў. Акрамя таго, органы ўнутраных спраў надзяляюцца правам прымяняць баявую і спецыяльную тэхніку пры спыненні масавых беспарадкаў.

# Рабочыя БМЗ адмаўляюцца падпісваць супраць санкцый

**БМЗ абвясціў пра збор подпісаў пад лістом да замежных партнёраў з просьбай не ўводзіць санкцыі. «Моцныя навіны» даведаліся, як кіраўніцтва тлумачыць металургам матыў «антысанкцыйнай кампаніі».**

У рэдакцыю «Моцных навінаў» звярнуліся адразу некалькі работнікаў БМЗ. Усе яны распавялі, што ў іх падраздзяленні ўжо прыносілі «паперу» з просьбай ці нават патрабаваннем падпісацца.

— Хвілін 40 над намі стаяў старшы майстар з просьбай падпісаць ліст, хоць мы яму адразу сказалі, куды ён можа ісці з гэтым лістом, — распавядае рабочы аднаго з падраздзяленняў БМЗ. — Ён спрабаваў даказаць, што гэта «зусім не палітыка». Затым у ход пайшло: «Гэта ўсё роўна нічога не вырашае, тым больш, ад вашых чатырох-пяці подпісаў нікому не стане ні холадна, ні горача». Тады мы парыравалі: «Дык навошта іх выпрошваць, калі яны нічога не вырашаюць?». Ён зноў: «Ну вы зразумейце, "нацягнуць" мяне, потым начальніка цэха, а ён — зноў мяне, а я — вас».

Тады рабочыя ўдакладнілі: «А што, завод ужо не па-за палітыкай?» На што начальнік, па іх словах, заявіў, што ім розніцы быць не павінна. «Завод дае вам працу, і вы павінны яму дапамагаць у складаныя моманты. А калі заказаў у нас не будзе, завадчане застануцца без заробкаў. А я хачу 100-працэнтную прэмію», — перадаюць работнікі словы начальніка БМЗ.

— Мы адказалі, што замовамі хай займаюцца маркетолагі — гэта іх праца. І мы заводу нічога не павінны, ён нам заробак плаціць не за проста так, а за працу, і вельмі цяжкую працу. Таму гэта яшчэ хто каму вінен, — успамінаюць дыялог са старшым майстрам металургі.

Ён сышоў, але праз паўгадзіны вярнуўся, спытаў, ці не перадумалі. Адказ быў відавочны, таму праз некаторы час да рабочых прыйшоў ужо начальнік «рангам» ніжэй — майстар. Са слоў работнікаў, ён пачаў распавядаць, за што могуць звольніць кожнага з прысутных у памяшканні: "Пару талонаў — і вылецице адсюль". Металургі пажадалі майстру ўдачы.

Падобную рэакцыю сустрэла начальства яшчэ ў адным цэху. Там у актавай зале сабралі калектыў дзяжурнай змены — чалавек 30–40. Начальнік на «планёрцы» зачытаў тэкст ліста і растлумачыў, для чаго гэта трэба.

— Нешта прабубніў сабе пад нос, — перадаюць падрабязнасці гісторыі відавочцы. — А затым падняў на нас вочы. Нехта з залы запытаў: гэта ўсё? Ён кіўнуў галавой. Той чалавек тады падняўся з месца і пайшоў да выхаду. За ім рушылі астатнія. Так начальнік і застаўся адзін у той зале з лістом у руках.

— А ў нашым цэху «цішком» усё праходзіць. У кабінет да начальніка выклікаюць толькі тых, у кім упэўнены, што падпішуць, — распавёў яшчэ адзін завадчанін. — На ўсеагульнае абмеркаванне гэтае пытанне ставіць баяцца.

— Да нас прыйшоў майстар, сказаў: вось у прафкаме далі паперу, чытайце, падпісвайце. Хто «ябацька» — той падпісвае. Хто ў тэме (а такіх, на жаль, адзінкі) — ігнаруць, — каментуе збор у сваім падраздзяленні яшчэ адзін работнік БМЗ.

Ад кагосьці на заводзе нават хаваюць лісты — каб не бачылі, хто там ужо падпісаўся, распавяла адна работніца.

Але ёсць і цэхі, дзе «падпісная кампанія» праходзіць спакойна: начальнік на зменна-сустрэчным сходзе «вельмі карэктна прапанаваў паставіць подпісы». Ніякага ціску, кажуць работнікі гэтага падраздзялення, не было.

# Лепшая моладзь на лаве падсудных

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**У Мінску 14 траўня пачаўся суд над фігурантамі так званай «справы студэнтаў». Па ёй праходзіць дванаццаць чалавек, якія знаходзяцца ў СІЗА ўжо больш за шэсць месяцаў.**

Дзесяць студэнтаў пяці мінскіх ВНУ, выкладчыцу БДУІР і выпускніцу медыцынскага ўніверсітэта вінавацяць у арганізацыі дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак (частка 1 артыкула 342 КК) і ў злачынстве, якое было здзейснена групай асоб па папярэдняй змове (ч. 2 арт. 17 КК). Справу разглядае суддзя Марына Фёдарава ў Доме правасуддзя.

Яшчэ за паўгадзіны да пачатку пасяджэння каля Дому правасуддзя сабралася каля сотні чалавек, якія прыйшлі падтрымаць студэнтаў. У будынак суда пускалі толькі сваякоў і журналістаў. Аднак каля залы суда тых, хто здолеў патрапіць у будынак, чакалі яшчэ адзін турнікет і дагляд. У выніку ў судовую залу дазволілі зайсці толькі блізкім сваякам падсудных — па два родных на аднаго палітвязня. Ніводнага з незалежных журналістаў у залу не пусцілі.

Не ўдалося трапіць у спіс блізкіх сваякоў і некаторым бабулям і дзядулям палітвязняў. Бабуля Касі Будзько Кацярына Антонаўна не вытрымала: расплакалася перад турнікетам і доўга ад яго не адыходзіла, прасіла прапусціць яе да ўнучкі. Але дзверы ў зале ўжо зачыніліся.

— Праўды ніколі не было, і цяпер не будзе, — плача Кацярына Антонаўна. — Я 73 гады пражыла, таму ведаю, пра што кажу.

Кацярына Антонаўна распавядае, што фігуранты справы не ведаюць адно аднаго. А Кася сустрэне сваё дваццацігоддзе — 25 траўня — за кратамі.

— Яна ж памочніцай нам была… Мы спецыяльна папрасілі яе прыехаць з Гродна. Яна з трэцяга курса ўніверсітэта перавялася сюды, у БДПУ. І вось прыехалі, яе забралі, а нам выламалі дзверы…

Праз некаторы час бабулю ўсё ж праз турнікет прапусцілі… Але не ў залу, а на лаву, якая знаходзіцца побач з кабінетам.

Таццяна і Ганна вельмі прасілі пусціць іх у залу суда. Яны — сяброўкі Вікі Гранкоўскай, студэнткі БНТУ. Віка — сірата, з блізкіх у яе ёсць бабуля, але яна жыве ў вёсцы ў Дзятлаўскім раёне. Дзяўчаты ўвесь час перадаюць Віцы перадачы, пішуць лісты… У залу пасля дзяўчат усё ж такі прапусцілі.

Тым часам на вуліцы перад будынкам суда пачаліся затрыманні тых, хто прыйшоў падтрымаць вязняў. Сярод іх — палітык Анатоль Лябедзька і журналістка Tut.by Любоў Касяровіч. У хуткім часе каля Дома правасуддзя людзей не засталося. А Любоў Каспяровіч паехала на Акрэсціна, дзе прабыла да панядзелка. У выніку 17 траўня «суд» даў ёй яшчэ 15 сутак.

Прыйшлі падтрымаць падсудную выкладчыцу БДУІР Вольгу Філатчанкаву некаторыя з яе студэнтаў. Насця распавяла, што для яе Вольга Філатчанкава заўжды была любімай выкладчыцай: «Усе шэсць месяцаў я думаю толькі пра яе і пра тое, як ёй можна дапамагчы». У першых лістах, якія выкладчыца пісала сваім студэнтам, яна вельмі хвалявалася за адзнакі за лабараторныя работы, якія засталіся ў яе.

Падчас перапынку сын Вольгі Іван распавёў, што ў судзе ўжо пачалі зачытваць абвінавачанні, праўда, разабраць нешта было цяжка. Падсудныя знаходзіліся ў дзвюх клетках: у адной было восем чалавек, у другой — чатыры.

— Я не бачыў, каб нехта там быў прыгнечаны, — прызнаецца Іван. — Усе проста заззялі, калі пабачылі родных.

На пачатку суда адвакаты агучылі тры хадайніцтвы. Адвакат Іллі Трахтэнберга хадайнічаў аб спыненні справы ў сувязі з неаб'ектыўнымі абвінавачаннямі — яно было адхілена. Вольга Філатчанкава з адвакатам хадайнічалі аб змяненні меры стрымання для студэнтаў на хатні арышт. І гэтае хадайніцтва адхілілі.

— Я адчуваю гонар за маці, — дзеліцца Іван. — Усе былі захопленыя яе хадайніцтвам за студэнтаў. Надзея, як кажуць, памірае апошняй, але ў большасці сваёй мы гатовыя да горшага. Учора мне прыйшоў ад яе ліст. Яна папярэдзіла мяне, што будзе сядзець у клетцы. Прасіла, каб я гэтага не пужаўся.

Іван кажа, што абвінавачанні на кожнага падсуднага нібыта напісаны пад капірку: «Такое адчуванне, што мяняюцца толькі прозвішчы, даты і ўстановы адукацыі».

На ганку падчас перапынку стаяла маці Ягора Канецкага Ала. Яна была разам з бабулямі і дзядулямі Ягора, якіх таксама не пусцілі ў залу суда.

— Я першы раз за паўгода пабачыла сына! — плача Ала. — А так, сяджу на карвалоле. Ягор на судзе жэстам папрасіў зняць маску, каб мог пабачыць мяне… А перад судом напісаў, каб я набыла букет кветак сабе ад яго.

Маці і сястра Марыі Каленік — Вольга і Паліна, калі выйшла з судовай залы, сказалі, што схадзілі нібыта ў тэатр.

— Апошнія вынесеныя выракі паказваюць, што, хутчэй за ўсё, будуць даваць тэрміны, — кажа Паліна. — Але ведаеце, яны ў клетках выглядаюць больш вольнымі, чым мы тут!

Згодна з папярэдняй інфармацыяй, судовыя пасяджэнні будуць цягнуцца да 7 чэрвеня. Усім фігурантам справы пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Агульная таксікалогія

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У нашай краіне ёсць знакаміты выраз, якім апраўдваюцца ўсялякія паскудствы і брыдота: «Вы ж самі ўсё разумееце!» Але, падаецца, ва ўмовах, калі беларуская ўлада робіцца ўсё больш таксічнай для свету, гэты выраз пачынае ўжывацца да яе.**



Фота www.livejournal.com

Адной з топавых навінаў мінулага тыдня — Міжнародны саюз біятланістаў вырашыў не праводзіць у 2022 годзе этап Кубка свету IBU па біятлоне ў Мінску. Прэстыжныя біятлонныя спаборніцтвы павінны былі адбыцца ў Раўбічах, аднак у IBU перагледзелі графік стартаў сезона 2021/2022.

«Рашэнне аб пераносе мерапрыемства было прынятае Выканаўчым камітэтам у святле бягучай сітуацыі ў Беларусі і для таго, каб арганізацыйныя камітэты, нацыянальныя федэрацыі і іх каманды змаглі скласці свае планы», — гаварылася ў паведамленні.

І гэта даволі істотны ўдар па амбіцыях айчыннага пакуль што кіраўніка. Раней у яго забралі чэмпіянат свету па хакеі — зусім любімую цацку. Цяпер — лыжы, другую цацку па любасці. Раней жа ён так змагаўся на «Мінскай лыжні», і так хваляваўся за Домрачаву, ажно, нібыта, парады ёй даваў, як выйграць. А цяпер — усё. «У святле бягучай сітуацыі ў Беларусі» якраз і перакладаецца, як «вы ж самі ўсё разумееце».

Прыкладна тое ж адбылося і ў сферы культуры, але тут ужо афіцыйныя беларускія тэлеканалы, як кажуць, «самі сабе вушы адмарозілі». БТ вырашыла «пакараць» міжнародны конкурс «Еўрабачанне» за тое, што туды не дапусцілі «Галасы Змесца» з прапагандысцкімі песенькамі. Тэлевізійшчыкі ў адказ на нядопуск іх удзельнікаў адмовіліся трансляваць увесь конкурс.

Але краіна, якая не транслюе «Еўрабачанне», згодна з правіламі конкурсу, пазбаўляецца права трапіць на яго ў наступным годзе. Тэлевяшчанне конкурсу — адна з умоваў допуску артыстаў на «Еўрабачанне». Такім чынам — «вы самі ўсё разумееце», нашых артыстаў там не будзе і ў 2022-м годзе.

Больш за тое, гэткі дэмарш з боку БТ — яшчэ адзін з аргументаў на карысць выключэння нашых прапагандыстаў са складу Еўрапейскага вяшчальнага саюза. Не кажучы ўжо пра згубленыя грошы — права на трансляцыю конкурсу і вылучэнне туды канкурсантаў абышлося БТшнікам прыкладна ў 100 тысяч еўра ўнёску.

Праўда, у нас тут свае канцэрты, ды такія, што любое рэаліці-шоу пазайздросціць. Напрыклад, у Магілёве на пачатку суда над Севярынцам і кампаніяй затрымалі журналіста Аляксандра Буракова. Яму далі 20 сутак арышту, а ў судзе ён заявіў пра катаванні.

Буракову, пэўна, таксама казалі: «Вы ж самі ўсё разумееце». Але справа ў тым, што ён супрацоўнічае з найбуйнейшым еўрапейскім СМІ — Deutsche Welle. Кіраўніцтва DW па прысудзе заклікала беларускія ўлады «неадкладна скасаваць прысуд» і выказала «рашучы пратэст супраць парушэння гарантаваных Канстытуцыяй правоў СМІ ў Беларусі».

Журналістыка ў Еўропе — гэта не журналістыка ў Беларусі. Можна меркаваць, што карэспандэнты DW будуць запытвацца ў сваіх урадаўцаў і дэпутатаў: «А што вы зрабілі для таго, каб адпусцілі Буракова?» І тыя вымушаныя будуць прасоўваць праекты дапамогі беларускім недзяржаўным СМІ і журналістам, беларускаму грамадству, пашыраць санкцыі адносна ўлады... А калі нашы чыноўнікі ў чарговы раз заенчаць: «Што ж вы робіце, а?», ім адкажуць: «Буракова памятаеце? Ну, тады самі ўсё разумееце». Бо там, у Германіі, ад пазіцыі СМІ шмат залежыць: хто стане канцлерам ці дэпутатам Бундэстага, а хто ім не стане.

Вось, напрыклад, не паспелі ўлады пасадзіць таго ж Буракова, а прафсаюз адукацыі і навукі Германіі GEW у сваім афіцыйным лісце да кіраўніцтва БДУ, Міністэрства адукацыі і Адміністрацыі прэзідэнта папярэдзіў, што можа разарваць партнёрскія адносіны з БДУ і іншымі ВНУ Беларусі. Канешне, найперш прафсаюзныя дзеячы звярнулі ўвагу на перашкоды дзейнасці Свабоднаму прафсаюзу БДУ, пераслед і незаконныя звальненні чальцоў прафсаюза ў БДУ.

А цяпер пытанне: як арышт Буракова звязаны з лістом нямецкага прафсаюза? Можа, ніяк? Думаю, што пра палітычныя звальненні супрацоўнікаў БДУ, перашкоды ў рэгістрацыі Свабоднага прафсаюза студэнтаў ды пра нашу «студэнцкую справу» ў GEW даведаліся не ў малой ступені дзякуючы Deutsche Welle. І, напэўна, які-небудзь журналіст усё ж пацікавіўся ў функцыянераў нямецкага прафсаюза: «А што вы робіце ў гэтай сітуацыі?»

Цяпер у БДУ ёсць праграмы супрацоўніцтва з 19 універсітэтамі Германіі. Ва ўсіх гэтых універсітэтах ёсць структуры прафсаюза GEW. Пакуль гэты прафсаюз заклікаў «паважаць асноўныя правы студэнтаў, выкладчыкаў і навуковых супрацоўнікаў БДУ», а таксама паабяцаў «і надалей уважліва сачыць за сітуацыяй у БДУ і іншых вышэйшых навучальных установах Беларусі». А калі з нашымі навукоўцамі разарвуць міжнародныя абмены, рэктару БДУ будзе сказана: «Мы папярэджвалі, а таму... Вы ж самі ўсё разумееце!».

Самае цікавае, што тычыцца гэтая агульная сітуацыя «таксічнасці» не толькі гуманітарнай сферы, але і эканомікі. Па звестках тэлеграм-канала «Эканоміка па-беларуску», які, у сваю чаргу, спасылаецца на ўплывовае цэнавае агенцтва Argus Media, еўрапейскія банкі адмаўляюць у фінансаванні здзелак па рэалізацыі беларускіх нафтапрадуктаў. Акрамя таго, некаторыя трэйдары чакаюць, што Еўрапейскі саюз неўзабаве можа ўвесці санкцыі ў дачыненні да Беларусі, аналагічныя санкцыям ЗША, што зробіць немагчымым фінансаванне такіх здзелак і ў еўра.

У адной з гандлёвых кампаній звярнулі ўвагу на пункт у санкцыях, які абвяшчае, што любая фізічная або юрыдычная асоба, якая «аказвае фінансавую, матэрыяльную або тэхналагічную падтрымку» кампаніям, што знаходзяцца пад санкцыямі, можа быць падвергнутая рызыцы ўвядзення санкцый у дачыненні да сябе. «Такім чынам, нават адна транзакцыя можа быць патлумачаная як парушэнне пастановы ўладаў ЗША», — гаворыцца ў паведамленні.

І гэта вельмі сур'ёзная сітуацыя, бо сучасны свет не з'яўляецца светам дэфіцыту, як у мінулым стагоддзі. Цяпер важна не стварыць прадукцыю, а ўмець яе прадаць. Таму санкцыі менавіта на куплю прадукцыі нашых прадпрыемстваў могуць стаць найбольш балючымі для кіраўніцтва краіны. А да гэтага ўсё ідзе, і часу застаецца ўсё меней. Напоўніцу амерыканскія санкцыі запрацуюць з 3 чэрвеня, то-бок праз два тыдні.

А калі ЕС сапраўды ўвядзе санкцыі, аналагічныя санкцыям ЗША? Вы ж самі ўсё разумееце, праўда?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Марына Золатава

**Галоўны рэдактар партала TUT.BY, удава Юрыя Зісера Юлія Чарняўская, а таксама яшчэ 7 чалавек знаходзяцца за кратамі пасляператрусу ў офісе і кватэрах, які праводзілі супрацоўнікі ДФР.**

Ператрусы 18 траўня адбыліся таксама ў рэгіянальных офісах TUT.BY і ў афіляваных з парталам кампаніях: Hoster.by і ў яе кіраўніка Сяргея Павалішава, а таксама ў офісе av.by — платформы, з дапамогай якой прадаюць/купляюць машыны і запчасткі да іх. Hoster.by — найбуйнейшы рэгістратар і тэхнічны адміністратар нацыянальных даменных зонаў .BY / .БЕЛ., а таксама адзіны ў краіне акрэдытаваны рэгістратар міжнародных даменаў. Av.by аб'ядналася з TUT.BY у адну платформу яшчэ ў красавіку 2017 года.

ДФР патлумачыў, што адносна TUT.BY распачата крымінальная справа па няспалаце падаткаў. Маўляў, ТАА «ТУТ БАЙ медыя» ў 2019 годзе атрымала статус рэзідэнта Парка высокіх тэхналогій (ПВТ). Паводле інфармацыі ДФР, таварыствам «была атрымана выручка, не абумоўленая дзейнасцю, дазволенай для рэзідэнтаў ПВТ». «У выніку неабгрунтаванага выкарыстання ТАА "ТУТ БАЙ медыя" дзяржаўнай падтрымкі як рэзідэнта ПВТ дзяржаве быў нанесены ўрон у асабліва буйным памеры», — заявілі ў ДФР.

Варта зазначыць, «ТУТ БАЙ медыя» выключылі з ПВТ толькі ў дзеньператрусу, 18 траўня.



### Вадзім Саранчукоў

**Намеснік старшыні Партыі БНФ прызначаны часовым выконваючым абавязкі старшыні партыі і грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне».**

Адпаведнае рашэнне было прынятае 15 траўня на пасяджэнні Сойма партыі і аб'яднання, паведаміла прэс-служба БНФ. Адзначаецца, што Рыгор Кастусёў застаецца лідарам партыі, а новы старшыня БНФ можа быць абраны толькі на наступным з'ездзе. «Цяперашняе рашэнне мае выключна тэхнічны характар і накіравана на забеспячэнне ўстойлівай працы партыі і грамадскага аб'яднання як юрыдычных асоб», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы.

Рыгор Кастусёў быў затрыманы 12 красавіка ў Шклове. Яму прад'яўленае абвінавачанне па так званай справе аб «замаху на Лукашэнку» — ч. 1 арт. 357 КК (змова або іншыя дзеянні, здзейсненыя з мэтай захопу ці ўтрымання дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам).

Верагодна, менавіта Саранчукоў павядзе БНФ на мясцовыя выбары, якія павінны адбыцца ўзімку 2021/22 гадоў.



### Кацярына Барысевіч

**Карэспандэнтка TUT.BY вызваленая па адбыцці тэрміну пакарання. Сустракаць яе давялося з гомельскай жаночай калоніі.**

Прыкладна ў 7:24 раніцы Каця выйшла з варот калоніі з дзвюма вялікімі сумкамі.

Найперш яна патэлефанавала 18-гадовай дачцэ Дашы, якая чакала маму разам з іншымі роднымі ў Мінску. Кацярына распавяла, што доўга не магла забраць усе лісты, а атрымала яна іх за паўгода каля 500.

Нагадаем, Кацярыну Барысевіч судзілі па справе аб «нуль праміле» — гаворка ідзе пра артыкул Барысевіч пра смерць Рамана Бандарэнкі «Урач БХМД: «У Рамана Бандарэнкі было нуль праміле алкаголю, наогул нічога не знайшлі»», лекар Сарокін даў каментар пра стан пацыента.

Улады ўгледзелі ў гэтым разгалошванне медыцынскай таямніцы, якое пацягнула за сабой цяжкія наступствы — паводле версіі Генпракуратуры, гэта «падвышаная напружанасць у грамадстве, стварэнне атмасферы недаверу да кампетэнтных дзяржаўных органаў, падахвочванне грамадзян да агрэсіі і проціпраўных дзеянняў». Барысевіч асудзілі на паўгода пазбаўлення волі. Вінаватым па справе быў прызнаны і лекар Арцём Сарокін, ён атрымаў 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год і выйшаў на волю пасля абвяшчэння прысуду. І Кацярына, і Арцём віну не прызналі.

Кацярына была затрыманая 19 лістапада 2020 года, і ўвесь гэты час яна ўтрымлівалася ў СІЗА, а адзін дзень у СІЗА прыраўноўваецца да аднаго дня ў калоніі. У калонію яе этапавалі за тыдзень да вызвалення.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У рожкі з Канфуцыем, або Чаму Беларусь не бярэ прыклад з Кітая

**Сучасны чалавек пры ўсёй яго рацыянальнасці лёгка спакушаецца на ідэалагічныя прынады, якія дзяржаўныя прапагандысты шчодра раскідваюць за бюджэтныя грошы.**




Беларускі аналаг кнігі Мікалая Куна «Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі» яшчэ не напісаны. Але ў будучага аўтара праблем з фактурай не ўзнікне.

Ранжыраваць міфы па ступені іх значнасці — асобная праблема, але пры любым раскладзе ў лідарах акажацца міф пра паспяховасць беларускай мадэлі. Ён падсілкоўваецца не аб'ектыўнымі паказчыкамі эканамічнага развіцця, а параўнаннямі, па-першае, з «ліхімі дзевяностымі», па-другое — з краінамі, чые поспехі без слёз апісаць немагчыма.

Нельга сабе ўявіць, каб «залатыя пёры» беларускай журналістыкі звярталіся ў якасці прыкладу да досведу Сінгапура або Ганконга. Але з «поспехамі» Украіны, якая прайшла праз дзве каляровыя рэвалюцыі, — калі ласка. Пры гэтым бессэнсоўна шукаць інфармацыю пра тое, колькі рэсурсаў Украіна вымушана адцягваць на змаганне з расійскай агрэсіяй. Гэтак жа бессэнсоўна спрабаваць азнаёміцца са статыстыкай датавання беларускай мадэлі «нашай Расіяй».

Каб не быць абвінавачаным у схільнасці высмоктваць інфармацыю з пальца, спашлюся на заяву чалавека з прозвішчам Пуцін, якую ён зрабіў у лютым 2017 года: «Калі вы паглядзіце лічбы, якія прадстаўляе МВФ, то ўбачыце ўражлівыя лічбы схаванай і прамой падтрымкі беларускай эканомікі».

МВФ ацэньваў агульную падтрымку беларускай эканомікі з боку Расіі ў $106 мільярдаў толькі за перыяд 2005–2015, або каля $9,7 мільярда на год (ад 11 да 27% беларускага ВУП). Сёння на такі ўзровень датацый разлічваць не даводзіцца. Тым не менш, паводле інфармацыі «Газпрома», на льготных цэнах за газ за пяць гадоў (2015–2019) было зэканомлена $7,4 мільярда — дробязь, а прыемна!

Як заўважыў адзін шырока вядомы ў вузкіх колах беларускі навуковец, дыпламат і палітык (тры ў адным): «Лепшае, што можна прапанаваць, — маштабаванне гісторыі поспеху. У Беларусі ёсць нямала прыкладаў, якія паказальныя не толькі для постсавецкай прасторы, але і для ўсяго свету».

Падобная ж думка, але гэтым разам з самай аўтарытэтнай крыніцы, прагучала 7 траўня падчас уручэння дзяржаўных узнагарод: «Так, гэта ўжо мы з вамі іх (БЕЛАЗ, МТЗ, Мінскі маторны завод) мадэрнізавалі, абнавілі абсталяванне і ўкаранілі новыя тэхналогіі, але асновы і традыцыі заклалі нашы бацькі і дзяды, стварылі цэлыя школы, якія *не могуць сёння паўтарыць іншыя краіны* (вылучана. — С.Н.)».

Сапраўды так! Не могуць, таму што не здольныя ацаніць вартасцяў рухавікоў Мінскага маторнага завода. Вось і даводзіцца небаракам на аўтамабілі, вырабленыя на сумесным прадпрыемстве ЗАТ «МАЗ-МАН», мантаваць нямецкія рухавікі.

## Прыватызаваць можна не толькі заводы і фабрыкі

Адсутнасць рэальных дасягненняў у сучаснасці прымушае адказных за міфатворчасць звяртацца да мінулага. Найбліжэйшае мінулае — савецкае. Але ў савецкіх гістарычных засеках акрамя Гагарына і Перамогі іншыя значныя для сённяшняга дня дасягненні не праглядаюцца. Дый з Гагарыным праблема. Нованароджанай касмічнай дзяржаве ў геаграфічным цэнтры Еўропы яго ў Расіі не забрацьь.

Нашы прэтэнзіі на вырашальны ўклад у Перамогу, здавалася б, бясспрэчныя. Тым не менш кожную вясну пра гэта даводзіцца нагадваць — і ў першую чаргу нашчадкам пакаленняў на Захадзе, «якія развязалі гэтую вайну».

Пратэсты 2020 года дазваляюць перакінуць масток (правесці пэўныя аналогіі) «паміж падзеямі ваеннага часу і тымі выклікамі, з якімі сутыкнулася Беларусь цяпер». Сучасная сітуацыя, як гэта не падасца дзіўным, складанейшая, «паколькі процідзейнічаць даводзіцца схаваным сілам». Адбудоўвацца трэба на маршы. «Але пераважная большасць беларусаў разумее, нашчадкамі якога гераічнага пакалення з'яўляецца. І забраць у нас права свабодна жыць і працаваць у роднай краіне ніхто і ніколі не зможа».

Каб не трапіць на месца расійскага палітыка Аляксея Навальнага, на якога ветэран падаў у суд, перанясуся з Беларусі ў Расію з дапамогай цытаты з кнігі «Бясконцая імперыя» гісторыка Аляксандра Абалава і эканаміста Вячаслава Іназемцава: «Улада прыватызавала народныя смутак і памяць? спарадзіла дзясяткі прыватных міфаў пра подзвігі ў гады вайны. < ... > Міфалогія гісторыі, якая зводзіцца да герaізацыі ваенных перамог, мела два вынікі: з аднаго боку, яна легітымізавала праблемы ды заклікала насельніцтва цярпліва трываць нягоды і не здавацца перад нарастаючымі цяжкасцямі. З іншага боку, яна спрыяла прыкметнай канцэнтрацыі ўвагі на ролі асобы (правадыра), што абярнулася рэабілітацыяй Сталіна і сталінізму».

У палітыкі падтрымання стабільнасці з дапамогай гераізацыі мінулага ёсць сур'ёзныя заганы. У прыватнасці, узнікае пытанне: чаму праз 75 гадоў пасля заканчэння вайны пераможцы жывуць горш за пераможаных? І гэта пры фантастычнай паспяховасці беларускай мадэлі! Патрабуюць тлумачэння і паводзіны нашых былых калег па Саюзе непарушным, якія зрабілі свой геапалітычны выбар на карысць пераможанага ворага. Пытанні, пытанні…

Савецкі Саюз быў краінай з непрадказальным мінулым, што выяўлялася ў рэгулярным перапісванні гісторыі. Практычна кожны новы генеральны сакратар пачынаў адбудоўваць сваю легітымнасць на крытыцы папярэдніка. Адзіны беларускі палітык (АП) у гэтым сэнсе выключэннем не стаў. Сваё ўзыходжанне на электаральную вяршыню ў 1994 годзе ён здзейсніў не насуперак, а дзякуючы чамаданам кампрамату. І ніхто сёння не дасць гарантыі, што яго пераемнік эксперымент з чамаданамі не паўторыць.

## Палітыка як пагроза

Поспех спараджае зайздрасць. У спісе смяротных грахоў зайздрасць пазначаная пад другім нумарам. Віртуальныя поспехі спараджаюць віртуальную зайздрасць. Але да такой зайздрасці не варта ставіцца пагардліва.

**Савецкі Саюз быў краінай з непрадказальным мінулым, што выяўлялася ў рэгулярным перапісванні гісторыі. Кожны новы генсек пачынаў адбудоўваць сваю легітымнасць на крытыцы папярэдніка**

Калі дыстанцыя ад вялікага да смешнага часам не перавышае аднаго кроку, то пераход ад віртуальнага да рэальнага можна ажыццявіць адным клікам. Тыя, хто авалодаў мастацтвам здабываць даходы з забеспячэння інфармацыйнай бяспекі, гэта добра разумеюць.

На міфах пра знешніх і ўнутраных ворагаў карміліся, корміцца і будзе карміцца яшчэ не адно пакаленне прапагандыстаў. Канспіралагічная свядомасць ім у дапамогу!

Вось як гэты тып свядомасці вызначае дырэктар «Лявада-цэнтра» сацыёлаг Леў Гудкоў: «Гэта ажыўленне істотнага і магутнага пласта савецкай палітычнай культуры, рудыментаў сталінскай падазронасці і практыкі «барацьбы са шкоднікамі, шпіёнамі і дыверсантамі», сацыяльна «чужымі элементамі», што цалкам ніколі не знікалі. Такія ўстаноўкі вельмі жывучыя. Яны ўзнаўляюцца дзякуючы захаванасці таталітарных інстытутаў, хоць сёння ніхто не ведае той атмасферы масавага тэрору, якая спарадзіла ўсе падобныя ідэалагемы і міфы».

Свет тых, хто сёння праклaдае курс беларускай мадэлі, — гэта свет, у якім ідзе жорсткая барацьба за чарговы перадзел сфераў уплыву. Народам, якія не здольныя абараніць незалежнасць і суверэнітэт, не пазайздросціш. Натуральна, у такім свеце «нам трэба як ніколі быць разам і трымацца адзін за аднаго». Таму любы намёк на разнастайнасць у поглядах і ацэнках палохае — і не важна, ці ідзе гаворка пра мінулае, сучаснасць або будучыню.

Такі беларускі шлях. Ён, дарэчы, істотна адрозніваецца ад шляху нашага традыцыйнага партнёра Кітая. Я не спецыяліст па культуры Паднябеснай, таму спашлюся на расійскага філосафа Аляксея Глухава. «Канфуцый да таго, як стаў вучыць, абраў тры тысячы народных песень і з іх вылучыў трыста найлепшых. Ідэя была ў тым, што кіраўнік мусіць ведаць свой народ, ён павінен збіраць яго песні, каб зразумець, «як народ працуе», і як ім кіраваць. Зразумець, якія ўяўленні ў народа, што добра, а што дрэнна».

Канфуцый, як нескладана заўважыць, прапаноўваў «ісці ад жыцця», а трыста адабраных ім песень павінны былі дапамагчы кіраўніку ўсвядоміць разнастайнасць гэтага жыцця. Без чаго немагчыма ажыццяўляць эфектыўнае кіраванне.

Насуперак вядомай савецкай песні, зверху відаць не ўсё, далёка не ўсё... І чым вышэй размешчаны назіральнік, тым большы ўзровень абагульнення. У выніку застаюцца адрознымі толькі *нашы* і *не нашы*. Апошнія ў Беларусі абвяшчаюцца крымінальнымі злачынцамі — а гэта дапускае супраць іх любы ўзровень рэпрэсій.

Прызнанне *нянашых* палітычнымі апанентамі аўтаматычна азначала б прызнанне складанасці грамадства. Але патрэба ў палітыцы, калі хто забыў, фарміруецца там і тады, дзе і калі з адзінай архаічнай супольнасці пачынаюць вылучацца групы, якія ўсведамляюць свае — г. зн. групавыя — інтарэсы. Палітыка ж — гэта выключна дзейнасць па ўзгадненні інтарэсаў.

# Ёсць яшчэ час падрыхтавацца да крызісу



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Стан беларускай эканомікі нярадасны — гэта ні для каго не сакрэт. Паступленне валюты ў краіну скарачаецца — пра гэта нам кажуць не толькі незалежныя фінансавыя аналітыкі, але і ўлады. Напрыклад, Лукашэнка нядаўна падпісаў указ-загад па размяшчэнні дзяржаўных каштоўных папер на расійскім рынку на суму ў 100 мільярдаў расійскіх рублёў. А раней жа мы размяшчалі еўрабонды!**

Навіны на фінансавым рынку нагадваюць «хронікі пікіруючага бамбардзіроўшчыка». Апроч згаданага ўказу пра аблігацыі пішуць, што беларусы працягваюць забіраць валюту з банкаў. Па выніках красавіка 2021 года сярэднія рэшткі па пераводных валютных дэпазітах грамадзян склалі 1,344 млрд долараў у эквіваленце, а па іншых дэпазітах — 4,407 млрд долараў. Бесперапыннае падзенне рэшты валютных укладаў адзначаецца 15 месяцаў запар — за гэты час з банкаў забралі 1,804 млрд долараў.

Пры гэтым насельніцтва не толькі забірае банкаўскія дэпазіты, але і працягвае скупляць валюту: у красавіку фізасобы на чыстай аснове набылі ў банкаў 123,1 млн долараў (супраць 24,5 млн долараў у сакавіку).

Экспарт Беларусі за першыя два месяцы года (больш поўных звестак пакуль няма) вырас на 16% у параўнанні да такога ж перыяду мінулага года. Але не варта цешыцца з гэтай нагоды: рост паказнікаў забяспечаны за кошт так званай «нізкай базы» мінулага года. «Нізкая база» — гэта значыць, што ў студзені-лютым 2020-га (з якім параўноўваецца 2021-ы) знешні гандаль перажываў заняпад. У той перыяд, калі памятаеце, у нас паўстала «нафтавая спрэчка» з Расіяй, і расійская нафта практычна не пастаўлялася на беларускія НПЗ. Не было нафты — не было вытворчасці. Не было вытворчасці — не было экспарту. У выніку ўзнікла тая самая «нізкая база» — нізкія паказчыкі мінулага года.

Гэтая «нізкая база» яскрава бачная па паказчыку павелічэння вытворчасці прадукцыі нашымі нафтаперапрацоўчымі заводамі — за тры месяцы ў адносінах да таго ж перыяду 2020 года рост вытворчасці склаў 47,1%! Тое, што вытворчасць вырасла на такую шалёную лічбу, якраз дэманструе, наколькі нізкая была тая «база» ў мінулым годзе.

Пры гэтым Беларусь не атрымлівае крэдытнай падтрымкі не толькі з Захаду, але і з Расіі. Планы на аблігацыі коштам у 100 мільярдаў рублёў — гэта, канешне, добра, але гэта толькі планы. У рэальнасці ж мы яшчэ не атрымалі траціну (500 млн долараў) з вылучанага восенню мінулага года крэдыту ў 1,5 млрд долараў, і надзей на яго атрыманне да канца вясны проста няма. Урадавыя чыноўнікі спадзяюцца (спадзяюцца — ключавое слова) атрымаць гэтыя грошы ў чэрвені.

Здавалася б, у такой сітуацыі валютнага крызісу сапраўды варта чакаць.

### Як доўга можам пратрымацца?

Усе спецыялізаваныя рэсурсы спрабуюць ацаніць ступень валютнай устойлівасці краіны, нават здзіўляючыся нашай стойкасці. Напрыклад, з гэтага пункту гледжання ацэньваюцца беларускія золатавалютныя рэзервы.

На 1 траўня ЗВР Беларусі паводле методыкі МВФ склалі 7,278 млрд долараў. Акрамя рэзерваў у афіцыйным вызначэнні ёсць невялікі загашнік, які называецца «іншыя актывы», не ўключаныя ў рэзервовыя. Да 1 траўня памер гэтых актываў склаў 234,4 млн долараў. Хоць гэтыя актывы фармальна не ўваходзяць у ЗВР, але яны лёгка могуць туды перамяшчацца і выходзіць назад. Патэнцыйна гэта пэўны запас для падтрымання ЗВР.

Нацбанк рэгулярна дае справаздачу, што расходуе некаторыя сумы пры інтэрвенцыях для згладжвання ваганняў курсу беларускага рубля. Розныя кампаненты рэзерваў нельга называць раўнацэннымі ў плане прыдатнасці да такіх інтэрвенцый. Напрыклад, золата — гэта апошняе, што прадаюць цэнтрабанкі, каб стрымаць дэвальвацыю нацыянальнай валюты. Таксама для інтэрвенцый непрыдатныя спецыяльныя правы запазычання. На 1 траўня іх доля ў ЗВР Беларусі склала 533,9 млн долараў. СПЗ — гэта рэзервовыя актывы, якія МВФ размяркоўвае паміж краінамі-чальцамі прапарцыйна квоце гэтых краін.

А вось так званыя «актывы ў замежнай валюце» ў найбольшай ступені падыходзяць для інтэрвенцый. На 1 траўня іх памер дасягнуў 2,854 млрд долараў. Апроч валютных актываў, у складзе ЗВР ёсць яшчэ «іншыя актывы». На 1 траўня іх памер склаў 1,047 млрд долараў. Практычна ўсе гэтыя актывы прадстаўлены каштоўнымі паперамі, узятымі ў пазыку або набытымі па пагадненнях РЭПО. Дадзеныя актывы можна выкарыстоўваць для пагашэння валютных даўгоў уладаў.

Такім чынам, да 1 траўня рэзервы, патэнцыйна прыдатныя для інтэрвенцый і пагашэння даўгоў крыху не дасягалі 3,9 млрд долараў.

У той жа час, паводле звестак Нацбанка, загадзя абумоўленыя траты валютных актываў (чытай, выплаты знешняй запазычанасці, абслугоўванне дзярждоўгу і да таго падобныя выдаткі) на 12 месяцаў наперад дасягалі 3,124 млрд долараў.

То-бок, калі на працягу гэтых 12 месяцаў улады не змогуць перахапіць грошай і нешта «рэструктурызаваць», то да наступнага свята вясны і працы ад прыдатных для размяшчэння на біржы валютных рэзерваў застанецца каля 0,7 млрд долараў — у 5 разоў менш, чым цяпер.

На гэтым фоне, вядома, усе чакаюць дэвальвацыі. Але яна ўсё не надыходзіць і не надыходзіць. Чаму?

### Элементарны эканамічны закон

Старшы аналітык «Альпары Еўразія» Вадзім Іосуб кажа, што курс долара пачынае расці не з-за санкцый, не з-за дынамікі ўкладаў, не з-за эканамічных праблем. Паводле яго слоў, да курсу долара трэба ставіцца як да цаны на тавар. «Курс долара расце, калі попыт на яго перавышае прапанову, калі валюты купляюць больш, чым яе прадаюць — просты рынкавы закон попыту і прапановы», — тлумачыць ён.

Цяпер жа на рынку назіраецца іншая дынаміка. «У красавіку суб'екты валютнага рынку — прадпрыемствы-рэзідэнты, прадпрыемствы-нерэзідэнты, насельніцтва, банкі — сумарна валюты прадалі больш, чым купілі. Асноўная заслуга продажу валюты была, вядома, за прадпрыемствамі — у красавіку плацяцца квартальныя падаткі. Гэта значыць, прадпрыемствам-экспарцёрам, у якіх ёсць валютная выручка, патрэбныя былі рублі, каб заплаціць падаткі. Яны прадавалі валюту, і за кошт гэтага беларускі рубель умацоўваўся», — адзначае спецыяліст.


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Па траўні, адзначае Іосуб, пакуль статыстыкі мы не ведаем, гэтая статыстыка будзе вядомая ў чэрвені. «Але мяркуючы па дынаміцы курсаў, можна канстатаваць, што цяпер валюту таксама больш прадаюць, чым набываюць. У прыватнасці, калі мы гаворым пра насельніцтва, гэта можа быць звязана з тым, што тэмпы рэальных даходаў насельніцтва запавольваюцца. Гэта значыць, у людзей усё менш свабодных рублёў, якія яны маглі б пусціць на куплю валюты. Але сітуацыя залежыць не толькі ад людзей, але і ад усіх удзельнікаў рынку. Нават калі людзі будуць актыўна прадаваць валюту, але прадпрыемствы будуць яе актыўна купляць — курс пойдзе ўверх. Тут не вельмі істотна, што асобна робяць прадпрыемствы, а асобна людзі. Важная сума іх дзеянняў», — адзначае спецыяліст.

Таму, калі казаць пра кароткатэрміновую перспектыву, то, на думку Іосуба, на працягу тыдня-двух беларускі рубель можа працягнуць рост. А вось у чэрвені можа паўстаць фактар зніжэння валютнай выручкі ў прадпрыемстваў, якія трапілі пад санкцыі ЗША — гэта прадпрыемствы нафтахіма. «І вось гэта — адна з прычын, якая можа перапыніць умацаванне рубля і разгарнуць тэндэнцыю ў іншы бок», — кажа Іосуб.

### Усё яшчэ захоўваеце грошы ў банку?

Таму пачатак валютнага крызісу прадказаць наўрад ці мажліва — на тое ён і завецца «крызісам». Але гэта не значыць, што да яго нельга падрыхтавацца. Беларускія ўлады самі пасылаюць трывожныя сігналы насельніцтву.

Напрыклад, беларускія банкі гадамі адлічваюць сродкі ў агенцтва гарантаванай кампенсацыі банкаўскіх укладаў (дэпазітаў) фізічных асоб, тым самым фарміруючы пэўны «недатыкальны рэзерв». З гэтага рэзерву павінны ажыццяўляцца выплаты ўкладчыкам у тым выпадку, калі які-небудзь з банкаў раптам спыніць дзейнасць і не зможа самастойна выплаціць дэпазіты. Гарантамі захаванасці сродкаў выступалі Нацбанк і Міністэрства фінансаў.

Аднак нядаўна ў пералік гарантаў унеслі яшчэ і Банк развіцця, прычым у навінах адзначалася, што ў гэтым выпадку Банк развіцця «атрымае дадатковую ўстойлівую крыніцу фінансавых рэсурсаў».

Крыніца не тое каб залатаносная, але, па сённяшніх часах, вельмі шчодрая. Сума банкаўскага рэзерву ацэньваецца як блізкая да 2 мільярдаў беларускіх рублёў — зменшага, год таму ў фондзе было каля 1,7 мільярда. Дарэчы, гэтая сума амаль роўная памеру дэфіцыту бюджэту за першы квартал 2021 года.

Банк развіцця ж вядомы тым, што ён, у асноўным, фінансуе разнастайныя стратныя праекты беларускай дзяржавы — мадэрнізацыі, аграпрамысловы комплекс, і гэтак далей. У сувязі з гэтым у многіх паўстала пытанне: ці не пагоршыць гэта магчымасці Агенцтва выконваць свае абавязацельствы па кампенсацыі дэпазітаў?

Вадзім Іосуб не бачыць у гэтым рашэнні нічога асаблівага. «Наколькі я памятаю, раней гэтае Агенцтва магло купляць каштоўныя паперы Нацбанка і Мінфіна. Цяпер яно можа купляць каштоўныя паперы Банка развіцця. Банк развіцця цалкам належыць дзяржаве. І дзяржава будзе адказваць па ўсіх абавязацельствах Банка развіцця. Аблігацыі Банка развіцця, з пункту гледжання рызык, надзейнасці, рэйтынгаў знаходзяцца на адным узроўні з аблігацыямі ўрада», — кажа адмыслоўца.

Што ж да таго, што Банк развіцця «раскашэльваецца» на стратныя дзяржаўныя праекты, то Іосуб адзначае, што «роўна гэтым жа вядомы і наш урад». «Я не хачу сказаць, што Банк развіцця і наш урад аднолькава добрыя, але пры гэтым яны проста аднолькавыя. На самай справе, якім чынам грошы Агенцтва па гарантаванай кампенсацыі банкаўскіх укладаў патрапяць на рахункі неэфектыўных дзяржпрадпрыемстваў — праз аблігацыі Мінфіна або праз аблігацыі Банка развіцця — мне падаецца, прынцыпова розніцы няма. Практыка, безумоўна, дрэнная, але гэта рашэнне з Банкам развіцця сітуацыю асабліва не пагоршыла», — адзначыў Іосуб.

Праўда, з пункту гледжання даверу да банкаўскай сістэмы гэты крок выглядае даволі сумнеўным. І гэта можа стаць яшчэ адным штуршком для таго, каб людзі захоўвалі валюту ў панчохах, а не на банкаўскіх дэпазітах.

# «Калі яго вялі ў кайданках у залу суда, я крыкнула: «Я цябе кахаю!»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**З Аляксандрай, жонкай палітзняволенага Дзяніса Гуціна, мы сустрэліся ў перапынку паміж пасяджэннямі суда над ім. Хоць працэс закрыты, жанчына ўсё адно дзяжурыць пад дзвярыма залы суда, каб хаця б на секунду пабачыць мужа.**






## «Хто, калі не я?»

Дзяніс Гуцін знаходзіцца за кратамі з верасня як адміністратар тэлеграм-канала «Кіроўцы 97». Яго абвінавачваюць у арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парашаюць грамадскі парадак (арт. 342 КК, ч. 1.2.). Хлопцу пагражае да трох гадоў зняволення.

Сям'я Гуціных жыве на ўскрайку Мінска ў прыватным доме разам з бацькамі Дзяніса. У сям'і трое дзяцей, два з якіх — блізняткі. Малодшы сын Марк мае групу інваліднасці. Сам Дзяніс займаўся сантэхнічным мантажом абсталявання, апошнім часам працаваў як індывідуальны прадпрымальнік. Аляксандра працуе ў краме.

— Муж заўсёды змагаўся з несправядлівасцю, — узгадвае Аляксандра. — Ён як не мог спакойна глядзець на разбітыя дарогі каля дома, так і не мог спакойна глядзець на тое, што адбывалася ў краіне пасля 9 жніўня. Я прасіла яго быць асцярожным, а ён мне на гэта адказваў: «А хто тады, калі не я?»

Дамоў да Гуціных супрацоўнікі ГУБАЗіКу прыйшлі 22 верасня.

— Я адчыніла дзверы, бо мужа не было дома. Яны мяне адштурхнулі і сказалі, што самі паглядзяць. Дзеці моцна спужаліся, ва ўсіх забралі тэлефоны. Дзяніса тады знайшлі ў горадзе і асудзілі на 15 сутак за ўдзел у адным з маршаў.

**Дзяніс у лістах піша, як ганарыцца беларусамі і сваёй краінай. Часта паўтарае, што ён шчаслівы чалавек. Нават калі б у яго была магчымасць пражыць жыццё інакш, то Дзяніс нічога б у ім не мяняў. Аляксандра кажа, што і яна мужам ганарыцца**

З ІЧУ пасля сутак Дзяніс не выйшаў. У хуткім часе Дзяніс стаў падазраваным па крымінальнай справе, яго змясцілі ў СІЗА на Валадарскага. Праваабаронцы прызналі хлопца палітвязнем.

— Калі мужа забралі, я зразумела, што праз 15 сутак яго не выпусцяць, але верыць у гэта не хацела, — узгадвае Аляксандра. — І тады ў мяне нібыта зямля з-пад ног сышла. Усе побытавыя справы былі на ім: за ўсё заплаціць, адвесці дзяцей у садок... Я ж працую з восьмай раніцы да дзявятай гадзіны вечара, таму не заўсёды магла гэта рабіць. А ён працаваў на сябе, меў больш гнуткі графік. Некалькі месяцаў я проста жыла на аўтамаце... Але што рабіць? Навучылася, можна сказаць, жыць наноў.

## Жыццё наноў

Пасля затрымання Дзяніса Аляксандра была вымушана шукаць падпрацоўку. І тут уладальнік суседняга катэджа з офіснымі памяшканнямі, які дапамагаў будаваць яе муж, прапанаваў жанчыне яго прыбіраць.

— Некалькі месяцаў я прыбірала гэты катэдж: прыязджала пасля 21 гадзіны дадому з працы, укладала дзяцей спаць і ўначы ішла прыбіраць катэдж. Спала па некалькі гадзін на суткі. Дзяніс быў супраць таго, каб я столькі працавала. Але іншай магчымасці выплачваць крэдыты, якія на нас вісяць, у мяне не было.

Першыя лісты мужу ў СІЗА Аляксандры даваліся цяжка: не ведала, пра што і як пісаць: «Падавалася, што лісты ў наш час — гэта дзікунства. Гэта цяпер ужо прызвычаілася па пяць аркушаў пісаць».

Дзяніс за кратамі навучыўся маляваць і... гатаваць! Аляксандра кладзе мужу грошы на рахунак, і калі прыязджае «атаварка», то ён разам з сукамернікамі набывае каржы, згушчонку — і робіць тарты! Хваліцца Аляксандры, што цяпер ведае шмат рэцэптаў простых страў і абавязкова ім навучыць жонку, калі выйдзе на волю.

Дзяніс у лістах піша, як ганарыцца беларусамі і сваёй краінай. Часта паўтарае, што ён шчаслівы чалавек. Нават калі б у яго была магчымасць пражыць жыццё інакш, то Дзяніс нічога б у ім не мяняў. Аляксандра кажа, што і яна мужам ганарыцца, хоць і ў першыя месяцы зняволення на яго злавалася. Але пасля супакоілася: «Не адзін жа ён такі сядзіць — сядзяць бацькі, у якіх па пяцёра дзяцей засталося, матулі сядзяць...»

## «Мама, а тату міліцыя забрала?»

— Ці ведаюць дзеці, дзе знаходзіцца іх тата? — пытаю Аляксандру.

— Спачатку я сказала, што тата ў камандзіроўцы, а пасля распавяла ўсё, як ёсць. Марк мне пастаянна задае пытанне: «Мама, а тату міліцыя забрала?». Як тут праўду не скажаш? Але я кажу яму, што тата хутка прыйдзе дадому.

У пяцігадовага Марка — другая ступень страты здароўя праз касавокасць. Да таго ж, нядаўна яму паставілі моўнае парушэнне: хлопчыка трэба вадзіць да лагапеда і псіхатэрапеўта.

— У нас наперадзе аперацыя на вочы, — распавядае Аляксандра. — Я шмат разоў прасіла спатканне з мужам, каб параіцца з ім, дзе лепш яе рабіць. У лякарнях з Маркам заўсёды ляжаў Дзяніс. Але сустрэцца нам не дазволілі... Цягнуць няма куды, аперацыю трэба было рабіць яшчэ паўгода таму. Але як, калі жыццё падзялілася на «да» і «пасля»?

## Хадзіць на суды, каб пабачыць на хвіліну мужа

Судовы працэс над Дзянісам распачаўся 5 траўня. Пасяджэнні праходзяць па некалькі разоў на тыдзень у закрытым фармаце. Жонцы вядома толькі тое, што Дзяніс на пасяджэннях маўчыць. Адзінае, што ён збіраецца прамовіць, — гэта апошніе слова. Аляксандра ходзіць на кожнае пасяджэнне. У яе ёсць пару секунд на тое, каб пабачыць мужа: падчас таго, калі яго заводзяць і выводзяць з залі пасяджэнняў.

— Калі я першы раз за восем месяцаў яго пабачыла, у мяне не сыходзіла ўсмешка з твару, — распавядае Аляксандра. — Тады не адчувала роспачы — яна прыйшла ўжо пасля. Калі яго вялі ў кайданках у залу суда, я крыкнула: «Я цябе кахаю! Я з табой!» Ён гукнуў мне, што таксама мяне кахае. Мне падалося, што ён моцна схуднеў. Хаця я думала, з тымі пірагамі, якія я яму перадаю, схуднець немагчыма.

На адзін з судоў Аляксандра ўзяла старэйшага сына Глеба, якому хутка споўніцца дзевяць гадоў.

— Глеб быў вельмі шчаслівы, калі пабачыў тату. Калі мужа ўводзілі, Глеб крыкнуў: «Тата, цябе люблю!» Пасля ён не адыходзіў ад дзвярэй, калі ішоў суд, і пастаянна пытаў: «А калі тата яшчэ раз выйдзе?»

## Крыніца веры — муж

Аляксандра кажа, што Дзяніс наладжаны на перамогу. Сама яна рыхтуе сябе на горшае і чакае прысуду. Яна ўпэўнена, што пасля гэтага ёй стане лягчэй. Прынамсі, тады жанчына нарэшце зможа разлічваць на спатканне з мужам.

— Я проста прашу Бога, каб усё было добра, — дзеліцца Аляксандра. — Гэта ж трэба дажыць да такога, каб маліць Бога аб хіміі для мужа...

Калі Саша падае духам, то Дзяніс гэты дух падымае: «Мяне падбадзёрвае муж. Ён заўжды піша: «Зая, усё будзе добра». Пасля яго слоў і ў мяне вяртаецца вера ў перамогу». Дапамагаюць Аляксандры трымацца і сябры Дзяніса.

У перапісцы сужэнцы нягледзячы ні на што будуюць планы на будучыню. Першы пункт — гэта пераехаць у новую кватэру, якую пабудавала сям'я. Дзяніс яе яшчэ не бачыў, а Аляксандра ўжо па крысе сама перавозіць мэблю. Другі пункт у планах — павянчацца. Саша кажа, што да гэтага рашэння яны ідуць ужо некалькі гадоў.

А пакуль адбываецца судовы працэс над Дзянісам, на яго ўчастку стаіць чакае куратнік, які хлопец пабудаваў, каб разводзіць курэй... На арэлях катаюцца Глеб з Ульянай, а Марк ходзіць вакол іх з паламаным роварам і чакае тату, каб той хутчэй змог яго адрамантаваць.

Падтрымаць Дзяніса Гусціна можна лістамі на адрас: СІЗА-1, 220030 Мінск, Валадарскага, 2. К.61. Калі вы хочаце чымсьці дапамагчы сям'і Дзяніса, кантакты ёсць у рэдакцыі.

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**



Беларусь Спартыўная
СПЕЦЫЯЛЬНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by

9 АЛЯКСЕЙ КАЛЮЖНЫ: АД ПРАГНОЗАЎ УСТРЫМАЮСЯ – ЗАНАДТА ШМАТ У ЗАДАЧЫ НЕВЯДОМЫХ



14 – 15 АЛІМПІЯДА. АДВАРОТНЫ АДЛІК

# Глядзім на Рыгу, а бачым…

Сяргей КАЙКО

**Цягам бліжэйшых двух тыдняў у Латвіі не будзе падзеі больш яскравай і значнай, чым 84-ы чэмпіянат свету, які пачынаецца якраз 21 траўня. У элітным дывізіёне — 16 мацнейшых хакейных зборных планеты. Канада, ЗША, Расія, Фінляндыя, Швецыя, Чэхія, Германія, Швейцарыя, Славакія, Данія, Вялікабрытанія, Латвія, Італія, Нарвегія, Казахстан… І Беларусь.**







Фота www.hockey.by

У іх матчах будуць трашчаць барты, чубы, будуць ламацца клюшкі, а можа, нават і косці. Заўзятары розных краін збіраюцца правесці гэтыя дні, не адыходзячы ад тэлевізараў, каб нічога не прапусціць. Каб не страціць ні адну эмоцыю, не прагледзець ні адзін небяспечны момант ля чужых брам.

Замежных гледачоў зразумець лёгка. У іх унутры абсалютная гармонія, падагрэтая спрадвечнымі заўзятарскімі прадчуваннямі і салодкімі трывогамі. Іх зборная — гэта тое, што яны лёгка атаясамліваюць са сваёй радзімай. Іх хакеісты — гэта хлопцы, у якіх яны ясна бачаць саміх сябе. Перажываць за іх, зычыць ім удачы і поспеху — гэта ў чалавечай прыродзе. На тым спорт стаіць ужо шмат стагоддзяў і будзе стаяць надалей.

З беларускімі заўзятарамі — намі з вамі — сёння нашмат складаней. У нас гармоніі няма, а душа — нібыта на разрыў. Бо такі ён, сучасны айчынны хакей — ці не самы праўладны від спорту ў краіне, глыбока стыгмазаваны апошнімі палітычымі падзеямі. Тымі самымі, што дапамаглі нават самым памяркоўным беларусам канчаткова вызначыцца са сваім стаўленнем да ўлад.

Раней было неяк прасцей: пры ўсіх відавочных прыкметах аўтакратыі прастора для яднання заставалася. І дамашні чэмпіянат свету-2014 прайшоў у Мінску ў цёплай атмасферы, і на іншых турнірах за зборную заўзелі шчыра, і на замежных матчах нават збіраліся фанаты з бел-чырвона-белымі сцягамі. Хакеісты іх не цураліся, дзякавалі за падтрымку. Адміністрацыя маўкліва заплюшчвала на гэта вочы, а каментатары дзяржаўнага ТБ кожны раз набіралі ў рот вады, калі БЧБ-кластар на трыбунах раптам трапляў у кадр падчас жывой трансляцыі.

Але так было толькі да мінулага лета, якое змяніла ўсё.

Калі вы сёння завітаеце ў Фэйсбук ці адкрыеце каментары пад хакейнымі артыкуламі на спартыўных парталах, то наўрад ці знойдзеце там уцямную эмпатыю да бягучых вынікаў айчынных майстроў клюшкі і шайбы. Выключэнні здараюцца, аднак хутчэй толькі пацвярджаюць правілы — як у выпадку з беларускімі юнакамі, якія сенсацыйна ўвайшлі ў топ-8 на нядаўнім чэмпіянаце свету сярод 18-гадак. За гэтых хлопцаў на радзіме непрыхавана заўзелі, бо ні ў чым дрэнным не запрыкмечаная маладосць заўсёды выклікае сімпатыю — простую, чалавечую, якая па-за межамі грамадскіх дыскурсаў і кантэкстаў.

Да дараслага хакея рахункі прынцыпова іншыя. Бо праз вядомыя — драматычныя, а месцамі і трагічныя — эксцэсы ў шырокім грамадстве надта ж змяніліся светапоглядныя акцэнты і маральныя ацэнкі. І, напрыклад, той жа Дзмітрый Баскаў у масавай свядомасці цяпер не толькі кіраўнік нацыянальнай федэрацыі, але і асоба, якую падазраюць у датычнасці да смерці мастака-пратэстоўца Рамана Бандарэнкі. І якога, дарэчы, зрабілі неўязным у Латвію — і на ЧС ён проста фізічна не можа паехаць. Міхаіл Захараў цяпер таксама не толькі галоўны трэнер зборнай — ён яшчэ і чалавек, шчыльна набліжаны да Аляксандра Лукашэнкі, з якім, былі часы, нават разам збіраў кавуны на галоўных агародах краіны. Дый самі гульцы, што казаць, занадта падкрэслена яшчэ мінулым летам схавалі галаву ў пясок, каб цяпер у іх бок кучна ляцелі заўзятарскія флюіды.

Дый сам чэмпіянат нясе вядомае адценне — і беларускі бок на гэтым свяце нібыта ў ролі адрынутых. Праз тыя самыя гвалт, рэпрэсіі і іншае дзяржаўнае цемрашальства турнір са скандалам забралі ў Мінска, як у кепскага гаспадара, які запламіў сябе. І з гэтым адчуваннем гульцы каманды Захарава будуць кожны раз выходзіць на латвійскі лёд. І з гэтым уседамленнем мы будзем назіраць — і за імі, і за іх супернікамі.

Нарэшце, і хакей наш хвалёны зараз увогуле ў незайздросным становішчы. Гэта раней, у ліхія 90-я, якімі нас працягваюць страшыць, беларусы гулялі на Алімпіядзе, дзе крушылі немцаў ды французаў і заскоквалі ў васьмёрку лепшых каманд. Гэта крыху пазней, у 2002-м, нашы хлопцы агаломшылі свет, выйшаўшы ў паўфінал у Солт-Лэйк-Сіці. Удзел у Гульнях быў для беларускай хакейнай зборнай задачай-мінімум, якую яны вырашалі без шпаргалак і з заплюшчанымі вачыма.

Аднак час мінуў, і тыя, каго білі мы, цяпер б'юць нас. Класіка жанру: у Беларусі панабудавалі хакейных палацаў, панапрымалі праграм развіцця, змарнавалі дзясяткі мільёнаў долараў, каб «стратэгічны» від спорту ўзрос і стаў ледзьве не візітоўкай «моцнай і квітнеючай" Беларусі. Не ўзрос і не ўстаў. Бо іншыя рухаліся хутчэй і разумней, і вось ужо тыя ж немцы падымаюцца на алімпійскі п'едэстал, а беларусы больш за дзесяць гадоў наогул не могуць паехаць на Гульні. І прайграюць кваліфікацыю пазаштатнай Славеніі, дзе на ўсю невялічкую краіну паўтары дзіцячыя хакейныя школы.

Аналагічна і з чэмпіянатамі свету, дзе беларускія матывы пачуць усё цяжэй і цяжэй. Апошні раз нашы хакеісты грымнулі і мелі розгалас у 2015-м у Чэхіі, калі пераадолелі групавы раўнд, надраўшы вядомае месца самім амерыканцам. У чвэрцьфінале, праўда, ужо самі гэтае месца бездапаможна прыкрывалі — атрымалі 0:9 ад канадцаў, але ж выніковае сёмае месца спісала ўсе сітуацыйныя слабасці.

Цяпер тыя часы — нібыта ў марыве. Вады ўцякло шмат, і гэтая вада быццам падмыла гліняныя муры беларускага хакея. І зборная ўжо не тое што не замахваецца на мацнейшых, а ходзіць у андэрдогах і нават вылятае з элітнага ў другі дывізіён пад здзеклівае шматгалоссе ўласных заўзятараў.

У адрозненне ад Славеніі, хакейных школ у Беларусі дастаткова. Дастаткова — каб ствараць бачнасць развіцця. І крытычна мала, каб з ўсёй іх працы мець адчувальны плён для нацыянальнай зборнай. Таму замест дзіцяча-юнацкага канвеера хакейныя чыноўнікі прызвычаіліся ўключаць іншы — міграцыйны. І раздаваць налева-направа беларускія пашпарты рознага кшталту замежнікам. І не толькі расіянам, як раней, але і заакіянскім «суайчыннікам». І беларускія заўзятары толькі і паспяваюць вывучаць прозвішчы новых беларусаў — Бэйлен, Плат, Парэ, Тэйлар, Прынс…

**Да дараслага хакея рахункі прынцыпова іншыя. Бо праз вядомыя — драматычныя і трагічныя — эксцэсы ў шырокім грамадстве надта ж змяніліся светапоглядныя акцэнты і маральныя ацэнкі**

Для чаго тое робіцца — стары сакрэт палішынэля. Бо недзе наверсе ад зборнай традыцыйна чакаюць прарыву на ЧС, і калі аб'ектыўных перадумоў для таго не існуе, то іх трэба ствараць штучна. Інакш можна пазбавіцца пасады.

Сёння, без сумневаў, прарыву чакаюць з асаблівым нецярпеннем — таму што такая міжнародная абстаноўка склалася вакол нашай аблажанай крэпасці. І, кажуць, галоўны трэнер Захараў ужо абвясціў, што павядзе каманду ледзьве не да медалёў чэмпіянату…

Ну, паглядзім, што з таго атрымаецца. Заўзець ці не — асабістая справа кожнага. Але ж тэлевізар гэтымі днямі ўсё ж уключыць варта. Спорт здаўна быў аддушынай людзей — беларусам сёння аддушына дакладна не зашкодзіць.

# Беларусы едуць на ЧС… за медалямі

Сяргей МАЛЫШКА

**Першы за два апошнія гады і 85-ы ў гісторыі хакейны чэмпіянат свету будзе ўнікальным з шэрагу прычын.**



Фота www.hockey.by

Тут вам і пазбаўленне Беларусі права арганізацыі турніру, і адсутнасць гледачоў на трыбунах (афіцыйна пакуль не абвешчана, але да гэтага ідзе), і абедзве арэны за сто метраў адна ад адной, і эксклюзіўны рэгламент, і як ніколі позніх тэрміны правядзення, якія закранаюць самую нехакейную пару года. У любым выпадку, нас чакае нешта асаблівае, і сачыць за тым, што адбываецца будзе вельмі цікава.

### Чэмпіянат свету-2021

Рыга (Латвія)
**ГРУПА «А»**
РАСІЯ
ШВЕЦЫЯ
ЧЭХІЯ
ШВЕЙЦАРЫЯ
СЛАВАКІЯ
ДАНІЯ
БЕЛАРУСЬ
ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ
**ГРУПА «В»**
КАНАДА
ФІНЛЯНДЫЯ
ЗША
ГЕРМАНІЯ
ЛАТВІЯ
НАРВЕГІЯ
ІТАЛІЯ
КАЗАХСТАН

**МАТЧЫ ЗБОРНАЙ БЕЛАРУСІ:** 21.05. Беларусь — Славакія, 23.05. Швецыя — Беларусь, 24.05. Чэхія — Беларусь, 26.05. Беларусь — Вялікабрытанія, 28.05. Данія — Беларусь, 30.05. Беларусь — Швейцарыя, 01.06. Расія — Беларусь.

Чвэрцьфіналы пройдуць 3 чэрвеня, паўфіналы — 5 чэрвеня, матч за 3-е месца і фінал — 6 чэрвеня.

### Дзякуй, COVID-19

Фармат папярэдняй стадыі ЧС нязменны з 2012 года: у абедзвюх групах кожны гуляе з кожным, у плэй-оф выходзяць па чатыры лепшыя каманды, якія фармуюць чвэрцьфінальныя пары крыж — накрыж (А1 — В4, А2 — В3, В1 — А4, В2 — А3). Астатняя васьмёрка пакуе валізкі і адпраўляецца па дамах. Але калі раней аўтсайдэры абодвух актэтаў развітваліся з элітай, то сёння ўсе застрахаваныя ад паніжэння ў класе. Той рэдкі выпадак, калі тыя, каму трэба было змагацца за выжыванне, могуць падзякаваць каронавірусу, з-за якога адменены ўсе чэмпіянаты свету ў ніжэйшых дывізіёнах. Падняцца ў «вышэйшае грамадства» папросту няма каму, а значыць, і вылятаць з яго — таксама.

Паўфінальныя супрацьстаянні будуць утвораны паводле наступнага прынцыпу: пераможцаў чвэрцьфіналаў ранжыруюць у адпаведнасці з вынікамі групавога этапу — адну пару складуць каманды з першым і чацвёртым нумарамі «пасеву», іншую — з другім і трэцім.

Што тычыцца рэгламенту правядзення матчаў, то тут усё па-ранейшаму: у выпадку нічыёй у асноўны час прызначаецца авертайм у фармаце «3 на 3», калі ж і ён не выявіць пераможцу — серыя булітаў па пяць падыходаў з кожнага боку да таго часу, пакуль не будзе зроблены вырашальны кідок.

### Рыга. Праз 15 гадоў

З-за вядомых падзей у Беларусі і пазбаўлення яе права правядзення турніру на Латвію навалілася ў два разы больш арганізацыйных клопатаў. І хоць рашэнне аб пераносе мінскай часткі форуму ў Рыгу адгадвалася яшчэ ў восені мінулага года, а афіцыйна пра гэта абвясцілі ў студзені, у ІІХФ былі занепакоеныя недастатковай ступенню гатоўнасці рыжскай інфраструктуры. Але прыбалтаў таксама зразумець можна: яны першапачаткова не збіраліся ў адзіночку запрагацца ў гэты воз і ідавочна разлічвалі на дапамогу з боку ведамства Рэнэ Фазеля. Паведамлялася, што замяніць Мінск з яго напружанай абстаноўкай могуць папрасіць Браціславу або Капенгаген — гарады, якія прынялі ЧС-2019 і ЧС-2018 адпаведна. Але ці тыя ветліва адмовіліся працягнуць руку дапамогі, ці ў ІІХФ банальна вырашылі зэканоміць, але ў выніку латвійцаў паставілі перад фактам: праводзіце толькі вы і ніхто больш.

Рыга прыме хакейны топ-турнір у другі раз. У статусе гаспадара ЧС яна дэбютавала ў 2006 годзе. Тады, памятаецца, некаторыя зборныя скардзіліся на якасць лёду, а адзін з матчаў — паміж гаспадарамі і канадцамі — ледзь не быў сарваны праз непрыстойныя паводзіны заўзятараў. Раз'юшаныя буйным фіяска улюбёнцаў (0:11), яны закідалі пляцоўку староннімі прадметамі, і рэферы Рыку Лукеру нават давялося адвесці каманды ў падтрыбунне. З горам напалам «ільвы» з «кляновым лісцем» усё ж дагулялі, але асадачак застаўся.

Рэцыдыў праз 15 гадоў немагчымы з-за пандэміі і верагоднай забароны на прысутнасць гледачоў на трыбунах. Але гэта не значыць, што 85-ы форум пройдзе без сучка без задзірынкі. Наконт гатоўнасці разлічанай на 10 300 заўзятараў «Арэны-Рыга», дзе праводзіць матчы КХЛ мясцовае «Дынама», сумневаў мала. А вось як пераажыў пераабсталяванне пад хакей шасцітысячны Алімпійскі спортцэнтр — добрае пытанне. Ёсць падазрэнне, што насельнікі «Арэны-Рыга» будуць адчуваць сябе камфортней.

### Мэты і чаканні

Для зборнай Беларусі гэта будзе першы чэмпіянат свету ў мацнейшым дывізіёне за тры апошнія гады. На папярэднім такім форуме ў Капенгагене і Хернінгу хлопцы ў чырвона-белых швэдрах з трэскам праваліліся, прайграўшы ўсе восем матчаў з агульнай розніцай шайбаў 8-36. Праз год беларусы на чале з Андрэем Сідарэнкам з вялікай цяжкасцю вярнуліся з «пердыва» на пару са зборнай Казахстана. Не пабаяўшыся ўзначаліць зборную ў перыяд крызісу, Сідарэнка з гонарам выканаў брудную працу. Але ў федэрацыі гэтага не ацанілі: трэнеру сказалі «дзякуй і да пабачэння», а яго пераемнікам стаў Міхаіл Захараў, якому не прывыкаць здабываць выгаду з поспехаў іншых.

Так, напрыклад, было перад Алімпіядай-2010 у Ванкуверы, калі набліжаны да ўлады коўч «Юнацтва» прыйшоў на змену Глену Хэнлану, які пакінуў пасаду пасля звальнення з мінскага «Дынама». Не Захараў, а Хэнлан і Курт Фрэйзер заваёўвалі прамую пуцёўку на Гульні-2010, але менавіта казахстанскі беларус павёз нацыянальную каманду ў Ванкувер.

Дарэчы, менавіта ў Рызе зборная Захарава ў свой час пацярпела адно з самых эпічных паражэнняў у сваёй біяграфіі. У рамках алімпійскай кваліфікацыі беларусы саступілі латвійцам 4:5 — хоць вялі 4:2 за лічаныя хвіліны да фінальнай сірэны і іх задавальняла нават нічыя. Праз гэта зборная тады і не паехала ў Турын-2006.

У 2019 годзе здарылася «дэжа вю» прыходу Захарава ў зборную: варта было Сідарэнку вывесці каманду ў эліту, як на авансцэне зноў намаляваўся шэры кардынал Міхал Міхалыч. Ён выбраў вельмі зручны момант для камбэка, бо на ЧС-2020 у Цюрыху і Лазане беларусы былі б застрахаваныя ад «вылету» на правах гаспадароў наступнага першынства. Але тады ніхто не ведаў, што наступіць пандэмія, і не меркаваў пра маштаб наступстваў чарговага захавання ўлады Лукашэнкі.

Як бы там ні было, цяпер зборная Беларусі, якая прайшла ачышчэнне «пердывам», намецілася ні многа ні мала на медалі ЧС-2021! Прынамсі пра такую мэту даводзілася чуць як мінімум ад некаторых хакеістаў. Ды і апальны прэзідэнт ФХБ Дзмітрый Баскаў недвухсэнсоўна даў зразумець, што перад Захаравым пастаўлена «самая максімальная задача, якую толькі магчыма паставіць перад нацыянальнай зборнай».

Напалеонаўскія планы пераследаваліся і ў былыя гады, але тады для гэтага хоць бы былі перадумовы. У прыватнасці, былы кіраўнік ФХБ Уладзімір Навумаў любіў ставіць завышаныя задачы. Дэйв Льюіс неяк таксама размахваўся аб п'едэстале. Але на тое меліся падставы. Канадзец загаварыў пра медалі пасля вельмі паспяховага ЧС-2015, на якім беларусы ўпершыню ў гісторыі перамаглі амерыканцаў і занялі 7-е месца — найлепшы вынік у гісторыі пасля фінішу ў топ-6 на рыжскім ЧС-2006 пад кіраўніцтвам Хэнлана. Іншая справа, што Льюіс істотна пераацаніў магчымасці: на наступных турнірах каманда ішла па сыходнай, пакуль, нарэшце, не вылецела з эліты.

Чыста абстрактна сёння перадумоў для неверагодна якаснага скачка праглядаецца яшчэ меней, чым пяць-шэсць гадоў таму. Тым не менш Захараў настройвае падапечных на медалі. Вядома, яму як галоўнаму трэнеру лепш відаць, але з заўзятарскай званіцы гэта падобна да нічым не падмацаванай бравады.

### Дыспазіцыя і склад

Калі цвяроза ацэньваць перадстартавы расклад, то выхад беларусаў у плэй-оф, не кажучы ўжо пра паўфінал і барацьбу за медалі, бачыцца малаверагодным. Хіба што ў табары кагосьці з апанентаў здарыцца ўспышка каронавіруса і ім залічаць тэхнічныя паразы. Пры іншых роўных аб'ектыўна ўзровень беларускай каманды нават з вялікай групай натуралізаваных паўночнаамерыканцаў (Тэйлар, Бэйлен, Плат, Парэ, Прынс) і расіян недацягвае да ўзроўню супернікаў — Расіі, Швецыі, Чэхіі, Швейцарыі. І гэта не лічачы славакаў, датчан і брытанцаў, перамагчы якіх таксама задача не з лёгкіх. Для каманды, якая гуляла на адным узроўні з літоўцамі і вугорцамі, на ЧС-2021 у прынцыпе не можа быць простых матчаў.

Зразумела, што многае будзе залежаць ад таго, як канкурэнты ўкамплектуюцца і хто прыедзе з НХЛ. Але нават калі дапусціць, што дэсант з наймацнейшай лігі планеты ў ростэрах супернікаў акажацца мінімальным, трапіць у топ-4 у сваёй групе беларусам будзе архіскладана. Тыя ж швейцарцы на пачатку мая двойчы адолелі ў Біле расіян, якія да гэтага максімальна эксперыментальным складам нанеслі пару паразаў беларусам пры красамоўным дамінаванні па кідках у створ — 35-13 і 34-18.

У першым матчы (6:3), дарэчы, брамнік Тэйлар прымудрыўся прапусціць шэсць шайбаў на працягу аднаго перыяду. Падняты з лавы Шастак пакінуў уладанні ў недатыкальнасці, а назаўтра таксама згуляў надзейна, хай і прапусціў дзве шайбы. Раней Канстанцін хваццка зарэкамендаваў сябе ў іншых міжнародных паўзах. Гэта да размовы пра тое, навошта раптам ФХБ і Захараву спатрэбіўся Тэйлар і ці заслугоўвае 35-гадовы ветэран месца ў зборнай. Дэні і ў мінскім «Дынама» зусім не бліскаў, статыстычна прайграючы не толькі відавочнаму першаму нумару чэху Фурху, але і юнаму беларусу Коласаву. Выснова напрошваецца сама сабой: у зборнай Тэйлар знаходзіцца не па спартыўных прычынах, а толькі таму, што мае правільны пашпарт і кіраўнікам трэба любым чынам апраўдаць яго натуралізацыю. Прызнаць жа, што канадзец банальна не цягне, — значыць распісацца ва ўласнай прафнепрыдатнасці.

Новая хваля масавай пашпартызацыі наогул выклікае выключна ванітавы рэфлекс. У той час, калі нашы юніёры некалькі гадоў запар дамагаюцца выдатнага выніку на чэмпіянатах свету сярод аднагодкаў, а клубы НХЛ сталі часцей драфтаваць беларусаў, кіраўніцтва ФХБ ладзіць чарговы завоз замежнікаў пачкамі дзеля імгненнага выхлапу. Вось толькі не факт, што мэта апраўдае сродкі. А за дамарослых беларускіх хлопцаў, чые месцы незаслужана займаюць Тэйлар і Парэ, рэальна крыўдна.

# Аляксей Калюжны: Ад прагнозаў устрымаюся — занадта шмат у задачы невядомых

Вячаслаў ФЕДАРЭНКАЎ

**Чаго чакаць ад зборнай Беларусі на чэмпіянаце свету ў Рызе? На гэтае і іншыя пытанні «НЧ» адказаў Аляксей Калюжны — без перабольшання легенда беларускага хакея і чалавек са сваім меркаваннем па многіх пытаннях, у тым ліку тых, дзе яго бачанне кардынальна адрозніваецца ад афіцыйнага.**




Фота www.championat.com

***— Апошнім часам ты амаль знік з публічнай хакейнай прасторы. Што так?***

— Як можна знікнуць з таго, што з'яўляецца часткай майго жыцця — і немалой? Калі ў Мінск прыязджаюць клубы КХЛ, у іх складах вельмі часта ёсць тыя, хто з задавальненнем наведае мой дом. А я іх з не меншым задавальненнем прыму.

***— Гэта зразумела, я пра прафесійную хакейную занятасць на гэты момант...***

— Нават удзельнічаючы ў праектах «Парыматч» (вядомая букмекерская кампанія. — В. Ф.), я ўвесь час у справе і тэме. Адглядаю шмат матчаў. Праўда, нашай экстралігі гэта не тычыцца. Плюс адна кампанія, з якой супрацоўнічаў яшчэ ў часы гульнявой кар'еры, перыядычна просіць кансультацыю па тым ці іншым беларускім гульцы. У асноўным, маладым.

***— Скаўтынг?***

— Не зусім. Хакеіст — гэта ж не толькі тое, што ўсе бачаць на лёдзе. Гэта і мноства спадарожных момантаў, якія не заўсёды відавочныя. Па некалькіх з нашых хлопцаў ужо выклаў сваё меркаванне. Па кім менавіта — не мне агучваць, хай гэта зробяць ініцыятары аналізу.

***— На твой погляд, у нашым хакеі пачалі ўзрошчвацца таленты?***

— Неблагая моладзь сапраўды стала з'яўляцца. Але гэта ўсё яшчэ, як казаў пра сябе Саша Глеб, тыя, хто выраслі на асфальце. Гэта значыць, не за кошт працы сістэмы, якой у нас, па-мойму, дагэтуль няма. Бо то рухаем «маладзёжку» ў экстралігу, то разганяем. Тое ж і ў інстытуце юнацкіх зборных: то давайце ўсіх адпраўляць за акіян, то, наадварот, усімі праўдамі і няпраўдамі трымаць на радзіме. Дзе тут сістэма?

***— Але зборная U-18 двойчы запар выйшла ў плэй-оф на ЧС. Выпадковасць?***

— Хутчэй, акселерацыя. Вынік практыкі ў экстралізе «Б» у гульнях з дарослымі. Але што будзе з гэтымі юніёрамі далей? Праблема страты большай часткі талентаў пры пераходзе з юнацкага хакея ў моладзевы і потым у дарослы нікуды не дзелася.

Як і падыход да спартыўнага выхавання дзяцей. У нас яны па-ранейшаму ўжо ў 10 гадоў працуюць як профі — па 5-6 трэніровак на тыдзень. А Надзя Скардзіна распавядала, як гэта адбываецца ў Швейцарыі. Там да 14 гадоў дзеці — яшчэ фактычна аматары. Дзякуючы сістэмнасці, якую паспрабаваў прышчапіць школам Гена Савілаў у часы яго старшынства ў федэрацыі, мой сын скончыў з хакеем.



Фота pressball

***— Але тыя рэформы былі скампіляваныя з досведу паспяховых у хакеі краін.***

— Хай так, але іх трэба пачынаць з набору дзяцей у групы, а не біць як абухом на паўдарозе. Хлопчыку, якому ўжо пару гадоў прышчаплялі паняцці тактыкі, разумнага хакея, раптам загадваюць яшчэ пару гадоў проста паганяць за шайбай у сваё задавальненне. Зразумела, што хутка гэта становіцца яму нецікава. Так што не варта цешыць сябе, што мы нарэшце здабылі нейкую сістэму падрыхтоўкі. Сістэма — гэта калі ты выбіраеш шлях і ідзеш па ім хоця б гадоў 8-10. У нас жа цяпер «выстрэльваюць» у асноўным тыя, хто своечасова і ў патрэбнае месца з'ехаў: Шаранговіч, Калячонак...

***— Добры сезон правяло мінскае «Дынама». Яму ёсць за што сказаць «дзякуй» у праекцыі на зборную?***

— Гэта «Дынама» павінна сказаць «дзякуй» каронавірусу, без якога ў клуба не было б шанцаў сабраць такі склад. Ды і дасягненні сезона так сабе: за 13 гадоў існавання КХЛ планку першага раўнда плэй-оф так і не ўзялі. На роўных змагаліся са СКА? Ды што вы?! Уключаючы фініш «рэгуляркі», каманды правялі шэсць матчаў — і ў пяці перамог Піцер. А на роўных гэта «Ак Барс» з «Авангардам» гулялі.

***— Дайшлі да галоўнай тэмы — зборнай. Што скажаш пра яе?***

— Пакуль аналізаваць рана: многае залежыць ад таго, ці даедуць ўсе выкліканыя. Даедуць — у наяўнасці будуць усе, хто ў нас цяпер на каньку.

***— Меркаванне пра пул брамнікаў?***

— Адвечна тонкае пытанне. Адзінае, што магу сказаць дакладна — не разумею такой веры ў Тэйлара. Вось калі б у маладых атрымалася стрэліць, гэта было б выдатным плёнам і для іх далейшай кар'еры, і для будучага зборнай.

***— Думаеш, Захараву хопіць смеласці паставіць на кагосьці з іх?***

— Юрзінаву ў маскоўскім «Дынама» калісьці хапіла. Хай і часткова з-за масавага ад'езду шэрагу вопытных за акіян, але ён даверыў тады яшчэ зусім маладым Кавалёву, Яшыну, Каспарайтысу. І не толькі ад безвыходнасці: гэта была правільная ацэнка патэнцыялу. Ці атрымаецца ў таго ж Шостака — не ведаю. Але ведаю, што, калі атрымаецца, толку для нашага хакея гэта прынясе нашмат больш, чым паспяховая гульня Тэйлара. Відавочных падстаў для якой, зноў жа, не бачу.

***— У абароне ўсё прасцей?***

— Хутчэй спакайней і больш вызначана. Хенкель і Лісавец гуляюць на вельмі сур'ёзным узроўні і цалкам спраўляюцца. Бэйлен — зразумела: ён можа і парухаць, і прыдумаць нешта нестандартнае. Гэта, дарэчы, нядрэнны падмурак для атакі, да якой пакуль таксама ёсць пытанні. Хто будзе забіваць, хто ў гэтым сезоне праявіў сябе як яркі лідар? Кадола?..

***— Шаранговіч.***

— З ім зразумела, але спачатку трэба, каб ён даехаў да Рыгі.

***— У братоў Касціцыных ужо не верыш?***

— Веру, вядома, усё па-ранейшаму з імі. Але трэба разумець, што ў Андрэя сезон атрымаўся скамечаным, а у Сяргея такі ўжо не адзін. Дзякуй богу, што ён у прынцыпе вярнуўся ў гульню пасля цяжкіх аперацый.

***— Тэйлар, Прынс, Бэйлен, Плат, Парэ... Разумееш, да чаго хілю, выбудоўваючы сінанімічны шэраг з замежных прозвішчаў?***

— Яго ўжо дабудавалі на нейкім расійскім інтэрнэт-рэсурсе. Рэзюмэ: калі да беларусаў прыедуць усе натуралізаваныя гульцы, гэта стане сусветным рэкордам. Ужо не ведаю, наколькі гэта праўда. Як я да гэтага стаўлюся, ты ведаеш: гэта ўжо за мяжою дабра і зла.

І ніякія аналогіі з іншымі краінамі і відамі тут не апраўданне. Там натуралізаваныя сапраўды перабіраюцца на новую радзіму. Як тыя ж нашы расіяне, якія тут жэняцца, абзаводзяцца дзецьмі, жыллём. А тут матывацыя зразумелая: атрымаць беларускі пашпарт, каб падпісацца ва ўмоўным «Аўтамабілісце» як нелегіянеру. Ды яшчэ з такой статыстыкай, як у таго ж Парэ: мяне ў свой час назвалі ўжо старым і нямоглым пасля дзясятка шайбаў у сезоне. А тут — паўтары за год.

***— Як паставіўся да студзеньскіх навін аб пераносе ЧС з Мінска?***

— Без здзіўлення. Варыянт, што ў нас могуць адабраць права правядзення часткі чэмпіянату, для мяне стаў відавочным яшчэ ў пачатку верасня. Разам з недаездам фінскага «Ёкерыта» на матч супраць «Дынама».

***— Давай складзём ранжыру нашых зборных, у якім найвышэйшы бал «10» аддамо «залатой гвардыі» часоў стыку стагоддзяў. А ніжэйшы, хай прабачаць мне зборнікі-2018, — камандзе, якая правалілася на чэмпіянаце ў Капенгагене. На які бал пацягне цяперашні склад?***

— Калі збяруцца ўсе наймацнейшыя, а ў камандзе будзе адпаведная атмасфера — дзесьці на «7». Інакш — прыкладна «5».

***— «Інакш» — гэта недаезд або атмасфера?***

— Больш другое. Зборная той самай «залатой гвардыі», у якой я меў гонар дэбютаваць яшчэ зусім маладым, таксама ж не граміла ўсіх і ўся. Бывалі і «ўлёты» па ліку, і вылеты з эліты з-за праславутага японскага блату. Але атмасфера была выдатнай. Пазней не ўзгадаю такой, напэўна, ніколі. Нават на апошнім пакуль паспяховым для нас сусветным чэмпіянаце ў Чэхіі ў 2015-м. Зараджанасць адной ідэяй і мэтай была непаўторнай.

***— А цяпер што?***

— Цяпер, на жаль, гульцоў усё часцей ставяць перад выбарам: гуляць на каманду або на сябе. У клубах на пачатку сезона ўбіваюць у галовы: «Каманда — перш за ўсё». А калі прыходзіць час падпісання новага кантракта, тыя ж людзі табе: «А дзе статыстыка, чаму так непераканаўча?» Тое ж і ў зборнай: мала таго, што ў клубах празрыста намякаюць, маўляў, вельмі б не хацелася, каб ты на ЧС паламаўся, дык яшчэ і ў многіх можа з'явіцца ідэя: «А ці не папрацаваць мне шчыльней на асабістую статыстыку перад абмеркаваннем новага кантракта ў клубе...»

***— Дарэчы, пра каманднае і асабістае. Шаранговіч добра дэбютаваў у НХЛ, але кантракт з «Нью-Джэрсі» заканчваецца. Трэба падпісваць новы, а ў Рызе існуе рызыка атрымання траўмы... Што скажаш?***

— Што буду рады ўбачыць Ягора ў форме зборнай, але прыму любое яго рашэнне ў гэтай сітуацыі. А тым, хто захоча зноў зацягнуць песню пра «продаж радзімы», адкажу: лёгка крытыкаваць з канапы. Колькі разоў назіраў, як людзі, якія заяўлялі «я ніколі б так не паступіў», рабілі менавіта так, аказаўшыся ў аналагічнай сітуацыі. Думаю, залішне гаварыць, што азначае хакей для канадцаў. Але нават на хатні для іх чэмпіянат свету-2008 у зборную прыехалі далёка не ўсе, хто мог і каго хацелі бачыць трэнеры.

***— Вырашыўся на прагноз перспектыў зборнай у Рызе?***

— Пакуль устрымаюся: занадта шмат у задачы невядомых. Гэта наогул цяпер у трэндзе. Скажы хто пару гадоў таму, што цяпер будзе дзеяцца ў нашай краіне і ў свеце наогул, можна было б падумаць, што ён наглядзеўся фільмаў. Але час прайшоў — і мы ўсе цяпер у гэтым фільме жывём.

*Наша размова з Аляксеем адбылася дзесьці за тыдзень да пачатку чэмпіянату, калі яшчэ заставаліся пытанні да складу беларускай каманды.*

«СПАРТЫЎНАЯ БЕЛАРУСЬ» | 21 траўня 2021 | № 19 (727) Новы Час

# Чаму сусветны спорт пакутуе ад допінгу, карупцыі і двайных стандартаў

Сяргей КАЙКО

**Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці прыкладае шмат намаганняў, каб абараніць правы айчынных спартсменаў і паўплываць на пазіцыю іх непасрэдных кіраўнікоў-чыноўнікаў. Адным са сродкаў — ці не самым галоўным — Аляксандра Герасіменя з калегамі абралі шчыльную працу з міжнароднымі спартыўнымі арганізацыямі.**

Фота reuters



Мішэль Плаціні: скандал на 2 мільёны долараў

Фота reuters




Андэрс Бесеберг: ад Расіі з любоўю

МАК, міжнародныя федэрацыі па розных відах спорту, іншая спартыўная бюракратыя ў Еўропе — з імі БФСС вядзе бясконцае ліставанне і іншыя зносіны, заклікаючы націснуць на Беларусь, дзе нязгодных атлетаў праследуюць за іх актыўную грамадскую пазіцыю.

Шмат што фонду ўдалося. Міжнародны алімпійскі камітэт афіцыйна не прызнае кіраўніцтва беларускага НАК. З Мінска ў Рыгу быў са скандалам перанесены чэмпіянат свету па хакеі. Таксама ў Беларусі забралі права правядзення ЧС па сучасным пяцібор’і, каманднага першынства Еўропы па настольным тэнісе і этапу Кубка свету па біятлоне.

Гэтыя ўдары балючыя для рэжыма Лукашэнкі, які традыцыйна будуе сваю легітымнасць у тым ліку з дапамогай спорту і буйных спартыўных спаборніцтваў у Беларусі. Праз гэта на пачатку красавіка супраць лідараў фонду Аляксандры Герасімені і Аляксандра Апейкіна завялі крымінальную справу. Але іх, якія даўно з’ехалі за мяжу, здаецца, больш турбуе іншае — што па астатніх напрамках працы ў БФСС не надта атрымліваецца прасоўвацца ў чаканым кірунку.

Чаму так адбываецца? Чаму міжнародныя спартыўныя структуры цяжкія на ўздым? Па якой прычыне заплюшваюць вочы на парушэнні правоў чалавека і іншыя дэмакратычныя каштоўнасці? Навошта гатовыя да супрацы з аўтарытарнымі рэжымамі?

Адказ шукаць не трэба, бо ён даўно вядомы.

## Наднацыянальныя збудаванні

Напачатку колькі абзацаў пра тое, як увогуле выбудавана піраміда сусветнага спорту. Адштурхнуцца тут патрэбна ад нізоў — адкуль прыйшоў запыт на аб’яднанне ўсіх спартыўных пралетарыяў.

Калі аднойчы саспела ідэя правесці чэмпіянат свету, напрыклад, па футболе, гульцы розных краін сутыкнуліся з цяжкасцю. Бо, пры наяўнасці нацыянальных кіруючых арганізацый, адзіны міжнародны цэнтр футбольнай улады адсутнічаў. А значыць, не было магчымасці каардынаваць супольныя высілкі на шляху да светлай мары. Што рабіць? Вядома, гэты цэнтр трэба прыдумаць і надзяліць дастатковымі паўнамоцтвамі.

Так яно ўсё і закруцілася. Міжнародную (а потым і кантынентальныя) федэрацыю заснавалі, краіны ўвайшлі ў яе асацыяванымі членамі, шляхам выбараў прызначылі кіраўніцтва, зацвердзілі статут і іншыя рэгламенты. І наперад — да першых перамог.

Дык вось: як і любая іншая наднацыянальная арганізацыя, міжнародны саюз умоўных лыжнікаў адразу абвесціў аб сваёй разнастайнай незалежнасці — палітычнай, юрыдычнай, упраўленчай і гэтак далей. З аднаго боку, слушна, бо ў любым канкурэнтным асяроддзі важныя прынцыпы роўнааддаленасці і аб’ектыўнасці. Але з іншага гледзішча, тым самым стваралiся глеба і перадумовы для з’яўлення закрытых, непразрыстых сістэм, над якімі не ўсталяваны паўнавартасны кантроль. З відавочнымі наступствамі ў выглядзе кланавага кіраўніцтва, неабмежаванымі тэрмінамі знаходжання ва ўладзе, злоўжываннямі, карупцыяй і іншымі махінацыямі.

Так яно з цягам часу і зрабілася. Дастаткова адкрыць гугл, каб пабачыць, колькі скандалаў генеруе сусветны спорт толькі апошнім часам. Тут допінг, там хабар, дзесьці яшчэ — перавышэнне паўнамоцтваў, лабіраванне ці элементарная нядбайнасць.

Расследаванні адносна такіх дзеянняў, канешне, праводзяцца, аднак праз вышэй згаданую прававую спецыфіку сутыкаюцца з пэўнымі цяжкасцямі. Пытанні юрысдыкцыі далікатныя і складаныя, і добра, што справу часта рухае незалежная дэмакратычная прэса. І тады ўмоўныя аўстрыйская паліцыя ці швейцарская пракуратура знаходзяць магчымасць узбудзіць справу, якая хутка раскручваецца, вывальваючы на заўзятараў вялікае мноства бруднай бялізны. Але ж увогуле сістэма захоўвае ўстойлівасць, і ідэальнай мадэлі яе асенізацыі, здаецца, проста не існуе.

## Скандалы апошняга часу

Напрыканцы мінулага стагоддзя француза Мішэля Плаціні ведалі як аднаго з найлепшых гульцоў у гісторыі футбола. Швейцарца Ёзефа Блатэра хтосьці памятаў на радзіме як журналіста і каментатара. Аднак зараз і той, і другі больш мільгацяць у прэсе як цэнтральныя фігуранты буйнога карупцыйнага скандала.

Блатэр кіраваў Міжнароднай федэрацыяй футбола (ФІФА), а Плаціні — Саюзам еўрапейскіх футбольных асацыяцый (УЕФА), калі абодва засвяціліся ў брыдкай гісторыі. Казытлівым момантам іх стасункаў стаў грашовы перавод ад швейцарца французу на суму каля двух мільёнаў долараў. Глабальна ж кіраўніцтва ФІФА і УЕФА западозрылі ў кулуарным спрыянні пры вырашэнні пытання, дзе мусяць прайсці чэмпіянаты свету 2018 і 2022 гадоў. Правы на першы, як вядома, былі перададзены Расіі, а на другі — Катару. «І там, і там нафтадолары», — шаргацела грамадскае меркаванне. У выніку абодва буйныя функцыянеры былі вымушаны сысці ў адстаўку.

У красавіку 2018-га выкрывальніцкая хваля накрыла прэзідэнта Міжнароднага саюза біятланістаў (IBU) нарвежца Андэрса Бесеберга. Чаго толькі яму не інкрымінавалі: атрыманне хабару, карысліваe лабіраванне пры продажы тэлевізійных правоў, утойванне анамальных паказчыкаў у допінг-пробах расійскіх біятланістаў… Дайшло нават да таго, што 72-гадовага на той момант скандынава абвінавацілі зусім ужо ў кампраметуючых справах — нібыта ён прымаў у знак удзячнасці ад расіян такія фрывольныя падарункі, як бясплатныя паездкі на паляванне і такія ж бясплатныя паслугі прастытутак.

Зразумела, што пасля такіх гісторый (пра гэта шмат пісалі медыя) гарэзнаму Бесебергу давялося пакінуць сваю пасаду.

Ламін Дзіяк з Сенегала таксама быў абвінавачаны ў хаванні станоўчых допінг-тэстаў за сукупную «ўзнагароду» ў памеры 3 мільёнаў еўра — і скандал тут таксама меў расійскі след. Афрыканец кіраваў Міжнароднай федэрацыяй лёгкай атлетыкі (ІААФ), і яго «знесла ў кювет» напрыканцы 2015-га. Гучныя разбіральніцтвы скончыліся не толькі заўчасным беспрацоўем 87-гадовага Дзіяка ў мінулым годзе, але нават крымінальным выракам парыжскага суду: два гады турмы (і яшчэ два ўмоўна) і штраф 500 тысяч еўра.

Што характэрна: Дзіяк узначальваў ІААФ 16 гадоў, Бесеберг правёў на чале IBU чвэрць стагоддзя, а Блатэр кіраваў ФІФА 17 гадоў. Плаціні паспеў пакамандаваць УЕФА толькі восем гадоў, але ж меў вялікія планы. Увогуле гэта асобная гісторыя, і мы пяройдзем да яе проста цяпер.

## Доўгажыхары і іх практыкі

Так, гэта побыт міжнароднага спорту— калі кіраўнікі асобных федэрацый сядзяць у сваіх крэслах дзесяцігоддзямі. Хуан Антоніа Самаранч кіраваў МАК 21 год — да яго звярталіся «Ваша Правасхадзіцельства». Жаао Аveланж заставаўся на чале ФІФА 24 гады — і не пазбегнуў абвінавачанняў у хабарніцтве. Гляньце Вікіпедыю — «даўгажыхары» там скрозь.

Егіпцянін Хасан Мустафа ўзначальвае сусветны гандбол з 2000-га, вядомы нам швейцарац Рэнэ Фазель стаіць на чале Міжнароднай федэрацыі хакея (ІІХФ) з 1994-га, яго суайчыннік Жан-Франка Каспер загадвае лыжным спортам з 1998-га… У сусветным фехтаванні «біг бос» мае пакуль толькі 12-гадовы стаж, але гэта — расійскі алігарх Алішэр Усманаў, што таксама выглядае красамоўна.

Выбары ў міжнародных федэрацыях праходзяць звычайна кожныя чатыры гады, і зразумела, што масавыя фальсіфікацыі там адсутнічаюць. Іншая справа, што вопытныя прэзідэнты ўмеюць працаваць з «электаратам» — то-бок з прадстаўнікамі нацянальных федэрацый. Адным паабяцай падвышанае фінансаванне, другім — камерцыйна выгадны праект, трэціх уключы ў праграму спонсарскай дапамогі… І галоўнае: памятай, што голас Германіі, Велікабрытаніі і Канады, паводле статута, раўняецца голасу Руанды, Нікарагуа і Палесціны, якім шмат не трэба. Правы чалавека ў сацпакет тут дакладна не ўваходзяць.

То цяпер не дзіўна, чаму міжнародныя спартыўныя структуры да дэмакратычных стандартаў часта ставяцца індыферэнтна. І аддаюць Алімпіяду Кітаю, футбольныя ЧС — Расіі і Катару, а што падрабней — Туркменістану і Беларусі. З дыктатарамі, калі па праўдзе, ім і важныя пытанні вырашаць прасцей — бо ўсё хутка, канкрэтна, а часта яшчэ і вельмі шчодра. І без гэтых вашых ліберальных штучак.

А што ў Катары падчас будаўніцтва стадыёнаў рэгулярна гінуць рабочыя-гастарбайтары, то што ж — выдаткі вытворчасці. Адны гінуць — другія прыязджаюць.

Вось такую сцяну, уласна кажучы, і спрабуе прабіваць у сваіх гуманітарных памкненнях Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці. Тое, што ўдалося з Рэнэ Фазелем і Томасам Бахам, ужо беспрыкладна сур’ёзнае дасягненне. Тое, што не атрымалася, — магчыма, і не магло атрымацца. Таму ў Мінску сёлета пройдзе чэмпіянат Еўропы па веласпорце, а ў студзені ў Раўбічах адбыўся этап Кубка свету па фрыстайле.

Зрэшты, надалей — пасля ўсяго, што здарылася, — міжнародныя інстанцыі яшчэ сто разоў падумаюць, перш чым аддаваць нейкі важны турнір паслявыбарчай Беларусі.




Фота www.noc.by

# Анастасія Шкурдай. Залатая рыбка 2.0

Георгій ЗАГОНСКІ

**Як уварвацца ў сусвет міжнароднага плавання ў 14 гадоў? Як няўхільна і паступальна прагрэсаваць, ставіць рэкорды і здабываць першую спартыўную славу — і пры гэтым заставацца пазітыўнай, адкрытай знешняму свету беларускай дзяўчынай?**

Адказ адзін: для гэтага патрэбна быць Анастасіяй Шкурдай. Ужо яркай — і такой шматабяцальнай зорачкай беларускага спорту, у якой наперадзе цэлае жыццё і кар'ера.

За гэтым жыццём вундэркінда з Брэста заўзятары сочаць трапятліва і спагадліва. За гэтай кар'ерай уважліва назіраюць спецыялісты, бо хіба не дзіва — у такім узросце ўжо так пра сябе заявіць і рыхтавацца да Алімпіяды з цвяроза асэнсаванымі марамі?

Мы таксама вырашылі прыглядзецца да таленавітай плыўчыхі Насці, якая колькі год таму нырала ў басейн з імкненнем быць падобнай да Аляксандры Герасімені, а сёння ў чымсьці свайго куміра ўжо і пераўзышла.

## Васьмікласніца

Першая публікацыя пра Анастасію Шкурдай з'явілася ў беларусіх медыя чатыры гаду таму. У «Прэсболе» выйшаў артыкул пад цоеўскім загалоўкам «Васьмікласніца», і яго героем было нікому яшчэ невядомае 14-гадовае дзяўчо. Дзяўчо, аднак, з іскрай — нагодай для газетнага тэксту стала фенаменальнае дасягненне: падлетак Насця з Брэста на юніёрскім першынстве Беларусі на дыстанцыі 50 метраў батэрфляем выканала нарматыў майстра спорту міжнароднага класа. 26,37 секунды — у тым 2017-м ніхто з дарослых беларускіх плыўчых так хутка «пяцідзясятку» ў гэтым стылі не пераадолвай.

Адна з апошніх звестак пра рэактыўную дзяўчыну праскочыла ў стужках навін 22 красавіка: падчас ужо дарослага чэмпіянату Беларусі яна бліскуча выйграла другую алімпійскую ліцэнзію — гэтым разам ужо на стометроўцы на спіне.

«Спіна» і батэрфляй — з тым цяпер і паедзе ў Токіа (не лічачы, вядома, эстафеты, дзе ўчарашняя юніёрка грае заўважную ролю).

Паміж тым першым сполахам маладзенькай васьмікласніцы і сённяшнімі поспехамі — чатыры гады сталення, прагрэсу і ўпартай працы. Чатыры гады, што ператварылі школьніцу ў галоўную надзею беларускага плавання на бліжэйшых дзясятак гадоў.

«Калі Насця прыйшла ў секцыю, нічога асаблівага я ў ёй не заўважыла, — гаварыла у 2017-м трэнерка Вольга Ясеновіч. — Акрамя вялізнага жадання плаваць і трэніравацца з поўнай самааддачай. Яшчэ яна вельмі мэтанакіраваная. Ядзе першая вялікая мэта — трапіць у складзе зборнай Беларусі на Алімпіяду ў Токіа. У 2020 годзе Насці споўніцца 17».

Як бачым, мэты дасягаюцца. Праўда, з папраўкай на выклікі часу: праз пандэмію Гульні перанеслі на год наперад. У Японію, на сваю першую Алімпіяду, Анастасія Шкурдай накіруецца 18-гадовай, паўналетняй, загартаванай. Але ўсё такой жа юнай — ці не самай маладой у складзе будучай беларускай алімпійскай дэлегацыі.

## Як вырастаюць «жабры»

Яна сапраўды не ўражвала ў дзяцінстве — не тое што трэнераў, а нават уласных бацькоў. Мама бачыла дачку максімум у танцах, бо куды той вялікі спорт — з такой хваравітасцю. Пастаянныя прастуды, пастаянная лекаванне — не хапала толькі пераастуджацца ў басейне.

Насця Шкурдай нарадзілася 3 студзеня 2003 года з неразгорнутымі лёгкімі — ёсць такая непрыемная паталогія, якая патрабуе пільнай увагі лекараў і пэўных абмежаванняў. «Вадкасць выцякала, у рэанімацыі ляжала... Мы ў тры месяцы ўжо з запаленнем лёгкіх у бальніцы з ёй пабывалі», — прыгадвала Насціна мама ў адным з інтэрв'ю.

Спорт любіць такія сюжэты — асаблівa, калі яны заканчваюцца хэпі-эндам. Штуршок у правільным кірунку дзяўчынцы надала бабуля, якая скеміла, што вада не нашкодзіць здароўю, а наадварот дапаможа. Ужо праз некалькі гадоў унучка набыла фізічную моц, прызвычаілася да басейна, а потым ужо не магла сябе ўявіць без яго. «Хутка жабры вырастуць», — жартавала на адрас Насці мама, заглядваючы ў каляндар наступных спаборніцтваў.

Бацькі былі першымі заўзятарамі Насці, у патрэбны час беспамылкова ўключаючы спартыўнае ТБ у кватэры на дзявятым паверсе аднаго з тыповых брэсцкіх шматпавярхоўкаў. Калі ў снежні ўсё таго ж 2017-га ў Капенгагене на чэмпіянаце Еўропы на кароткай вадзе 14-гадовая Анастасія Шкурдай у складзе дарослай эстафеты гераічна грабла да сенсацыйнай срэбнай медалі, маці страціла ад нервавання паўтара кілаграма вагі, а бацька ўвогуле перажыў гіпертанічны крыз, не адыходзячы ад тэлевізара.

## Галоўная мэта

Перамог з тае пары наша майстар спорту міжнароднага класа назбірала шмат. Сёння яна — чэмпіёнка Еўропы, пераможца юніёрскага першынства кантынента, медалістка юнацкіх Гульняў, уладальніца чатырох нацыянальных рэкордаў.

З кожным новым удалым фінішам Анастасія усё болей інтэгруецца ў сусветную плавальную эліту. Дзе ўжо тое дзіця, што ў ранішніх зацемках самастойна даязджала тралейбусам на першую трэніроўку? Дзе тая школьніца з гуманітарным ухілам, якая любіла ўрокі беларускай мовы, з цікавасцю вывучала гісторыю, чытала Рэмарка і эпапею пра Гары Потэра? Ранняе сталенне — цана, якую плоціць у жыцці кожны таленавіты спартсмен, і брэсцкая плыўчыха гэта цудоўна разумее. І калі дае чарговае інтэрв'ю няўрымслівым журналістам, і калі збіраецца на фотасесію для рэкламнага праекта, і калі паспешліва пакуе валізкі ў дарогу — на зборы-старты-спаборніцтвы...

«Вось зараз Насця прыехала на тыдзень, а потым зноў на месяц з'едзе — і мы зноў убачымся толькі ў канцы студзеня, — кажа мама. І пакорліва дадае: — Я па тэлевізары дачку часцей бачу, чым дома».

Дзяцінства скончылася, але ж дзіцячыя мары — яны непазбыўныя. Дакладней адна — галоўная — мара, уласцівая ўсім амбітным атлетам. Рэдкае інтэрв'ю Анастасіі Шкурдай застаецца без пытання на гэтую тэму, і яна не хавае адказу: у светлай будучыні дзяўчына бачыць сябе алімпійскай чэмпіёнкай.

А яшчэ ў яе часта дапытваюцца пра куміра, на якога яна раўнялася, калі пераадольвала свае першыя кіламетры на блакітнай дарожцы. І тут адказ таксама ўжо даўно гатовы і адскоквае ад зубоў.

## Будзь як Герасіменя

Быць маладой плыўчыхай і не захапляцца Аляксандрай Герасіменяй — такога ў Беларусі не можа быць, бо не можа быць ніколі. «Залатая рыбка» айчыннага плавання, чэмпіёнка свету і Еўропы, трохразовая алімпійская прызёрка і проста надзвычай светлы і пазітыўны чалавек — ідэальная ролевая мадэль для падрастаючых пакаленняў. Зразумела, што прыклад Аляксандры натхняў Насцю Шкурдай ад самага дзяцінства.

«Яна неяк прыязджала да нас у Брэст на майстар-клас, — узгадвала наша маладая гераіня. — Мы тады плавалі ў складзе эстафетных каманд. Тым, хто заняў першае месца, падарылі «кіндары». Другое — нам — «чупа-чупсы». Трэцяе — нейкія цукеркі. Я ўжо збіралася сыходзіць, як дзяўчынкі сказалі, што Герасіменя фатаграфуецца з дзецьмі. Я з усіх ног пабегла туды, дзякуй богу, паспела. Радасці не было мяжы... Да гэтага часу той фотаздымак вісіць у мяне ў пакоі. Я яшчэ падумала: «Гэта лёс — паспець з ёй сфатаграфавацца», — і была вельмі рада».

«Нашы дзеці будуць лепшыя за нас», — спяваецца ў вядомай песні Басты. Перафразуючы: прыхільнікі мусяць пераўзыходзіць сваіх куміраў, бо толькі так можна рухацца наперад. Маладая брэсцкая плыўчыха гэтаму правілу адпавядае. Яна ўжо пабіла некалькі нацыянальных рэкордаў Аляксандры, а аднойчы — спартыўная прэса пра гэта пісала апантана — нават перамагла яе наўпрост у басейне. Справа была чатыры гады таму на шараговым турніры ў Мінску, і юная школьніца Анастасія апярэдзіла славутую суайчынніцу на 0,02 секунды падчас 50-мятроўкі на спіне.

Канешне, паспрыялі абставіны: будучая кіраўніца Беларускага фонду спартыўнай салідарнасці на той момант ужо памалу заканчвала кар'еру і знаходзілася не ў лепшай функцыянальнай форме. Але ж тое быў сімвал: у «Залатой рыбкі» з'явілася годная спадкаемніца.

Каб пераўзысці свайго куміра не сімвалічна, а пасапраўднаму, Насці патрэбна вядома што — тое самае золата Гульняў. Герасімені яно так і не скарылася, дык хіба ў яе прадаўжальніцы ёсць выбар?

На гэты конт у сям'і Шкурдай ёсць паданне. Аднойчы на адну з першых трэніровак Насцю прывёў дзядуля. І адразу катэгарычна заявіў трэнерам: перад вамі будучая алімпійская чэмпіёнка! І, каб у тых не засталося аніякіх сумневаў, весела загадаў унучцы: «Насця, пакажы ім мускул!»

І Насця мускул паказала. І працягвае паказваць — ужо не ў Брэсце, а ў Будапешце, Лас-Вегасе, Глазга, Буэнас-Айрэсе і іншых басейнах свету. І ў яе абавязкова ўсё атрымаецца — у той светлай будучыні, якую Анастасія Шкурдай бачыць у сваіх яшчэ дзявочых марах.

**Прыхільнікі мусяць пераўзыходзіць сваіх куміраў, бо толькі так можна рухацца наперад. Маладая брэсцкая плыўчыха ўжо пабіла некалькі нацыянальных рэкордаў Аляксандры Герасімені, а аднойчы — нават перамагла яе наўпрост у басейне**

# Вера Давідовіч: Усё будзе добра, проста трэба перажыць гэты цяжкі перыяд

Сяргей ШЧУРКО

**Наша Вера прыгожая, разумная і самадастатковая. Прызёр чэмпіянатаў свету і Еўропы па мастацкай гімнастыцы ў групавых практыкаваннях. А яшчэ мае сваю справу, якая прыносіць устойлівы даход у штаце Каліфорнія, дзе Вера Давідовіч працуе ўжо дзесяць гадоў.**




У знакамітай «дынамаўскай» зале ў Мінску яе клікалі Вяруняй — за дабрыню, мяккасць і інтэлект, не ўласцівы спартсмену, які праводзіць за трэніроўкамі большую частку свайго свядомага жыцця. Вера паспявала глядзець па баках, і таму з ёю лёгка будзе размаўляць: яна не з тых, хто пачаў цікавіцца палітыкай пасля 9 жніўня.

***— Лічыцца, што плюсы трэба ўмець знаходзіць нават у самых непрыемных сітуацыях. Давай паспрабуем адшукаць іх у тых дзевяці месяцах, якія мы пражылі пасля жніўня.***

— Нарыў, які доўгі час спеў, прарваўся, і ўсім стала зразумела, што людзі проста стаміліся і чакаюць перамен. І яны гатовыя будаваць новую сучасную краіну — з усім сваім вялізным патэнцыялам. Гэта безумоўны плюс.

Іншая справа, што за перамены заўсёды даводзіцца плаціць, і ў нашым выпадку вельмі дорага — з такім гвалтам людзі яшчэ не сутыкаліся. І мне незразумелыя тыя, хто робіць выгляд, што яго не было. Зрэшты, відавочна, што гэтую маску на твары даводзіцца насіць, інакш можна лёгка паляцець з працы, якая прыносіць стабільны даход.

Я, вядома, маю на ўвазе дзяўчат, з якімі разам трэніравалася ў нацыянальнай зборнай. Цяпер яны працуюць трэнерамі і ім ёсць што губляць. Я нават дзесьці іх разумею і стараюся паставіць сябе на іх месца, але, калі шчыра, то не магу. Я б не вытрымала...

Я ні з кім не высвятляла адносіны. Хоць не, з адной дзяўчынай — таксама былой гімнасткай — мы ўсё ж паспрачаліся на гэтую тэму і перасталі мець зносіны.

***— Хтосьці з дзяўчат, якія з табой трэніраваліся, дапамагаў табе шукаць бацьку, калі той раптам знік?***

— З Лос-Анджэлеса вельмі цяжка было яго знайсці, і я ўзрадавалася б любой дапамозе, любой інфармацыі. Напісала ў Instagram, але, як ні дзіўна, больш за ўсё мне дапамаглі дзяўчыны, з якімі я трэніравалася ў «спартакаўскай» зале. Але не тыя, з кім працавала ў складзе зборнай у «дынамаўскай». Праўда, трэба аддаць належнае, яны напісалі ўжо потым, калі тата знайшоўся.

Тату знайшлі ў спісах на Акрэсціна, але адпусцілі яго ўжо з Жодзіна. Яму пашанцавала: яго не білі — можа, з-за ўзросту. Але хлопцам, якім па 18-20 гадоў, дасталася там жорстка. Збітыя да крыві, выбітыя зубы... Калі іх вялі галавой уніз, то людзі па баках ляжалі так, што было відаць: яны без прытомнасці. Тата кажа, што гэта быў самы жорсткі момант — цябе праганяюць міма і ты нават не можаш спыніцца, каб чымсьці дапамагчы гэтаму чалавеку.

***— Дагэтуль чытаеш беларускія навіны?***

— Так, калі і прапускаю, то толькі трошкі. Хоць часам не хочацца заходзіць, таму што практычна заўсёды навіны благія: кагосьці затрымалі, асудзілі, пасадзілі, прычым па абсалютна надуманых падставах. І вось сядзіш і разважаеш: няўжо ёсць яшчэ хтосьці, хто не разумее, што адбываецца? Ці не верыць — маўляў, у нас ні за што не садзяць.

Думаю, што б рабіла, калі б апынулася ў краіне. Убаку не засталася б, гэта дакладна. І сапраўды, гэтак жа падпісалася б пад лістом супраць гвалту. Зразумела, што, хутчэй за ўсё, мяне б пасадзілі.

Потым выйшла б і, напэўна, з'ехала б з краіны. Не ўяўляю, як можна жыць у такой атмасферы, ведаючы, што сёння могуць расправіцца з любым, у каго ёсць меркаванне, супрацьлеглае таму, якое транслююць па нацыянальных тэлеканалах.

У нас, дарэчы, амерыканскія беларусы паводзяць сябе даволі актыўна. Я хадзіла на тры мерапрыемствы, два ў Лос-Анджэлесе і адно ў Сан-Дыега. Выпадкова там апынулася, паехала да сяброўкі. Шчыра скажу, не ведала, што тут так шмат суайчыннікаў. Мы вельмі цёпла пагутарылі, сядзелі за агульным вогнішчам і спявалі песні Сяргея Міхалка.

Думалі, як можна дапамагчы пацярпелым землякам, і ў наступны раз зрабілі дабрачынны вечар на іх карысць. Адзін лот я купіла — гэта была скрынка, у якой нешта знаходзілася, я не ведала, што. Мне дасталіся шта-ны з нацыянальнай сімволікай, сумачка і свечка. А яшчэ адзін лот я выставіла ад сябе. Месяц бясплатнага фітнесу пад маім кіраўніцтвам.

***— Колькі ён каштуе, дарэчы?***

— Нядорага — 60 долараў, калі гэта адзін занятак на тыдзень. Калі два, то 120.

***— Самы час узгадаць, як ты апынулася ў ЗША.***

— Завяршыла спартыўную кар'еру. Вядома, нейкія тытулы ёсць — подыумы чэмпіянатаў свету і Еўропы, перамога на Кубку свету. Але галоўныя старты — Алімпійскія гульні — абышлі мяне бокам.

Спачатку была занадта маладой і таму лічылася запасной на Алімпіядзе 2004 года. На Гульні-2008 зарабляла ліцэнзію для зборнай, але з-за траўмы зноў аказалася ў рэзерве.

Ну а потым страчанасць, якая бывае ва ўсіх гімнастак, калі раптам высвятляецца, што кожны дзень не трэба ўставаць рана і імчацца ў залу на першую трэніроўку. Хоць, прызнацца, я з асаблівым задавальненнем лашчылася раніцай у ложку і думала: як жа добра быць звычайным чалавекам.

Потым пачала трэніраваць. Працавала сама на сябе і адчувала, што гэта маё, што ўмяне атрымліваецца. Бацькі і дзеці былі задаволеныя, і па беларускіх мерках я зарабляла ўвогуле нядрэнна.

**Мяне часта пытаюць пасля вяртання з паўднёвых збораў: «Ну, як вы там адпачылі?» Прафесіяналы ж разумеюць, што гэта ворыва, дзве трэніроўкі ў дзень і 200 набеганых кіламетраў у тыдзень**

Але затым сяброўка з Амерыкі запрасіла папрацаваць у гімнастычным клубе. Чаму б і не? Хто адмовіцца на некаторы час змяніць абстаноўку і бліжэй убачыць краіну, якой у нас палохаюць дзяцей? (Усміхаецца.)

Прыехала і вырашыла на ўсялякі выпадак зрабіць дакументы, каб заўсёды можна было сюды вярнуцца. А пакуль імі займалася, то закахалася і нарадзіла дзіця. А потым зноў пачала працаваць.

***— Як праходзіць твой звычайны працоўны дзень?***

— У гімнастычным клубе працую ў другой палове дня — з 15 гадзін да 19 або 21, усё залежыць ад дня тыдня. Ад яго ж залежыць і ранішні расклад, калі я працую ўжо сама на сябе — у дзіцячых садках. Раней — больш, але пандэмія ўнесла свае карэктывы, і зараз схіляюся да прыватных урокаў, калі вучу людзей расцяжцы.

Усё-ткі з дзецьмі цяжка працаваць і ўдзень, і ўвечары. Таму ў маіх ранішніх групах большай часткай дарослыя людзі. Яны дакладна ведаюць, чаго хочуць, і я адчуваю задавальненне не толькі ад працы, але яшчэ і ад зносін.

Я заўсёды была адкрытым і добразычлівым чалавекам. Але заўважыла, што ў Амерыцы гэтая якасць вельмі дапамагае. Часта нават не трэба даваць рэкламу — табе тэлефануюць па рэкамендацыі людзей і кажуць, што хочуць трэніравацца толькі ў цябе. Таму што той, хто цябе рэкамендаваў, выдаў самыя лепшыя характарыстыкі.

Стараюся іх апраўдваць. Тым больш за час, які тут правяла, мая англійская мова дасягнула больш-менш значных вышынь. Таму камунікаваць лёгка. А тут, паўтаруся, людзі вельмі цэняць магчымасць зносін. Яны таксама ўсе вельмі адкрытыя і радуюцца, калі людзі іх разумеюць на 100 адсоткаў.

***— Колькі гадзін ты працуеш на дзень?***

— Максімум 9 гадзін, але звычайна 6. Усё ўпіраецца ў пераезды, бо ў Лос-Анджэлесе адлегласці большыя, чым у Мінску.

Уласную кампанію назвала адпаведна: «Вера Давідовіч». Гэта мой бізнес. І я сама плачу за ліцэнзію, і, адпаведна, усе падаткі таксама на мне.

***— Не магу не пацікавіцца узроўнем твайго даходу. Наколькі ён адпавядае сярэдняму ў Каліфорніі?***

— Жыву ў дастатку, усяго хапае — на кватэру, на машыну, на страхоўку, неабходныя выдаткі на ежу, адзенне, забавы і паездкі. Але пакуль яшчэ не магу паехаць у салон і купіць дарагі аўтамабіль. Магу толькі ўзяць яго ў крэдыт.

Як кажа мой тата: «Па мерках Амерыкі ты — бядняк». Праўда, калі ён прыязджае да мяне, купаецца ў басейне, гуляе пад пальмамі і ездзіць на акіян, то адчувае сябе зусім нядрэнна. Такі стыль жыцця яму падабаецца, але я ўсё роўна застаюся бедняком. «Вера, ну як жа так, тут у кожнага ёсць свой дом, а ты што?» (Усміхаецца.)

***— І сапраўды.***

— Каб зарабіць на дом або ўзяць яго ў крэдыт, трэба мець добрую крэдытную гісторыю. І, зноў жа, гэта іпатэка даўжынёй у некалькі дзясяткаў гадоў.

***— Унутры цябе яшчэ змагаюцца беларуска з амерыканкай?***

— Не, яны выдатна адна з адной ужываюцца. У душы я беларуска, а жыву як амерыканка. Даход у мяне стабільны, вядома, хацелася б больш. Але для гэтага трэба ісці вучыцца на лекара або адваката, чыя праца цэніцца тут вельмі высока. Або займацца бізнесам. А ў мяне паслугі, якія маюць свой ліміт. Так што трэба вырашаць: ці атрымліваць глабальную адукацыю, ці шукаць добрага мужа.

***— Вечнае жаночае пытанне. Але тут твае пазіцыі, варта прызнаць, манументальныя. Вера — класны варыянт, і ў Беларусі за ёй ужо хадзіла б куча мужыкоў. Дарэчы, як у гэтым плане праяўляюць сябе нашы амерыканскія калегі?***

— Ды ўжо праяўляюць. (Усміхаецца.) Адрозненне ў ментальнасці, вядома, ёсць, тут табе ніхто проста так не падорыць кветкі. Амерыканцу трэба быць упэўненым у тым, што ты яго, і толькі ўжо потым... Але мужчыны ўсё ж такі ўсе розныя, як і дзяўчаты.

Тут шмат самастойных і самадастатковых, але хапае і тых, хто галоўнай мэтай свайго жыцця лічыць паспяховы шлюб з багатым мужчынам.

***— Дарэчы, варыянт.***

— На самой справе з часам чалавек сталее, ужо прабачце за банальнасць. І калі раней мне хапала проста закахацца, каб з кімсьці быць, то зараз я пачну загінаць пальцы, пералічваючы, чаго хацела б ад свайго выбранніка ў дадатак да гэтага цудоўнага пачуцця. Раней было прасцей, цяпер знайсці сваю другую палову ўжо складаней.

Хочацца, каб у чалавека была добра аплачваемая стабільная праца. Я дакладна не буду цягнуць сям'ю на сваіх, хай і спартыўных, але ўсё ж жаночых плячах. Ну і калі раней мне было ўсё роўна, як будзе выглядаць выбраннік, то цяпер хочацца, каб мужчына мары быў здаровым і прыгожым. Каб ісці з ім па вуліцы ў прыгожай сукенцы і ў прыгожых туфлях і не выклікаць здзіўлення ў сустрэчных: о, Божа, што яна ў ім знайшла.

А яшчэ мне кажуць: «Вера, не забывай, што і сыну патрэбны бацька!» Бацьку свайму Джэдаю я дакладна не шукаю. Па-першае, ён у яго ўжо ёсць. Хочацца, каб любімы мужчына проста добра да яго ставіўся. Ну, а калі не будзе атрымлівацца, то пойдзе шукаць сабе іншую жонку. Маё дзіця — на першым месцы.

***— Аддаючы належнае, у яго класнае імя.***

— Джэдаямі клікалі рыцараў-міратворцаў з «Зорных войнаў». Гэта ўсе ведаюць, а другое значэнне гэтага слова я знайшла сама. Улюбёнец бога — і гэта стала вырашальным чыннікам. Мне імпануюць такія асацыяцыі. Навакольным таксама — яны прыходзяць у захапленне, калі даведваюцца, як завуць майго сына. І яшчэ мне падабаецца, што больш Джэдаяў я тут не сустракала. Усё-ткі здорава, калі дзіця ў чымсьці эксклюзіўнае ад нараджэння.

У Мінску яго называюць Данем. Але калі хлопец будзе жыць у Амерыцы, то і імя ў яго, вядома, таксама мусіць быць амерыканскім. Да 18 гадоў ён дакладна будзе тут, а там хай ужо сам вырашае.



***— Ты сама дадому плануеш вяртацца ці ўсё ўжо?***

— Мне б хацелася катацца туды-сюды. Дабра ад дабра не шукаюць. А ў мяне тут цяпер усё добра. Ды і думак такіх — вось усё, вяртаюся дадому, ніколі не было. Нават сны бачыла страшныя, што я ў Мінску і ў мяне няма магчымасці паляцець у Амерыку. І я ўся такая ў жаху — ну як так?

Ужо прывыкла да мясцовага ладу жыцця. Хай ён вельмі насычаны і не дае расслабляцца, але так тут жывуць усе. І калі хочаш нешта мець, то трэба круціцца, як вавёрка ў коле. Амерыканская сістэма дае магчымасць нелянівому чалавеку жыць добра.

Але пры ўсім гэтым я, вядома, вельмі сумую па Мінску, па родных і сябрах. І мне хочацца мець магчымасць без якіх-небудзь перашкод прыязджаць на радзіму. Зараз афармляю амерыканскае грамадзянства, і, магчыма, гэта давядзецца рабіць па візе. Але, вядома, мару, каб сітуацыя ў гэтым плане неяк змянілася. У лепшы бок.

Хоць, у прынцыпе, я і ў Мінску шмат працавала і добра зарабляла, у мяне было значна больш, чым сярэдняя зарплата па краіне. Але я тут ужо дзесяць гадоў і выдатна разумею, што вяртацца назад і нешта рабіць у Беларусі — гэта наогул не варыянт.

Цяпер не зазіраю далёка наперад і не думаю пра тое, дзе я буду ў 50 гадоў. Мне сёння добра тут, і я жыву там, дзе камфортна. Ну, і тым больш ехаць у сённяшнюю Беларусь не хочацца зусім. Гэта нават страшна. І хутчэй трэба думаць не пра вяртанне, а пра тое, як перацягнуць сюды сваіх родных, каб я за іх не баялася.

А наогул ідэальны варыянт — калі ў чалавека два розныя месцы жыхарства ў розных краінах і ў розных кліматычных паясах. Калі непрыемную зіму з маразамі, бездаражжу і брудам можна правесці пад цёплым сонейкам на беразе акіяна.

Ведаеш, з часам становішся вельмі мабільным і табе ўжо не складае цяжкасці кудысьці сарвацца. Я ў Амерыцы пераязджала раз дзесяць, і мне зусім не складана весці такі лад жыцця. Сёння тут, а заўтра там. Гэта тваё жыццё, твае эмоцыі і ўражанні. Твой рытм.

Напэўна, мяне будзе цяжка зразумець тым, хто ўсё жыццё жыве ў адным месцы, ходзіць на адну і тую ж працу, дзесяцігоддзямі вядзе дома размовы пра адных і тых жа начальнікаў, якія нічога не разумеюць, але і пры ўсім пры гэтым больш за ўсё баяцца нешта ў сваім жыцці памяняць.

Але я не буду іх асуджаць, тых людзей, якім няма куды дзецца, якім трэба неяк падладжвацца. Я часта пра іх думаю, і мне шкада, што так адбываецца, што наша краіна не дае чалавеку дастаткова магчымасцей добра зарабляць. І сапраўды, многія, асабліва ў правінцыі, працуюць за зусім невялікія грошы. Гэта вельмі сумна. Гэта прыбівае чалавека, таму што грошы ўсё ж такі робяць цябе свабодным і ты сам можаш будаваць уласнае жыццё так, як лічыш патрэбным.





Я вельмі люблю беларусаў і стараюся дапамагаць сваёй краіне так, як магу. І я вельмі за яе хвалююся. Але ўпэўненая ў тым, што ўсё будзе добра, проста трэба перажыць гэты цяжкі перыяд.

***— Але як жа гэта зрабіць, калі з экранаў беларускіх тэлеканалаў ўвесь час паўтараюць, што амерыканцы не супакояцца, пакуль у нас не будзе так, як ім трэба.***

— Старая гісторыя... Сапраўды ёсць людзі, як правіла, сталага ўзросту, якія шчыра лічаць, што кожны амерыканец прачынаецца толькі з адной думкай: як там усё памяняць у Беларусі.

Я, вядома, не буду казаць пра тое, што далёка не кожны амерыканец наогул ведае назву нашай краіны і ўжо тым больш, дзе яна знаходзіцца. Тут усе жывуць сваім унутраным жыццём і значна больш заклапочаныя вынікамі ўласных прэзідэнцкіх выбараў.

Яны праходзілі ва ўпартай барацьбе, і ўся краіна літаральна падзялілася на два лагеры: адны былі за Трампа, іншыя — за Байдэна. Эмоцыі бурлілі, і я нават была рада, што не магла галасаваць — хай самі разбіраюцца з тым, што ў іх адбываецца. Але я за мір ва ўсім свеце і лічу, што ўсе праблемы павінны вырашацца выключна мірным шляхам. У Амерыцы так і адбылося, спадзяюся, гэтак жа будзе і ў нас.

І я б многае аддала, каб гэта здарылася як мага хутчэй.

# Алімпіяда. Адваротны адлік

## Колькі нашых будзе ў Токіа? Падлік не абнадзейвае

Рыгор ТРАФІМЕНКАЎ

**Алімпійскія гульні набліжаюцца. Асобныя галасы, у тым ліку набліжаныя да японскіх улад, яшчэ сцвярджаюць, быццам яны не адбудуцца ў Токіа праз пандэмію. Але вельмі вялікія сродкі ўжо выдаткаваны на правядзенне маштабнага форуму, таму перашкодзіць могуць толькі зусім надзвычайныя абставіны. Ва ўсялякім выпадку, каляндар кваліфікацыйных спаборніцтваў не змяняецца, і ў 2021-м ні адно з іх не было адменена.**



Фота noc.by

Дзмітрый Асанаў: біў, б'е і будзе біць

Дзесьці адбор на Гульні ўжо скончыўся, а ў асобных відах выйшаў на фініш. Як бы там ні было, уяўленне таго, колькі нашых спартсменаў могуць паляцець у сталіцу Японіі, мецца. Шчыра кажучы, уяўленне сумнае. Аднак, перш чым казаць пра агульныя тэндэнцыі, звернемся да абставін, якія склаліся ў тых ці іншых дысцыплінах падчас цяперашняга пяцігадовага цыклу.

Прыярытэтная ўвага — менавіта тым відам, дзе беларускі спорт зрабіў крок назад.

### Туга па мінулым

Першая, так бы мовіць, гаспадарка, якая адносіцца да ліку праблемных, — фехтаванне. У мінулым спартыўным дадатку «Новага часу» мы дэталёва звярталіся да сённяшніх недарэчнасцей. Паўтораў пазбегнем, тым не менш падкрэслім: упершыню ў суверэннай беларускай гісторыі краіна не здолее адправіць на Гульні аніводнага фехтавальшчыка. У Рыа-2016 быў Аляксандр Буйкевіч, але ён ужо кар'еру завяршыў. Замены дастатковага ўзроўню не знайшлося.

Такая ж рызыка існуе і ў настольным тэнісе: пакуль сярод беларусаў няма ўладальнікаў алімпійскіх ліцэнзій. Між тым, стартаў, каб вырашыць задачу, было дастаткова. У некаторых відах — кшталту цяжкай атлетыкі ці стральбы з лука — у сувязі з каронавірусам МАК скараціў сумарную колькасць «білетаў». Майстроў малой ракеткі гэта не закранула. Нясмелая надзея — на сусветны рэйтынг. На пачатку чэрвеня будзе апублікаваны канчатковы спіс, дзе апошнія некалькі вакансій размяркоўваюцца сярод тых, хто знаходзіцца на верхніх прыступках. Аднак такой магчымасцю зарабіць запрашэнне на Алімпіяду беларускі пінг-понг не скарыстаўся — маем на ўвазе выпадак Уладзіміра Самсонава, які частку адпаведных спаборніцтваў прапускаў з-за траўм.

Калі ўжо закранулі цяжкую атлетыку, патрэбна распавесці падрабязнасці. Негледзячы на тое, што ў мужчын зараз сфарміравалася таленавітая каманда з трох-чатырох выхаванцаў, якія маглі б змагацца нават за п'едэстал, трэба памятаць пра пакаранне з боку Міжнароднай федэрацыі (IWF). Згодна з ім, краіна, на працягу папярэдніх трох цыклаў абвінавачаная ў трох ці болей выпадках станоўчых допінг-проб, мае права разлічваць толькі на дзве пуцёўкі — адну мужчынскую і адну жаночую.

Негатыўная дынаміка назіраецца і ў акадэмічным веславанні. Пра яго месяц таму таксама ішла гаворка. Прынамсі, мы пакідалі шанец, што хтосьці з беларускіх экіпажаў на фінальнай кваліфікацыйнай рэгаце сенсацыйным чынам забяспечыць сабе пропуск на Алімпіяду. Аднак не: зборная засталася на тых жа пазіцыях. Такім чынам, з ліцэнзіямі ўсяго дзве лодкі — двойкі парныя у мужчын і жанчын: Сяргей Валадзько і Зміцер Фурман ды Алена Фурман з Настассяй Янінай.



Фота blrswimming.by

Ілля Шымановіч: стабільнасць — прыкмета браса

Хто і на што будзе прэтэндаваць з баксёраў у Токіа, няма ніякай яснасці, бо асноўны, ён жа, фактычна, адзіны для прадстаўнікоў Старога свету, старт яшчэ наперадзе. Нагадаем, што з-за канфлікту з AIBA МАК цалкам узяў адбор на Гульні пад свой кантроль. Так, для кожнага кантынента прадугледжаны ўласны турнір. Што датычыцца нашага, ён запланаваны на 4-8 чэрвеня ў Парыжы. У залежнасці ад вагавой катэгорыі разыгрываюцца ад шасці да васьмі пуцёвак.

У Рыа-2016 былі трое нашых баксёраў. Колькі сёлета? Калі заяўка не зменшыцца, гэта будзе грандыёзным поспехам, таму што дасягненні на працягу цыкла робяць рэальным суіскальнікам ліцэнзіі аднаго Дзмітрыя Асанава — чэмпіёна Еўрапейскіх гульняў-2019 у Мінску і падпісанта адкрытага ліста супраць гвалту і за новыя выбары.

Пра плаванне апошнім часам у СМІ ідзе гаворка ў пазітыўным кантэксце. З лепшага боку раскрыўся Ілля Шымановіч, які на розных дыстанцыях брасам — не мае розніцы, 50-метровы басейн ці 25-метровы, — усталяваў шэраг нацыянальных рэкордаў. На доўгі час, як дэманструе практыка 2019-2021 гадоў, яны ў летапісах не застануцца: сам жа Ілля здольны паляпшаць секунды. Ды што там мацнейшы ў Беларусі, калі на «сотцы» ўсё тым жа брасам Шымановіч нават перапісаў сусветны арыенцір. Адзінае, што тэарэтычна можа перашкодзіць яго медальнаму выступу, — дэбют на асноўным старце чатырохгоддзя.

Дарэчы, ідэнтычная гісторыя ў таленавітай Анастасіі Шкурдай, якая яшчэ да паўналецця на дыстанцыі 100 метраў батэрфляем плыла на ўзроўні фінальнай алімпійскай васьмёркі. Працягваем спіс Мікітам Цмыгам, Аксанай Дземідавай і Алінай Змушко — і робім высновы: заўзець будзем за пяцярых чалавек. Гэта менш, чым у Рыа-2016, куды патрапілі шасцёра беларусаў, а Герасіменя там выйграла бронзу.

Канешне, крок назад зробяць і скакуны на батуце. Аднак папрокаў яны вартыя на парадак меншых, чым іншыя атлеты. Зрэшты, пра ўсё па парадку. На першынствах планеты ў апошнія гады разыгрываюцца медалі ў камандных спаборніцтвах, але гэтая дысцыпліна пакуль не ўключана ў праграму Гульняў. Таму ўсё па-ранейшаму: кожная зборная мае права дэлегаваць на Гульні па два чалавекі ў мужчын і жанчын. І вось тут у трэнерскага корпуса, што тычыцца хлопцаў, прыемныя клопаты. Бо Іван Літвіновіч як срэбраны прызёр чэмпіянату свету гарантаваў сабе ўдзел у Токіа-2021, а Уладзіслаў Ганчароў і Алег Рабцаў, зразумела, скарыстаюцца іншым кірункам — паводле рэйтынгу.

На жаль, правілы аднолькавыя нават для тых каманд, дзе ёсць чэмпіён папярэдняй Алімпіяды, а значыць, камусьці з моцных атлетаў давядзецца застацца дома.

Цяпер пра жанчын. У Рыа-2016 іх было дзве. Цяпер не будзе ні адной. Лідар Ана Ганчарова у кастрычніку мінулага года нарадзіла двойню і зараз займаецца гадаваннем дачок. Ну а Марыя Махарынская задачу не вырашыла.

Агульнае «батутнае» рэзюмэ: дзве ліцэнзіі — супраць трох пяць год таму.

У спартыўнай гімнастыцы Беларусь утрымала ранейшыя пазіцыі: два запрашэнні на Алімпіяду, як і ў 2016-м. Як бы там ні было, а паставіць гэта ў заслугу ўсё роўна не павернецца язык. Д'ябал крыецца ў дэталях. А яны такія, што з першых суверэнных Гульняў колькасць беларусаў няўхільная скарачалася. Таму і хваліць агулам каманду няма за што. Прынамсі, персанальна Андрэя Ліхавіцкага і Настассю Алістратаву — можна. Яны заваявалі ліцэнзіі. Праўда, павінна здарыцца нешта фантастычнае, каб на якім-небудзь са снарадаў ці адзін, ці другая выйшлі ў фінал, інакш кажучы — у васьмёрку мацнейшых.

А вось у дачыненні да раварыстаў на шашы ніякая крытыка не стане недарэчнай. Таму што адступ зроблены сур'ёзны. Другі раз у гісторыі незалежнай будзе ўсяго двое спартсменаў. Відавочна, гэта будзе Аляксандр Рабушэнка. Пасля таго, як сышлі ветэраны — Васіль Кірыенка, Канстанцін Сіўцоў і Яўген Гутаровіч, — а таксама нечакана ў даволі маладым, 27-гадовым, узросце развітаўся з велагонкамі Ілля Кашавы, альтэрнатывы Рабушэнку няма. Яго намаганняў падчас стартаў 2019-2020 гадоў не хапіла, каб Беларусь змагла адправіць Аляксандру на дапамогу кагосьці яшчэ. Што да жанчын, то і тут ніхто не саставіць канкурэнцыю Алёне Амялюсік.

Беспрэцэдэнтна невялікае прадстаўніцтва чакае нас і ў кулявой стральбе — двое атлетаў. Іх імёны вядомыя, бо кваліфікацыйны адрэзак ужо скончыўся. У выніку дачка алімпійскага чэмпіёна Лондана-2012 Сяргея Мартынава Марыя і Юрый Шчэрбацэвіч — так выглядае заяўка нашых «снайпераў» на будучыя Гульні. Ці ёсць шансы на медалі? Так. Напэўна, у Мартынавай неблагія, але суперніц суадносныга класу ў пнеўматычнай вінтоўцы з трох становішчаў дастаткова.

Толькі час адкажа на пытанне, колькі суайчыннікаў у дзюдо на момант закрыцця алімпійскага кваліфікацыйнага рэйтынгу будуць знаходзіцца ў зоне, дастатковай для ўдзелу з Токіа-2021. І час гэты набліжаецца — засталося чакаць да сярэдзіны чэрвеня. Марына Слуцкая, Дзмітрый Мінькоў і Мікіта Свірыд — іх шансы найлепшыя. Калі хаця б трое акажуцца з білетамі, антырэкорд Рыа-2016 з двума атлетамі можна будзе забыць. А пакуль — невядома.

У завяршэнне, насуперак вялізнай заўзятарскай цікавасці, — расповед пра лёгкую атлетыку. Усё таму, што яна пакуль прыносіць найбольш адмоўныя ўражанні. Панікаваць, безумоўна, заўчасна, аднак і тут усё ідзе да антырэкорду.

Лічым тых, хто забяспечыў сабе пуцёўку ў Токіа: Крысціна Ціманоўская, Дар'я Барысевіч, Эльвіра Герман, Аліна Талай, Дзмітрый Дзюбін, Вольга Мазуронак, Ніна Савіна, Вікторыя Рашчупкіна, Ганна Церлюкевіч, Максім Недасекаў, Яўген Багуцкі, Глеб Дудараў, Аляксей Каткавец, Віялета Скварцова, Карына Дземідзік, Ірына Жук, Алёна Дубіцкая, Ганна Малышчык, Настасся Маслава і Таццяна Халадовіч. Сумарна — дваццаць. Амаль на палову менш, чым у Рыа, дзе было 36! Магчымасці для астатніх яшчэ ёсць, але засталося няшмат часу.

### Будзе лепш, чым ўчора?

Цяпер пра пазітыўныя тэндэнцыі. І тут першым чынам патрэбна распавесці пра веславанне на байдарках ды каноэ.

Наша прадстаўніцтва на Гульнях у параўнанні з Рыа-2016 тут не магло скараціцца, здаецца, ніяк. Па аб'ектыўных прычынах, якія былі звязаныя з Міжнароднай федэрацыя каноэ (ICF) напярэдадні той Алімпіяды. Тады, нагадаем, выкарыстаўшы інфармацыю французскага часопіса «Le Monde» і праваахоўных органаў гэтай краіны, ICF пазбавіла пуцёвак на Гульні ўсю мужчынскую палову каманды. Дакладней, нават не палову, а большую частку, бо на той момант зборная Уладзіміра Шантаровіча рыхтавалася да паездкі цераз Атлантыку сямю экіпажамі, чатыры з якіх складаліся з мужчын.

Безумоўна, наш НАК звярнуўся да Спартыўнага арбітражнага суда Лазаны (CAS), дзе, урэшце, аднавіў добрае імя — усе абвінавачванні ў выкарыстанні мельдонія былі зняты. Але адбылося гэта ўжо пасля спаборніцтваў на бразільскім канале.

То-бок, калі ў Рыа-2016 удзельнічалі толькі тры беларускія лодкі, зараз мы разлічваем на цэлых сем: пяць жаночых і дзве мужчынскія. Сэнс удакладняць прозвішчы пакуль адсутнічае. Усе ліцэнзіі, згодна з рэгламентам, не імянныя, а ўнутраная канкурэнцыя ў некаторых дысцыплінах даволі жорсткая. Вольга Клімава, Каміла Бобр, Надзея Макарчанка? А можа, на кагосьці іншага будзе разлік у каноэ-двойцы? Вольга Худзенка ці Марына Літвінчук будуць выглядаць лепей на трэніроўках, каб сесці ў байдарку-адзіночку?..

Тое ж самае справядліва адносна значыць у дачыненні да сучаснага пяціббор'я. У тым сэнсе, што максімальная квота ў жанчын у кішэні ёсць. Іншае пытанне, хто ў вырашальны момант скарыстаецца даверам: Настасся Прасянцова, Вольга Сілкіна ці Ірына Прасянцова.

Цікавы нюанс: дзве першыя падпісалі праўладнае пісьмо спартсменаў, тады як апошняя наадварот салідарызавалася з той групоўкай атлетаў і супрацоўнікаў галіны, якія выступілі супраць гвалту з боку дзяржавы і за перагляд вынікаў прэзідэнцкай выбарчай кампаніі. Вельмі інтрыгуе, хто з дзяўчат застанецца тут трэцяй лішняй. На сённяшні момант спартыўны ўзровень кожнай прыкладна роўны.

> **Калі мы падлічым усё, што зараз ёсць у беларускай кішэні, на алімпійскі борт трапяць 87 спартсменаў — значна менш, чым было ў «антырэкордным» на той час Рыа (123)**

А вось альтэрнатывы Іллі Палазкову няма. Між іншым, ён канчаткова не забяспечыў сабе алімпійскі білет, аднак амаль напэўна не апынецца па-за запаветным спісам. Дзякуючы неаднаразовым трапляннем на п'едэстал этапаў Кубку свету ў сёлетнім сезоне месца Палазкова ў фінальным рэйтынгу адпавядае, так бы мовіць, алімпійскай зоне. Як вынік — сумарна тры вакансіі.

Падобна да веславання на байдарках і каноэ, трэнерскаму штабу ў вольнай, грэка-рымскай і жаночай барацьбе яшчэ трэба будзе зрабіць цяжкі выбар. Адбор на Гульні ўжо скончаны — колькасць ліцэнзій ні пры якіх абставінах не зменіцца. Іх восем. Апошні кваліфікацыйны старт завяршыўся ў Сафіі на пазамінулым тыдні.

Існавала верагоднасць, што заяўка беларусаў павялічыцца, але... На адказны турнір не трапіў Георгій Чугашвілі (да 130 кілаграмаў). Перад паездкай ён зрабіў тэст на каронавірус, які аказаўся станоўчым. У выніку зборная па барацьбе засталася з ранейшым багажом.

Варта прывесці дысцыпліны, дзе будуць выступаць грамадзяне Беларусі. Наўмысна карыстаемся такой фармулёўкай, бо тут — менавіта ў мужчын — не зарастае натуралізацыйны шлях з усходу. Напрыклад, падзякаваць за ліцэнзію ў «вольнікаў» у катэгорыі да 74 кг неабходна Магамедхабібу Кадзімагамедаву. Апроч яго, барцы гэтага стылю таксама будуць прадстаўлены ў вагах да 86, 97 і 125 кілаграмаў. «Грэка-рымлянін» адзін — да 87 кг.

Дзяўчат — тры: да 53, 57 і 76 кг. Канчаткова высветліцца склад у чэрвені. Час падкрэсліць, што пяць гадоў таму ў нас барцы аналагічна зарабілі восем квіткоў. Больш за тое, прынеслі тры медалі — трэцюю частку ад усіх. Таму і спадзяванні адпаведныя.

Далей — пра мастацкую гімнастыку. На мінулых Гульнях Беларусь амаль заўсёды карысталася шанцам на максімальнае прадстаўніцтва. Токіа-2021 не будзе выключэннем. Туды, канешне, паляцяць жаночая каманда «групавічак», у якой не было ніякіх цяжкасцей з кваліфікацыяй. Акрамя іх рыхтуюцца да выступу у асабістым мнагаборʼі Анастасія Салас і Кацярына Галкіна.

Несумненна, з кожным годам змагацца за ўзнагароды тут усё больш складана. Калі раней кіравалі балем толькі расіянкі, то цяпер шэраг краін зрабілі акцэнт на развіцці мастацкай гімнастыкі: Японія, ЗША, Ізраіль. Карацей, спадзявацца на подыум, грунтуючыся на выніках чэмпіянатаў Еўропы і свету падчас бягучага цыклу, наўрад ці можна. Ты не менш, тры ліцэнзіі маюцца.

У адрозненне ад шашэйных раварыстаў, гоншчыкі-трэкавікі аказаліся ў кампаніі выдатнікаў. Мабыць, сказана гучна, але ўсё ж рух наперад назіраецца. Расшыфруем. У Рыа-2016 удзельнічала ў адзіноце Таццяна Шаракова. 36-гадовая ўраджэнка Оршы, якой, дарэчы, якраз за дзень да выступу ў Токіа, 31 ліпеня, споўніцца 37, рыхтуецца да старту і зараз. Ужо, мабыць, без усялякіх надзей на ўзнагароду, але ж факт застаецца фактам.

Як і тое, што набылі ліцэнзію і мужчыны. Раман Цішкоў і Яўген Каралёк — два прэтэндэнты на тое, каб пазмагацца ў омніуме — так званым веламнагабор'і на трэку, што складаецца з чатырох дысцыплін. Першаму, універсалу, яно падыходзіць лепш, другі — двухразовы чэмпіён свету ў скрэтчы (неалімпійскай дысцыпліне). Хутка стане вядома, на каго ўскладуць адказнасць. Зараз жа падводзім рысу: наогул беларусаў будзе двое.

Напрыканцы 2000-х гадоў конны спорт фігураваў у крыху пацешных публікацыях, дзе прыгадваліся вялізныя сродкі, якія выдаткоўваліся на гэты від спорту. Калі паўстае пытанне, што б выключыць з праграмы Алімпіяды, менавіта ён мностам заўзятараў называецца ў першую чаргу. Але ж да сёння коннікі застаюцца ў трэндзе. І, здаецца, гэта як бальзам на душу чыноўнікам з Міністэрства спорту, улюбёная справа якіх — лічыць і ганарыцца колькасцю медалёў на заштатных спаборніцтвах. А такіх было даволі. Вынік: трое — Аляксандр Зелянко, Аляксандр Фамінаў і Ана Карасева — збіраюць валізкі ў сталіцу Японіі.

Таццяна Драздоўская і Арцём Джавадаў — амаль што відавочныя прэтэндэнты на алімпійскі Токіа ў парусным спорце. Столькі ж, двое атлетаў, было ў беларускай дэлегацыі і на мінулых Гульнях. Гаворка пра ўзнагароды не ідзе, але факт удзелу сыдзе за камлімент, улічваючы, што глыбокіх традыцый у нас тут няма. Да таго ж, двое ўдзельнікаў — гэта паўтарэнне максімуму ліцэнзій пасля набыцця суверэнітэту.

Плюсавую адзнаку мы павінны паставіць і спартсменам у стральбе з лука. Так, у Рыа лятаў адзінокі Антон Прылепаў, зараз мэту адбору выршала тройка дзяўчат. Карына Казлоўская, Карына Дзёмінская і Ганна Марусава пазмагаюцца як за медалі ў камандзе, так і ў індывідуальным заліку.

Дамогся ўдзыму і беларускі тэніс. Згодна з кваліфікацыйным рэгламентам, трапляюць на Гульні тыя, хто на другі тыдзень чэрвеня знаходзіцца ў топ-56 сусветнага табеля ВТА ці АТП. Лёгка зрабіць высновы: гэта дзве дзяўчыны — Арына Сабаленка і Вікторыя Азаранка. Больш за тое, Арына займае трэцюю пазіцыю ў парным рэйтынгу, дзе першыя дзесяць дзяўчат могуць прыцягнуць да ўдзелу ў тандэме любую з суайчынніц. Гэта не абавязкова павінна быць Азаранка, якая вышэй за астатніх беларусак ў пары. Больш за тое, існуе варыянт, пры якім сама Вікторыя здолее сфармаваць пару — і тады ў дзвюх лепшых тэнісістак краіны будзе канкурэнцыя — за тое, каб пераканаць выступіць з сабою Лідзію Марозаву, бо Аляксандра Сасновіч і Вера Лапко не вельмі апошнім часам уражваюць.

Што датычыцца мужчын, то маленечкая верагоднасць на ўдзел Ягора Герасімава і Іллі Івашка яшчэ застаецца. Але пасля «Ралан Гарос», які стартуе 30 мая, ім патрэбна дастаткова скокнуць наверх. Ягор — 78-я ракетка свету, Ілля — 93-я.



Фота bfla.eu

Эльвіра Герман: бяжы, бяжы, дзяўчына...


Фота dynamo.by

Таццяна Шаракова: калі ўдзел, ужо як перамога

## Ізноў менш

Уважлівы чытач, напэўна, адзначыў: колькасць відаў, дзе мы падаём так званы сігнал SOS, натуральна, больш. Аналагічная карціна складваецца, калі падлічым усё, што зараз ёсць у беларускай кішэні. У такім разе на алімпійскі борт трапяць 87 спартсменаў — значна менш, чым было ў «антырэкордным» на той час Рыа (123).

Лёгка растлумачыць: упершыню з 2004 года мы будзем пазбаўлены магчымасці назіраць за якой-небудзь гульнявой камандай. У Пекіне-2008 і Рыа-2016 былі дзяўчаты-баскетбалісткі, у Лондане-2012 — мужчыны-футбалісты.

І апошняе: нават калі ўсе атлеты лягуць касцьмі, пазбегчы мінімальнага складу дэлегацыі будзе амаль немагчыма.

# Народная воля: як заўзятары

Аляксей АСАНОВІЧ

**Красавік-2021 яшчэ доўга будуць успамінаць і гульцы, і функцыянеры, і фанаты. Ніколі дагэтуль еўрапейскі футбол не быў так блізка да грандыёзнага расколу, які мог поўнасцю змяніць спартыўны ландшафт кантынента.**

48 гадзін мы жылі на адной планеце з Суперлігай — супертурнірам, у якім суперклубы будуць біцца з суперклубамі за супергрошы. «Праект стагоддзя» праіснаваў два неверагодна турбулентныя дні, уздыбіў хіба што ўсіх, хто хоць нейкім бокам цікавіцца відам, і быў адпраўлены туды, адкуль прыйшоў, — у зону сухой тэорыі.

## Інсургенты

Кароткі змест гэтых неверагодных сутак. 18 красавіка дванаццаць топ-клубаў Еўропы: англійскія «Манчэстэр Юнайтед», «Ліверпуль», «Манчэстэр Сіці», «Арсенал», «Чэлсі» і «Тотэнхэм»; іспанскія «Рэал» (Мадрыд), «Барселона» і «Атлетыка» (Мадрыд); італьянскія «Ювентус», «Мілан», і «Інтер», — абвясцілі аб стварэнні новага турніра пад назвай «Еўрапейская Суперліга».

Стваральнікі распавялі: усяго ў лізе прымуць удзел 20 каманд. 15 з іх будуць гуляць там незалежна ад выніку, яшчэ пяць — мяняцца кожны сезон (механізм гэтай ратацыі так і застаўся таемным). Фармат — дзве групы па 10 каманд, гуляюць дома і ў гасцях (18 гарантаваных матчаў супраць 10 у новай Лізе чэмпіёнаў і 6 — у цяперашняй), потым — чвэрцьфінал, куды трапляюць па тры лепшыя дружыны групы, а таксама пераможцы асобнага плэй-оф для чацвёртай і пятай каманд. Накаўт-раўнд — па звыклай сістэме «дома — у гасцях», а потым — фінальны матч. Планавалася па тым жа ўзоры запусціць і жаночую суперлігу. Потым — пасля таго, як «узляціць» мужчынская.

Амерыканскі банк «JPMorgan» пагадзіўся пазычыць праекту 3,25 млн. еўра для ўдзельнікаў (якія, аднак, нельга траціць на трансферы). Арганізатары пачалі перамовы з «Amazon», «Facebook», «Disney» і «Sky», каб прадаць тэлеправы за 4 млрд. еўра ў год (прыкладна ўдвая больш, чым зараз у Лізе чэмпіёнаў). Паводле інфармацыі «Corriere dello Sport», якую потым абверг «Reuters», міжнародны стрымінг-сервіс DAZN ужо быў гатовы плаціць турніру 3,5 млрд. еўра, але дакладна наконт перамоў так ніхто і не выказаўся.

Пры гэтым «інсургенты» пакідалі за сабой магчымасць працягваць гуляць у сваіх чэмпіянатах. Пад мацнейшым прэсам з-за Суперлігі заставаліся УЕФА і яе флагманскі клубны турнір — Ліга чэмпіёнаў.




Суперліга-2021: народ супраць!



Андрэа Аньелі і Аляксандар Чэферын: кум з кумам не сыйшліся

Галоўнымі ініцыятарамі праекта выступілі прэзідэнт мадрыдскага «Рэала» Фларэнціна Перэс і яго калега з турынскага «Ювентуса» Андрэа Аньелі. Апошні, паводле слоў прэзідэнта УЕФА славенца Аляксандара Чэферына, даўно вёў двайную гульню: нягледзячы на пастаянныя пытанні ад Чэферына, ён шмат разоў казаў таму, што ніякага праекта Суперлігі няма. Пры гэтым славенец — хросны бацька дачкі Аньелі…

Акрамя таго, за Суперлігу вельмі «тапіў» гендырэктар «Манчэстэр Юнайтэд» Эд Вудвард. Усе трое былі віднымі прадстаўнікамі сваіх клубаў у «Асацыяцыі еўрапейскіх клубаў» (ECA) — Аньелі нават з'яўляўся прэзідэнтам арганізацыі. Але ў гадзіну «S» яны разам выйшлі з яе, і надзвычайны сход ECA па вострa паўсталым пытанні Суперлігі вёў віцэ-прэзідэнт асацыяцыі Эдвін ван дэр Сар з галандскага «Аякса».

Амстэрдамцы ад удзелу ў Суперлізе адмовіліся (хаця дакладна нават невядома, ці запрашалі іх змоўшчыкі). Таксама ўзялі самаадвод яшчэ два еўрапейскія топ-клубы — мюнхенская «Баварыя» і французскі «Пары Сэн-Жэрмен». Яны канцэпцыі не ацанілі, а немцы нават адказалі Перэсу і кампаніі: «Калі хочаце больш грошай, лепш вядзіце справы, а не спрабуйце перавярнуць еўрапейскі футбол».

## УЕФА контратакуе і выйграе

Выбух бомбы, узарванай Перэсам і Аньелі, за лічаныя гадзіны абудзіў усю футбольную Еўропу. Чэферын з роднай Любляны на машыне паехаў у Ньён, па дарозе падымаючы па трывозе паплечнікаў. Імгненна сярод іх з'явіліся кіраўнікі ліг, дзе гуляюць «раскольнікі» — і італьянская серыя «А», і іспанская «Ла Ліга», і англійская прэмьер-ліга адзіным фронтам выступілі супраць Суперлігі і паабяцалі выключыць клубы-ўдзельнікі з нацыянальных першынстваў.

УЕФА сіметрычна заявіў, што ў еўракубках іх таксама чакаць не будуць, а футбалісты, якія прадстаўляюць «інсургентаў», не змогуць гуляць за свае нацыянальныя зборныя ў спаборніцтвах пад эгідай УЕФА. Трансферы ў стан суперклубаў будуць забаронены, з бягучага розыгрыша Лігі чэмпіёнаў тых, хто там застаўся (а гэта на той момант «Манчэстэр Сіці», «Рэал» і «Чэлсі») выпруць без матчаў, а на іх месцах ў паўфіналах згуляюць тыя, хто прайграў ім у чвэрцьфінале…

Абурыліся палітыкі (сам брытанскі прэм'ер Борыс Джонсан жорстка асудзіў Суперлігу ў пошуках спосабаў спадабацца электарату). Абурыліся трэнеры (рулявы «Ліверпуля» Юрген Клоп запатрабаваў сустрэчы з клубным кіраўніцтвам, каб усё ім выказаць). Абурыліся гульцы (якія хацелі выйграць Лігу чэмпіёнаў, а не нейкую абстрактную Суперлігу). Усе 55 федэрацый-чальцоў УЕФА на Кангрэсе выказаліся супраць…

Накат на «наватараў» пайшоў такога маштабу, што яшчэ на 24 гадзіны клубы Суперлігі замерлі. За гэты час на варотах стадыёна «Энфілд Роўд» у Ліверпулі павесілі банэры «R.I.P.», фанаты ў сацсетках і каментарыях у СМІ раўнялі ідэолагаў праекта з зямлёй, пагражаючы перастаць наведваць гульні і нават падпісвацца на ТБ-каналы, якія будуць трансляваць Суперлігу.

Потым падаспела дапамога з ФІФА. Спачатку Міжнародная федэрацыя футбола зрабіла кароценькую заяву, але потым кіраўнік Джанні Інфантына адназначна заявіў: «Суперліга працуе на развал сусветнага футбола, мы цалкам за УЕФА».

Бадай, самы моцны перфоманс выдалі фанаты «Чэлсі». Лонданцам не пашанцавала 20 красавіка гуляць дома на «Стэмфард Брыдж» з «Брайтан энд Хоўв Элбіан», і іх заўзятары (вядомыя суворым норавам) арганізавалі шматлікую дэманстрацыю. Каб утаймаваць фанаў, на вуліцу прыйшлося выйсці легендзе клуба — экс-галкіперу Пятру Чэху.

Менавіта англічане першымі здалі назад. «Арсенал», «Тотэнхэм», «Чэлсі», «Ліверпуль» пачалі абвяшчаць выхад з Суперлігі і нават прасіць прабачэння ў сваіх заўзятараў… Народнае абурэнне хутка патушыла вогнішча рэформ.

## Горкі Перэс

Зразумела, што праект у тэорыі быў не настолькі дрэнны, наколькі аб ім пісалі і думалі фанаты. Ліга чэмпіёнаў ужо даўно крочыць у бок умоўнага супертурніра, але са значна меншай хуткасцю. «Маладое пакаленне заўзятараў ўжо не можа вытрываць цэлы матч, ім патрэбна сапраўднае відовішча, і пустыя гульні іх не зацікавяць, мы канкурыруем з "Netflix"…» — гэта паспеў сказаць Фларэнціна Перэс перад тым, як фанаты пачалі свістаць на ўвесь інтэрнэт.

Зразумела, УЕФА — не добрыя самарыцяне, якія проста жадаюць дыстыляванай дэмакратыі. З кожным годам не тое, што выйграць — трапіць у групавы этап ЛЧ становіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Вось ужо шэсць гадоў, як туды ў апошні раз пралез, напрыклад, барысаўскі БАТЭ — і больш сур'ёзных шанцаў для беларускіх клубаў нябачна. Бліжэй за ўсё тыя ж «жоўта-блакітныя» былі да «групы» у 2018-м — і там двойчы прайгралі моцнаму ПСВ: дастойна дома, балюча ў Эйндховене.

Зразумела, што падрыхтаваліся «раскольнікі» кепска: у кішэні ў Перэса не было ні падпісанага ТБ-кантракта, ні нават вуснай дамовы. Пры тым, што «стацыянарных» чальцоў абяцалі 15, па факце іх перад абвяшчэннем знайшлося толькі 12. Яны стараліся паспець перад кангрэсам УЕФА, на якім агучылі ўмовы новай Лігі чэмпіёнаў на сезон 2024/25. Пачатак Суперлігі абазначылі даволі цьмяна — «як будзе магчымасць».

Зразумела, што галоўная мэта Суперлігі — атрыманне супердаходаў, каб закрыць суперпазыкі і далей плаціць суперзарплаты зоркам.

Але самая вялікая выснова, якую можна зрабіць з «двухдзённай вайны» УЕФА і Суперлігі: улада ў еўрапейскім футболе ўсё ж такі знаходзіцца ў руках заўзятараў. Гэтага самага умоўнага калектыўнага «народа», якому ёсць справа да таго, што зробяць з іх любімым відам спорту. І нават лабавое сутыкненне з усімі грашыма свету скончылася на карысць людзей са звычайнымі даходамі.

Фларэнціна Перэс можа шмат распавядаць, што ён сапраўдны ўратавальнік еўрапейскага футболу. Але яму не вераць. Дужа далёкі ён ад народа, якому прагне прадаць «найвялікшае

# адмянілі Суперлігу

відовішча ў гісторыі сусветнага спорту».

Ці вераць фанаты УЕФА? На самой справе, яны проста выбіраюць меншую з дзвюх сквапнасцей. «УЕФА і ФІФА, не забывайце: калі Суперліга загіне, ВЫ — наш вораг нумар адзін у барацьбе з сучасным футболам», — гэта банэр фанатаў дацкага «Брондбю» на гульні супраць «Рандэрса» адразу пасля масавага сыходу англійскіх клубаў з мегапраекта.

### «Усе жывёлы роўныя»

Чэферын і УЕФА маюць неадназначную рэпутацыю сярод фанатаў, але яны здолелі максімальна яскасна згуляць адзіную казырную карту: футбол для ўсіх. Менавіта захаванне мары пра Лігу чэмпіёнаў для любога клуба, нават з Сан-Марына, Андоры і Мальты (не гаворачы ўжо пра Беларусь) — галоўнае адрозненне еўрапейскай футбольнай дэмакратыі ад закрытых ліг Паўночнай Амерыкі.

НХЛ, НБА, МЛБ, НФЛ, МЛС — на якія тры літары ні пойдзеш у ЗША і Канадзе, атрымаеш элітны клуб, трапіць куды можна толькі па спецзапрашэнні і пры выплаце саліднага ўступнага ўзносу. Там прафесійны спорт зачынены на тры замкі для аматараў-энтузіястаў. І гэта ідэальны варыянт для ўладароў: умоўны «Бостан Рэд Сокс», як бы кепска ён ні згуляў у канкрэтным сезоне, не вылеціць з МЛБ у МЛБ-2. А у еўрапейскім футболе падзенні здараюцца фенаменальныя. Успомніце хаця б знакаміты дакументальны серыял «Netflix» «Сандэрленд: пакуль не памру», які выдатна распавядае гісторыю ператварэння каманды прэмьер-лігі ў каманду з трэцяга дывізіёна за два гады. Увавіце, як рухнула яе капіталізацыя.

І гэтае правіла працуе нават для «топаў»: выйшаў у Лігу чэмпіёнаў — грошы на стале. Не выйшаў — выбачайце. Вялікі «Мілан» за 10 год з караля каралёў стаў проста добрым клубам. «Ліверпуль», ззяўшы ў Лізе чэмпіёнаў два гады таму, у гэтым сезоне можа не трапіць нават у еўракубкі ўвогуле. Вось яна, канкурэнцыя ў відзе спорту нумар адзін.

«Ліверпуль» і «Бостан Рэд Сокс» належаць адной і той жа амерыканскай установе. Якая, зразумела, хоча ўсё зрабіць куды прасцей. Дарэчы, амерыканцы валодаюць і «Манчэстэр Юнайтед» з «Арсеналам». Яны хацелі закрыты клуб. Ім адказалі: «Не».

Ліга чэмпіёнаў, пры ўсёй яе дзікай камерцыялізацыі, якая пачалася у пачатку стагоддзя, тым не менш, як у старыя-добрыя часы, па-ранейшаму пакідае вузенькі, але дзейны пралаз для ўсіх. Выглядае гэта так: уявім, што вы — сціпленькая каманда з Сан-Марына «Трэ Фіоры». Вы выйграеце чэмпіянат сваёй краіны, перамагаеце ў паўфінале і фінале «прыліміналыз» ЛЧ, паступова адольваеце супернікаў у першым, другім, трэцім і раўндзе плэй-офф раундах кваліфікацыі, — і вось вы ўжо ў адным лёсаванні з самімі «Рэалам», «Ман Сіці» і «Баварыяй».

Так, зрабіць гэта на практыцы вельмі цяжка (нездарма гэта ўжо нейкі час не ўдаецца нават нашмат мацнейшаму беларускаму чэмпіёну). Але гэта дакладна пытанне перформансу на полі. Матч хатні, матч гасцявы, простая арыфметыка з большай каштоўнасцю выязных галоў пры агульнай роўнасці, — ва ўсіх ёсць шанец.

Так, для гэтага ўлетку «Трэ Фіоры» давядзецца перамагчы пражскую «Славію», пірэйскі «Алімпіякос», швейцарскі «Янг Бойз» ці сербскую «Црвену Звезду», але поле роўнае, мяч круглы — спрабуйце! І спробу адняць гэтую мару пра Лігу чэмпіёнаў еўрапейскае футбольнае кам'юніці не зразумела. Гульні з «Барселонай» і «Ліверпулем» па-ранейшаму лічацца «ўсіхнім» актывам, а не толькі «магутнай кучкі» топ-клубаў.

Але цікава іншае: як нейкае ўмоўнае «народнае абурэнне» можа пусціць з рэек такі праект? І вось тут мы падыходзім да галоўнага: дык у каго ў руках сапраўдная ўлада ў еўрапейскім футболе?

### Голас кожнага

Вялікія клубы варочаюць сотнямі мільёнаў еўра, з'яўляюцца, па сваёй сутнасці, карпарацыямі і плацяць мільёны сваім гульцам. Але фінансуюцца яны, па факце, не столькі шэйхамі, колькі звычайнымі заўзятарамі. І гэта даволі няцяжка праверыць.

Дзе бярэ грошы ўмоўны «Чэлсі»? Не, зусім не з кішэні Рамана Абрамовіча — пасля таго, як УЕФА ўвёў жалезныя правіла фінансавага «Фэйр Плэй», уладары клубаў не могуць проста ўпырскнуць на яго рахунак грошы. Клуб павінен акупацца ў сваёй дзейнасці.

Калі мы паглядзім на «нятрансферныя» даходы «Чэлсі», паводле даных апошняга выпуска «DeloitteMoneyLeague», то 44 працэнты прыходзяцца на тэлевізійныя выплаты — і гэта 208 з лішкам мільёнаў еўра. Спонсары даюць клубу 43 працэнты. Білеты, абанементы, матчдэй — 13 працэнтаў.

Наступнае пытанне: адкуль у тэлебачання 208 мільёнаў еўра? «Sky» у 2020-м атрымаў даход у 13,4 млрд. фунтаў (тобок 15,5 млрд. еўра). З іх толькі 1,4 млрд. фунтаў прыйшлося на рэкламу. А львіная доля — 11 млрд. фунтаў — гэта падпіска гледачоў на каналы. Гаспадаркі плацяць у тым ліку і за футбол — і кормяць і Мэсі, і Раналду, і Пэпа Гвардыёолу, і Мо Салаха. У «Sky» 12,7 мільёнаў падпісчыкаў — яны галасуюць фунтам.

Спонсарскія грошы клуб атрымлівае не таму, што ён па змоўчанні «вялікі». За гэтыя грошы ён прадае рэкламадаўцам доступ да сваёй фан-базы. Калі фан-база адварочваецца ад клуба, прадаваць становіцца няма чаго.

Матчдэй — гэта зразумела: білеты, абанементы, шалікі, бургеры, майкі купляюць заўзятары. Так, нейкая частка гэтага струменя даходаў — карпаратыўныя ложы. Але і там сядзець не вельмі цікава, калі на трыбунах галяк. Заўзятары ствараюць атмасферу, каштоўнасць якой мы так добра зразумелі ў пандэмію.

Калі заўзятары пакінуць трыбуны, выключаць тэлевізары і прынцыпова не стануць набываць тавары і паслугі, якія прасоўваюцца пры ўдзеле суперклубаў, апошнія рэальна могуць аказацца ў становішчы куды горшым, чым ўмоўны «Трэ Фіоры» — у іх жа яшчэ і пазыкі ў банках на сотні мільёнаў.

Хваля абурэння, якая паднялася ў Англіі, была сапраўды дзявятым валам для Суперлігі. Амаль усе адразу палезлі ў каменты пад артыкуламі аб праекце: Фэйсбук, Твітар, Інстаграм, — і ў максімальна жорсткай форме пачалі абвяшчаць ультыматумы.

Адна за галоўных памылак «раскольнікаў»: ідэалагічную працу з насельніцтвам яны правалілі. Здаецца, зусім не надалі ёй увагі. Дый што казаць, калі яны не папярэдзілі пра ідэю стагоддзя нават уласных гульцоў і трэнераў? А тыя — хто ад чыстага сэрца, хто завалены скаргамі падпісчыкаў — даволі гучна і амаль імгненна выракліся ўсіх суперліг.

Што рабіць клубам, калі іх кроў — заўзятары — адмаўляюцца ад іх з-за адной спробы адкалоцца ад еўрапейскай футбольнай сям'і?

«Апошнія дні паказалі нам яшчэ раз, наколькі глыбокія пачуцці маюць да гэтага вялікага клуба і нашай вялікай гульні заўзятары па ўсім свеце. Нам не трэба напамінаць аб гэтым, але рэакцыя фанатаў у апошнія дні дала нам больш часу для разважанняў і глыбокіх думак. Мы ніколі не хацелі выклікаць такі адказ. Калі нам прыйшло запрашэнне ўступіць у Суперлігу, мы не хацелі, каб "Арсенал" адстаў ад суперклубаў, і жадалі толькі абараніць клуб і яго будучыню. Паслухаўшы вас і больш шырокае футбольнае кам'юніці за апошнія дні, мы выходзім з Суперлігі. Мы зрабілі памылку і просім за яе прабачэння. Мы ведаем, што, каб вярнуць вашу веру ў нас, спатрэбіцца час, але мы хочам растлумачыць, што рашэнне стаць часткай Суперлігі было прынята з-за нашага жадання абараніць "Арсенал", клуб, які вы любіце, і падтрымаць гульню, якую вы любіце, праз большую салідарнасць і фінансавую стабільнасць. Стабільнасць вельмі важная, каб наша гульня квітнела, і мы працягнём барацьбу за бяспеку, якая неабходна футболу, каб ісці наперад. Сістэму трэба рамантаваць. Мы павінны працаваць разам, каб абараніць будучыню гульні, і выкарыстоўваць тую сілу, якая прымушае нас ускокваць на ногі з нашых месцаў на стадыёне. Напрыканцы, мы ведаем, што ўсё гэта было вельмі цяжка на фінішы вельмі складанага сезона для ўсіх нас. Наша мэта — заўсёды прымаць правільныя рашэнні для гэтага вялікага клуба, абараняць яго будучыню і ісці наперад. Мы прынялі няправільнае рашэнне, і поўнасцю прымаем гэта. Мы вас пачулі», — такім пакаяльным рэлізам савет дырэктараў «Арсенала» выбачаўся перад заўзятарамі. Мільянеры — перад звычайнымі хлопцамі з сектараў і лонданскіх двароў.

### Рэвалюцыя працягваецца?

Гэта мяккі варыянт прымірэння з заўзятарамі. «Манчэстэр Юнайтэд» адчуў ўсю моц народнага гневу, калі ужо закрыў пытанне з Суперлігай. Перад дэрбі з «Ліверпулем», запланаваным на 2 мая, фанаты «Юнайтэд» масава праніклі на стадыён «Олд Траффард» і зладзілі пратэст супраць амерыканскіх уладароў — сям'і Глэйзераў.

Глэйзеры даўно выклікалі ў заўзятараў пэўную алергію, і, здаецца, Суперліга стала калі не апошняй, то перадапошняй кропляй. Амерыканцы, напэўна, цяпер падумаюць аб продажы клуба... І зноў ім давядзіцца слухаць фанатаў!

Шмат кажуць пра тое, што зараз топ-клубы — ужо не лакальныя, а глабальныя з'явы. Што за клуб цяпер заўзеюць ва ўсім свеце, і што, калі нават цэлы горад Манчэстэр адвернецца ад «Юнайтэд» і «Сіці», заўсёды ёсць прыхільнікі ў Кітаі, Інданэзіі, Аўстраліі і ЗША — усе тыя, каго сапраўдныя фанаты клічуць «пластыкавымі».

Але не трэба забываць пра важную дэталь. За тэлеправы толькі з Англіі Прэм'ер-ліга атрымлівае больш, чым ад астатняга свету, разам узятага. Мала проста любіць клуб — трэба быць плацежаздольным.

Такім чынам, у еўрапейскім футболе мы ўбачылі выдатны прыклад дэмакратыі. Той, хто плаціць, хай толькі 30 фунтаў у месяц, узняў голас — і перамог непераможных: алігархаў, прэзідэнтаў, мільярдэраў.

Нават калі ты па-маршакоўскі валодаеш заводамі, газетамі, параходамі і футбольнымі клубамі, ты не можаш проста «абвясціць». Табе давядзецца дамаўляцца — і не столькі з сябрамі-алігархамі, колькі з заўзятарамі. І проста сказаць «так футболу будзе лепш» і «гэта будзе самы відовішчны турнір у галактыцы» не пракаціць. Трэба праводзіць сапраўдную кампанію, пераконваць, размаўляць, шукаць паплечнікаў.

Дарэчы, тое самае датычыцца і УЕФА. Калі зусім цынічна, то на гэты раз папулізм Еўрапейскага футбольнага саюза аказаўся нашмат больш прывабным для умоўнага футбольнага «народа», чым папулізм Фларэнціна Перэса і Андрэа Аньелі.

Праз пару дзён пасля таго, як лопнула Суперліга, УЕФА выкаціў фармат новай Лігі чэмпіёнаў. Яе пашырылі да 36 каманд (было 32), прычым дадатковае месца атрымае хтосьці са «шляху чэмпіёнаў». То-бок простыя смяротныя накшталт пераможцы беларускага першынства. Так, разам з гэтым дадатковае месца атрымала трэцяя каманда з пятай асацыяцыі ў рэйтынгу каэфіцыентаў УЕФА. І яшчэ два — каманды з найвялікшымі клубнымі каэфіцыентамі, якія фінішавалі па-за Лігай чэмпіёнаў, але ў зоне іншых еўракубкаў. То-бок гістарычна моцныя, але якія зараз не ззяюць.

УЕФА таксама элітызуе Лігу. Але робіць гэта з той хуткасцю, якую большасць заўзятараў успрымае нармальна. Суперлізе да гэтага разумення вельмі далёка.



Суперліга-2021: паліцыя з народам

# Футбол. Ліга чэмпіёнаў

## Англійскі футбол ужо перамог. Ці справіцца «Манчэстэр Сіці»?

Кірыл ІВАНЧУК

**Фінал Лігі чэмпіёнаў намечаны на 29 мая, а пераможца ўжо вядомы — гэта англійскі футбол, які дзевяць папярэдніх гадоў з быў самым багатым, але не самым паспяховым.**


«Манчэстэр Сіці»: галоўны матч за трынаццаць гадоў

У Еўропе панавалі іспанцы: «Рэал» і «Барса» — у Лізе чэмпіёнаў, «Севілья» — у Лізе Еўропы, «Атлетыка» — і там, і там... Брытанцы ж, заўсёды знаходзячыся дзесьці непадалёк, адчувалі жудасны дэфіцыт вялікіх перамог.

Браць свае яны навучыліся зусім нядаўна, вынік — другі англійскі фінал ЛЧ за тры гады. Прычым склад удзельнікаў абнавіўся на сто адсоткаў, што лішні раз падкрэсліла амаль бяздонны патэнцыял Прэм'ер-лігі: у 2019-м трафей разыгралі «Ліверпуль» і «Тотэнхэм», а ў 2021-м за яго паспрачаюцца «Манчэстэр Сіці» і «Чэлсі».

Хто б ні перамог, Англія абміне Іспанію ў табліцы каэфіцыентаў УЕФА і афіцыйна стане галоўнай футбольнай сілай сучаснасці.

І толькі ў Манчэстэры і Лондане пра гэтую знамянальную падзею думаюць хіба што мімаходзь. Занадта шмат пераtрывалі абодва фіналісты на шляху да вырашальнага матча, каб задавольвацца толькі нацыянальнымі інтарэсамі.

### Манчэстэр

Выйграць Лігу чэмпіёнаў — дзельца клапотнае і няхуткае. Практыка паказвае, што нельга проста ўліць у клуб вар'яцкія грошы і тут жа атрымаць аддачу на еўраарэне. «Галактыкас» з Раналда, Зіданам, Фігу, Бэкхэмам, Раберта Карласам, Раулем так і застаўся без трафея. «Чэлсі» выйграў англійскую прэм'ер-лігу на другі год пасля прыходу Рамана Абрамовіча, а поспеху ў Лізе чэмпіёнаў чакаў дзевяць гадоў. Пакуль каманда паабцясалася, узмужнела, разабралася, што па чым... І тое не абышлося без дзікага рыпення і шанцавання ў паўфінале з «Барселонай» і серыі пенальці з «Баварыяй» у тытульным паядынку.

«Манчэстэр Сіці» дабраўся да фіналу ЛЧ праз трынаццаць гадоў, як у клуб пачаў укладвацца Шэйх Мансур. За гэты час «гараджане» пяць разоў станавіліся чэмпіёнамі Англіі, узялі два Кубкі Англіі і пяць Кубкаў англійскай лігі, выдаткавалі на трансферы каля двух мільярдаў еўра... І тройчы дабраліся толькі да чвэрцьфіналу Лігі чэмпіёнаў.

Каб паскорыць працэс эвалюцыі з супербагатага клуба ў проста суперклуб, пяць гадоў таму Мансур запрасіў у «Манчэстэр», мабыць, самага ідэйнага трэнера Еўропы — Хасепа Гвардыёлу. З двух вышэйзгаданых мільярдаў палова прыйшлася якраз на эру іспанца. Уладальнікі без размоў куплялі тых, на каго рулявы паказваў пальцам. Стоўнз за 56 мільёнаў еўра, Ляпорт за 65, Марэз за 68, Родры за 70, Рубен Дыяш за 68 — самыя дарагія пакупкі «Ман Сіці» за кожны год, што Гвардыёла правёў у клубе. Што характэрна, амаль усе гучныя набыцці прыйшліся да двара: трэнер сапраўды старанна адбіраў менавіта тых, хто падыходзіў пад яго сістэму.

Узамен Гвардыёла прывіў камандзе ўнікальны стыль і зрабіў яе, у некаторым родзе, наймацнейшай у свеце. Калі б нашумелы і раптоўна спачылы праект Суперлігі ўсё-ткі атрымалася рэалізаваць, мабыць, менавіта ў «Манчэстэр Сіці» былі б самыя высокія шанцы яго выйграць.

Гвардыёла ўсю кар'еру будуе грунтоўныя каманды, якія бліскуча паказваюць сябе на дыстанцыі: што «Барселона», што «Баварыя», што «Манчэстэр Сіці». Непрыемныя нечаканасці заўсёды чакалі іспанца менавіта на кароткатэрміновых адрэзках, калі вынік трэба было выдаць у адным-двух матчах без права на рэванш. Якраз фармат плэй-оф Лігі чэмпіёнаў, якую Гвардыёла не выйграваў ужо дзесяць гадоў.

Так што для трэнера гэты май — велізарны шанец даказаць, што галоўны клубны еўратрафей падуладны яму не толькі тады, калі ў камандзе сабраныя Мэсі, Хаві і Іньеста. Бо незразумела, колькі чакаць наступнага... Тым больш, у гэтым плэй-оф «Ман Сіці» як мінімум двойчы даказаў, што пасталеў і навучыўся выбірацца са складаных сітуацый. У першым матчы з «ПСЖ» «манчэстэрцы» амаль гадзіну знаходзіліся ў становішчы даганялых, а ў другой сустрэчы з дортмундскай «Барусіяй» прапусцілі першымі і аказаліся на мяжы вылету на звыклай стадыі чвэрцьфіналу. Абодва паядынкі завяршыліся стылёвымі валявымі перамогамі «гараджан».

Што яшчэ важней, гэты фінал — шанец не толькі для Гвардыёлы, але і для каманды, дзе няма гульцоў, якія насыціліся перамогамі ў Лізе чэмпіёнаў. Геніяльны дэ Брэйнэ — без трафея, Серхіа Агуэра — без трафея, Стэрлінг — без трафея, Бернарду Сілва — без трафея, Эдэрсан — без трафея... У галовах гэтых хлопцаў, у адрозненне ад тых жа баварцаў, дакладна не сядзіць думка пра зробленую справу, прытупляючы інстынкты. Напружанне настолькі вялізнае, што украінец Зінчанка гатовы быў парваць супернікаў на шматкі — літаральна — падчас матча з «ПСЖ», а пасля фінальнага свістка абмяк і заплакаў. Без яго «асіста» ў першай гульні, без яго натхнёнага рыўка, які абумовіў гол, другі паўфінал з парыжанамі мог бы скласціся зусім па-іншаму...


Хасеп Гвардыёла: час прыйшоў

«Манчэстэр Сіці» ішоў да гэтага фіналу трынаццаць гадоў, Гвардыёла — дзесяць, лідары каманды — усю кар'еру. Набліжаецца ці прыгожая гісторыя, ці вялікая драма.

### «Манчэстэр Сіці»: шлях да фіналу

Групавы раўнд
«Порту» — 3:1, 0:0
«Алімпіякас» — 3:0, 1:0
«Марсэль» — 3:0, 3:0
Плэй-оф
«Барусія» Мёнхенгладбах — 2:0, 2:0
«Барусія» Дортмунд — 2:1, 2:1
«ПСЖ» — 2:1, 2:0

### Лондан

Яшчэ зімой ніхто і ламанага гроша не паставіў бы на «Чэлсі» ні ў адным турніры. Дзявятае месца ў чэмпіянаце, бляклая гульня, даражэзны Вернер, які не апраўдвае надзей, Фрэнк Лэмпард, які імкліва губляў кіраванне камандай... З групы Лігі чэмпіёнаў «сінія» выйшлі з першага месца, але ў плэй-оф ім прадказвалі хуткі вылет ад больш спрактыкаванага «Атлетыка». І ўсё гэта пры тым, што «Чэлсі» ўпэўнена ўваходзіць у топ-10 заможных клубаў свету. У той час, калі многія імкнуцца эканоміць або, па меншай меры, падыходзіць да трат разумна, лонданцы вырашылі, што 200 мільёнаў еўра на ўмацаванне атакуючай лініі — разумная інвестыцыя. Вернер, Хаверц, Зіех... З ходу ніхто не зайграў на выплачаныя грошы.

У студзені творчы крызіс дасягнуў такога маштабу, што Раману Абрамовічу давялося прымаць цяжкае рашэнне: пасярод сезона здымаць з трэнерскага паста легенду клуба. Адны паглядзелі ў табліцу і паставіліся з разуменнем, іншыя забурчалі (маўляў, трэба было даць Лэмпарду дагуляць сезон), але калі стырно прыняў Томас Тухель, абодва лагеры проста перагарнулі старонку і з захапленнем прыняліся сачыць за працай немца.

Новы трэнер хутка перана범ладзіў каманду пад сябе: ушчыльніў абарону, укараніў папулярную сёння сістэму з «ілжывай дзявяткай», адмовіўшыся ад класічнага цэнтрфорварда, ускладніў атакуючыя схемы. А таксама — хутка патлумачыў, хто тут галоўны, не гарантаваўшы месца ў «старце» нават гульцам, набытым за 80 мільёнаў еўра.

«Ахоўнага татэма» не аказалася ні ў каго, за месца на полі пайшла барацьба. Усё гэта выклікала неадкладны эфект: у чэмпіянаце «Чэлсі» падняўся з табліцы бездані і нават уключыўся ў барацьбу за медалі, а ў Лізе чэмпіёнаў надзвіва лёгка расправіўся з «Атлетыка». Затым з «Порту». Затым — з «Рэалам». Феномен «Чэлсі» пачалі разбіраць сур'ёзна, успомнілі, што Тухель — вялікі майстар кубкавых супрацьстаянняў і падрыхтоўкі да канкрэтнага суперніка.

У рэшце рэшт, нездарма гэты фінал для немца другі запар. У мінулым годзе ён упэўнена ішоў да мэты з «ПСЖ», пакуль не сутыкнуўся з найлепшай камандай свету на той момант — «Баварыяй». У гэты раз яго чакае падобнае выпрабаванне: наўрад ці проста зараз на планеце ёсць хтосьці больш магутны, чым «Манчэстэр Сіці». Толькі ў распараджэнні немца больш няма зорак калібру Мбапэ і Нэймара. З іншага боку, Тухель ужо некалькі разоў даказаў, што ўмее выціскаць вынік з калектываў любога ўзроўню зорнасці, а Мбапэ і Неймар не выратавалі «ПСЖ» ад вылету ў паўфінале.

І яшчэ адзін нюанс: з апошніх двух двубояў з Гвардыёлам пераможцам выходзіў менавіта Тухель. У красавіку лонданцы выбілі «Сіці» з Кубка Англіі, а ў маі адтэрміновалі іх чэмпіёнства, перамогшы на чужой тэрыторыі — 2:1. Праўда, да гэтай сустрэчы ўжо было вядома, што супернікам трэба будзе згуляць у фінале Лігі чэмпіёнаў, з-за чаго абодва трэнеры ўключылі рэжым паддаўкоў. І той, і іншы выставілі неаптымальныя склады, а таксама зберагалі тактычныя напрацоўкі, зрабіўшы стаўку на даволі прамалінейны футбол. Так што ні пра якую «рэпетыцыю фіналу» і гаворкі не ішло. Аднак у асобных матчах каманду Гвардыёлы, пэўна, можна паставіць у тупік. Клоп займаецца гэтым ужо шмат гадоў, Тухель таксама майстар на падобныя фокусы.

Акрамя таго, «Чэлсі» не абцяжарваюць такі ціск, як суперніка. «Манчэстэр Сіці» знаходзіцца на парозе, за якім спаўняецца мара ўсяго жыцця, ад яго чакаюць першага ў гісторыі ЛЧ-трафея. А «сінія», выратаваўшы сезон, які каціўся ў памыйнае вядро, ужо і так адчуваюць сябе героямі — незалежна ад таго, што будзе ў канцы. У гэтым плане бягучы год вельмі нагадвае 2012-ы. Тады ў Лондане не заладзілася ў Вілаша-Боаша, партугальца знялі пасярод сезона, ад безвыходнасці паставілі малавопытнага Дзі Матэа, а той узяў ды і выпакутаваў адзіную пакуль для «Чэлсі» Лігу чэмпіёнаў! Па дарозе паваліліся і Мэсі ў росквіце, і Робен з Рыберы.

29 траўня «Чэлсі» выйдзе на поле без залішніх думак. Здарыцца прыгожая гісторыя ці, у горшым выпадку, нічога страшнага.

### «Чэлсі»: шлях да фіналу

Групавы раўнд
«Севілья» — 0:0, 4:0
«Краснадар» — 4:0, 1:1
«Рэн» — 3:0, 2:1
Плэй-оф
«Атлетыка» Мадрыд — 1:0, 2:0
«Порту» — 2:0, 0:1
«Рэал» Мадрыд — 1:1, 2:0

Улад ШВЯДОВІЧ,
«Наша Ніва»

# «Я ганаруся мужам»

**Спецсувязіста Генштаба Дзяніса Урада прысудзілі да 18 гадоў пазбаўлення волі. Два месяцы таму ён сфатаграфаваў ліст міністра ўнутраных спраў міністру абароны і «адправіў польскаму тэлеграм-каналу». Пасля было затрыманне, СІЗА КДБ і фільм дзяржтэлебачання «Манкурты», абвінавачанне ў здрадзе дзяржаве і закрыты суд.**

«Наша Ніва» пагаварыла з Ірынай Урад, жонкай Дзяніса. Яна расказала пра затрыманне мужа, рэакцыю на прысуд, іх сумеснае жыццё і сённяшняе стаўленне сваякоў і блізкіх.

## «Заплакаў, калі мы сустрэліся позіркамі»

***— Суд над Дзянісам быў закрыты, але ці трапілі вы на абвяшчэнне прысуду?***

— Мяне пусцілі ў апошні дзень, хоць і не чакала. Я прыехала ў суд, убачыла, што там вельмі шмат прэсы (пра суд было вядома толькі дзяржаўным СМІ. — «НН»). Мы з адвакатам звярнуліся тады, папрасілі, каб мяне пусцілі.

***— Які вырак чакалі?***

— Я думала, што будзе максімум, 20 гадоў.

***— Ці была нейкая сувязь з мужам? Лісты ці спатканні?***

— Спатканняў не было, толькі перапіска. Лісты даходзілі два разы на тыдзень пачкамі. Ён пісаў, што таксама атрымліваў лісты пачкамі раз ці два на тыдзень, хоць, па яго словах, сукамернікі атрымлівалі свае лісты амаль што на наступны дзень.

Першыя лісты ад Дзяніса былі вельмі цяжкія. Ён не скардзіўся, што яго прыніжалі ці штосьці з ім рабілі. Але ён вельмі перажываў: што будзе далей? Як будзе сям'я цяпер? Як гэта ўсё ўспрымуць бацькі?

Апошнім часам Дзяніс, напэўна, разумеў, што маленькі тэрмін яму не дадуць. І неяк гэта прымаў. Адзінае, што ён вельмі перажываў за дзіця.

Дзяніс не скардзіўся, не казаў, што яму кепска. Пісаў, што ў камеры нармальныя людзі, што ёсць падтрымка. Кормяць нармальна, выпускаюць на шпацыр — умовы прымальныя.

Ён пісаў, што будзе вялікі тэрмін, без варыянтаў. Ён бачыў той фільм «Манкурты» па тэлебачанні ў камеры. Казаў, што быў у шоку і не разумее, якім чынам ён туды трапіў.

***— Ці прызнаў Дзяніс віну?***

— Наколькі я разумею, так, прызнаўся, што выклаў той дакумент.

***— Як ён адрэагаваў на прысуд?***

— Калі агучвалі прысуд, Дзяніс трымаўся. Адзіны момант быў — заплакаў, калі ўбачыў у зале мяне і мы сустрэліся позіркамі.

## «Гэты суд паказальны»

***— Раскажыце, як і калі гэта ўсё пачалося. Калі Дзяніса затрымалі?***

— Гэта было ў панядзелак, 15 сакавіка. Ён быў на выходным пасля дзяжурстваў.

Дзяніса выклікалі на працу. Ён паехаў — і знік.

***— А чаму яго выклікалі раптоўна? Для чаго?***

— Пачалося разбіральніцтва з тым злітым дакументам. Думаю, ён здагадваўся, з чым гэта звязана, але ўсё адно паехаў.

Ён знік. Я пачала перажываць, а ўначы да нас прыйшлі зператрусам — і я ўсё зразумела. І калі я ўжо адчыніла сілавікам дзверы, Дзяніс мне пазваніў — яму дазволілі. Ён сказаў: «Іра, мяне затрымалі, пакажы там ім усё».

Прыйшлі зператрусам недзе ў палову на другую ночы. Сын спаў у іншым пакоі. Алеператрус правялі карэктна, намагаліся ўсё рабіць ціха. Дзіця ў выніку нават не прачнулася, на шчасце.

Забралі ўсю тэхніку, нават мой працоўны ноўтбук, тэлефоны.

***— А вы ведалі, за што менавіта затрыманы Дзяніс? Ведалі, што ён адправіў у тэлеграм-канал той дакумент?***

— Так, ведала. Я калі ўбачыла тую публікацыю ў тэлеграм-канале, то спытала ў Дзяніса, ці бачыў яе ён. Кажу, глядзі, што пра вас пішуць. Ён кажа: так, гэта я.

Я спачатку не ўспрыняла гэта ўсё вельмі сур'ёзна. Нават пасля затрымання Дзяніса іператрусу я яшчэ думала, што, магчыма, мужу нейкі штраф дадуць і ўсё.

Але ж калі на наступны дзень мяне запрасілі ў КДБ, там сказалі, што Дзяніс будзе сядзець доўга.

***— А як вылічылі, што гэта зрабіў Дзяніс?***

— Такіх падрабязнасцяў я не ведаю. Але, думаю, што ён прызнаўся сам.

***— Дзяніс казаў вам, чаму зрабіў тое, што зрабіў?***

— Ён быў за народ — вось што сказаў.

***— Што пачалося пасля затрымання Дзяніса? Як адрэагавалі бацькі, сябры?***

— Я не вельмі хацела гэта ўсё агалошваць. Бацькам я сказала, што яго затрымалі, але не казала ў дэталях, што і як. Усе падрабязнасці і бацькі, і сябры даведаліся з фільма.

***— Ці вы глядзелі самі гэты фільм?***

— Так, спасылку на яго мне скінула сястра Дзяніса. Кажа: Дзяніса паказалі па тэлебачанні.

Я паглядзела. І калі пачула яго словы, як ён вымаўляе… Нібыта гэта быў іншы чалавек.

***— Пасля выхаду фільма якое было стаўленне да вас і Дзяніса з боку сваякоў і блізкіх?***

— Усе прыйшлі з падтрымкай. Не толькі сваякі і сябры, нават незнаёмыя людзі.

***— А як вы самі ставіцеся да ўчынку мужа?***

— Я ганаруся ім.

***— Ці лічыце яго здраднікам?***

— Не. Ён не здраджваў Радзіме.

***— Ці змянілася ваша стаўленне да вайскоўцаў? Да сілавікоў?***

— Скажу так: гэты суд — паказальны, каб запалохаць такіх, як мой муж. Але сапраўднага афіцэра запалохаць немагчыма.

***— Лічыце Дзяніса сапраўдным афіцэрам?***

— Так.



## «Удзячная людзям за падтрымку»

***— Раскажыце трошкі пра вашу з Дзянісам гісторыю знаёмства.***

— Дзяніс з Расонаў, я з Гродзенскай вобласці. Пазнаёміліся, калі вучыліся ў Мінску. Дзяніс быў на трэцім курсе вайсковай Акадэміі, я трэццякурсніца, што вучылася на інжынера-праграміста.

Пачалося ўсё «УКантакце». Там была нейкая «Фотакраіна», дзе было відаць, хто заходзіў на тваю старонку. Ну і неяк завязалася, Дзяніс мне напісаў.

Дзяніс — рамантык. Заўсёды кветкі, падарункі. Наша другое спатканне прайшло на аглядный пляцоўцы Нацыянальнай бібліятэкі.

Мы сустракаліся недзе паўтара года і ў 2013 годзе ажаніліся.

***— Дзяніс расказваў, чаму вырашыў стаць вайскоўцам?***

— Ён расказваў, што да іх у школу прыходзілі агітаваць паступаць у Вайсковую акадэмію. Ён быў у 11 класе, раздумваў, куды далей. І гэта неяк паўплывала на яго, паспрабаваў — і паступіў. Ён вучыўся добра, і ў Акадэміі, і ў школе, меў добрыя адзнакі.

***— Сам ён не з сям'і вайскоўца?***

— Не. Мама яго працуе ў паліклініцы, бацька вартаўнік. Жывуць у Расонах.

***— Як Дзяніс трапіў на працу ў Генштаб?***

— Па размеркаванні, адразу пасля Акадэміі ў 2014 годзе.

***— Як успрымаў сваю працу?***

— Па-рознаму. Апошнім часам хацеў змяніць прафесію, бо лічыў, што не было развіцця. Ён заўсёды хацеў рухацца наперад, цяпер даслужыўся да капітана — і ў выніку сказаў, што праз спецыфіку працы яму трэба будзе ці мяняць месца працы, ці пераходзіць на іншую пасаду. Дзянісу падабалася тое, чым ён займаўся, але ён не бачыў для сябе далейшага росту. Таму думаў, што, можа, варта перайсці ў IT. Пытанне было нават не столькі ў грошах, колькі ў тым, што яму не хапала развіцця.

***— Чым Дзяніс цікавіўся, акрамя працы?***

— Хобі — рыба і футбол. Глядзеў матчы пастаянна, вельмі часта ездзіў з бацькам на рыбу, асабліва любіў узімку. У яго вельмі добрыя стасункі з бацькамі — і са сваімі, і з маімі.

***— Бацькам яго колькі гадоў?***

— За 50. Калі Дзяніс адсядзіць поўны тэрмін, ім будзе ўжо пад 80.

Для іх пачуць вырак было жудасна. Сама лічба гучыць жудасна, ды яшчэ і бачыць сына па тэлебачанні, з такімі каментарамі па каналах…

***— А вашы бацькі, калі даведаліся, што здарылася, што сказалі вам?***

— Сказалі, што патрэбны час. Неяк упікаць мяне ці Дзяніса ў іх і ў думках не было. Толькі падтрымка.

***— Чым вы займаецеся?***

— Працую тэсціроўшчыцай у IT-кампаніі.

***— Як у вас на працы ўспрынялі тое, што адбываецца цяпер з вамі і Дзянісам?***

— Яны ведалі з самага пачатку, бо ў мяне ж забралі пры ператрусе працоўны ноўтбук. Усе ставяцца да мяне вельмі добра. Калектыў выдатны, усе падтрымліваюць. Я вельмі ўдзячная людзям за гэта.

***— Вы засталіся самі з малым дзіцём. Ці хапае грошай?***

— Часам сябры дапамагаюць. Спачатку было вельмі цяжка, але цяпер ужо неяк прызвычаілася, што можна тут ці там трохі ашчадзіць. Ужо неяк наладжваецца.

***— Жывяце ў здымнай кватэры?***

— Не, набылі ў крэдыт. Пераехалі каля года таму, яшчэ не скончылі цалкам рамонт. Але ж цяпер пра гэта і не думаецца — галоўнае, што ёсць хоць нейкі дах над галавой.

***— Як тлумачыце сыну пра тое, дзе Дзяніс?***

— Сыну будзе 4 гады 25 траўня. Я пакуль кажу, што бацька ў камандзіроўцы.

Пакуль не ведаю, як і што казаць далей.

***— Спачатку вы катэгарычна не хацелі гаварыць са СМІ. Думалі, што маўчанне неяк дапаможа?***

— Думала, што так. Думала, што не будуць раздзімаць гэтую гісторыю, што ўсё, магчыма, неяк уляжацца… Але пасля зразумела, што не ўляжацца. Бо некаторым напляваць на людзей, на іх жыцці, на жыцці іх бацькоў.

***— Ці цікавіліся вы з Дзянісам палітыкай калісьці раней?***

— Не, не асабліва. Усё пачалося ў 2020 годзе. Раней нейкую пэўную пазіцыю мы ніяк не праяўлялі, не выказвалі.

***— Як ставіліся да падзей 2020 года?***

— Так жа, як і ўсе нармальныя людзі. Галасавалі гэтаксама, як і ўсе (пасміхаецца).

У мітынгах мы не ўдзельнічалі, але ж падчас саміх выбараў мы былі ў адпачынку. І мы спецыяльна прыехалі, каб адстаяць у вялікай чарзе на ўчастак, каб убачыць, як людзі галасуюць, колькі нас…

***— У сваіх лістах з-за кратаў Дзяніс пісаў, што шкадуе пра свой учынак?***

— Ён пісаў, што шкадуе пра іншае, што пакутуе яго сын і што пакутую я. Прасіў прабачэння ў мяне.

Канечне, я яго выбачыла. Лічу, што віна тут не яго, і хутка ён будзе на волі.

***— Як вы ўяўляеце сябе будучыню цяпер?***

— Будзем чакаць. Думаю, неяк дамо рады, з такой падтрымкай людзей.

***— Ці думалі пра эміграцыю?***

— Не, пакуль не. Тут мой муж. Я мушу быць побач з ім. Тут нашы бацькі. Я мушу быць побач з імі таксама.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Назарбаева аб'яваць богам?

На казахстанскім сатырычным сайце Qaznews24 нядаўна з'явіўся допіс пра тое, што кіраўніка Казахстана збіраюцца абвясціць богам. Нібыта падобную ідэю абмяркоўвае Духоўнае ўпраўленне мусульман Казахстана.

Аднак мясцовыя ўлады жарту не зразумелі. 15 траўня ў рэдактара рэсурсу Тамерлана Енсебека прайшоўператрус, пасля чаго яго даставілі на допыт у дэпартамент паліцыі. Пасля пяці гадзін «следчых дзеянняў» Енсебека адпусцілі. Праўда, цяпер ён праходзіць па справе аб «распаўсюдзе заведама ілжывай інфармацыі».

Акрамя нататкі пра тое, што Назарбаеў стане богам, да такой ілжывай інфармацыі аднеслі таксама допіс пра тое, што казахам, якія навучаюцца за мяжой, забароняць размяшчаць фота і відэа, а таксама пісаць пра высокі ўзровень жыцця па-за межамі Казахстана.

Трэба сказаць, што казахскія журналісты не засталіся ўбаку — яны напісалі калектыўны ліст у падтрымку калегі. У лісце звяртаецца ўвага, што ў профілі сайта было ўказана: усе матэрыялы не маюць дачынення да рэальнасці, «любое супадзенне з рэальнымі людзьмі і падзеямі — выпадковасць». Так ці інакш, цяпер вядзецца расследаванне. Сам Тамерлан Енсебек кажа, што не лічыць сябе распаўсюднікам «загадзя ілжывай інфармацыі».

**Паводле казахстанскай прэсы**

### М'ЯНМА. Апазіцыю на органы?

Днямі цела аднаго паэта М'янмы, забітага ў час маніфестацый сіламі бяспекі, было вернутае яго сям'і. Якое ж было здзіўленне сваякоў, калі яны выявілі, што ў нябожчыка няма сэрца. Яго выдалілі медычным шляхам. Гэта адразу спарадзіла чуткі, што ваенны рэжым мае намер арыгінальным спосабам вырашыць праблему фінансаў, якая ўзнікла ў выніку міжнароднай блакады хунты. Каб знайсці грошы, дысідэнтаў забіваюць і забіраюць іх органы на продаж. Адной з ахвяраў такой палітыкі, нібыта, і стаў 45-гадовы паэт.

Зрэшты, афіцыёз адмаўляе абвінавачанні. Па словах урадавых спікераў, літаратар памёр ад сардэчнага прыступу. Некаторыя таксама не выключаюць, што паэта знайшлі без сэрца з-за яго верша. Той выступіў супраць лютаўскага перавароту і раскрытыкаваў ваенных, напісаўшы верш з наступнымі словамі: «Яны страляюць у галаву, але яны не ведаюць, што рэвалюцыя ў сэрцы». Магчыма, гэтую фразу і прыгадалі паэту, калі ён трапіў у рукі сілавікоў.

Застаецца дадаць, што пасля лютаўскага путчу хунта ў М'янме забіла не менш за 800 мірных жыхароў.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ЦАР. Афрыканскі трыумф расійскага кіно

Вы можаце сабе ўявіць, што прэм'ера расійскага фільма збярэ 20 тысяч чалавек? Аказваецца, гэта не фантазія. Менавіта столькі людзей паглядзела на мінулым тыдні фільм «Турыст» на стадыёне ў сталіцы Цэнтральнаафрыканскай рэспублікі (ЦАР).

Стужка так уразіла гледачоў, што на наступны дзень яны правялі шэсце, святкуючы выхад «Турыста» на экраны. Сакрэт такога трыумфу вельмі просты. Мастацкі фільм заснаваны на рэальных падзеях і прысвечаны дзейнасці расійскіх ваенных інструктараў па падрыхтоўцы кадраў для нацыянальнай арміі ЦАР. Галоўны герой карціны — афіцэр з Расіі з пазыўным «Турыст», камандзіраваны ў афрыканскую краіну. Пасля прыбыцця на месца ён трапляе ў вір падзей, звязаных са спробай былога прэзідэнта Базізэ здзейсніць дзяржпераварот з апорай на мясцовыя бандфарміраванні.

Поспеху таксама спрыяў набор акцёраў. Да працэсу стварэння фільма былі прыцягнутыя 700 мясцовых акцёраў, якія не маюць прафесійнага вопыту. Апошні момант, безумоўна, не спрыяў мастацкай якасці «Турыста», але ў любым выпадку стужка трапіць у гісторыю. Гэты кінапраект — першая карціна пра ЦАР, якая выйшла на дзяржаўнай мове рэспублікі — мове санго.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. 18 няўдалых смяротных пакаранняў

Пра гісторыю, вартую раманаў Стывена Кінга, паведамілі амерыканскія медыя. У турме штата Агаё ад Covid-19 памер Ромель Брум (Romell Broom).

У прынцыпе, такая смерць сёння не ўнікальная. Аднак з Ромелем выпадак асобны: ён яшчэ ў 2009-м быў асуджаны за выкраданне, згвалтаванне і забойства 14-гадовай дзяўчынкі ў далёкім 1984 годзе. Але пакараць забойцу так і не здолелі. Справа ўтым, што ў гэтым штаце асуджаных на смерць забіваюць праз ін'екцыю з атрутай. Аднак з Ромелем гэта не спрацавала: праз шматлікія парэзы і сляды ін'екцый на яго венах увесці атруту не атрымлівалася. Прычым, не адзін раз. Пачынаючы з 2009 года адпаведныя паліцэйскія чыноўнікі аж 18 разоў (!) спрабавалі зрабіць тую ін'екцыю, аднак без выніку.

Ромель Брум працягваў жыць, хаця існаванне ў камеры для асуджаных на смерць наўрад ці можна назваць жыццём. Кропку ў гэтай гісторыі паставіў вірус-забойца. Застаецца дадаць, што наступны, ужо 19-ты раз увесці вязню ін'екцыю планавалася ў верасні гэтага года.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Бітва за Ларзак

Алег НОВІКАЎ

**Адна з самых незвычайных і масавых пратэставых акцый у еўрапейскай гісторыі пачалася 40 гадоў таму. На Захадзе яна вядомая як «Бітва за Ларзак».**



Фота www.avtonom.org



Фота www.profile.ru

У французскай масавай культуры папулярны міф, што мэтр сярэднявечнага Ордэну Тампліераў падчас пакарання на вогнішчы даслаў праклён французскаму каралю і яго дзяржаве. Гэты праклён, быццам, пасля сапраўды не раз спрацаваў. Пры вялікім жаданні праз прызму гэтай байкі можна глядзець на тое, што адбывалася вакол Ларзака — мясцовасці на поўдні Францыі, што знаходзіцца побач з адным з гістарычных цэнтраў тампліераў. «Бітва за Ларзак» аказалася вельмі моцным ударам па інстытутах французскай дзяржавы.

Пачыналася ўсё дастаткова будзённа. У Ларзаку даўно існавала вайсковая база, якая выкарыстоўвалася для навучання салдат. База размяшчалася на 3000 гектарах неапрацаванай зямлі і асабліва нікому не замінала да вясны 1971-га. Тады Мінабароны вырашыла павялічыць плошчу базы і палігона за кошт зямлі фермераў, якую павінны былі канфіскаваць. Прадказальныя пратэсты ўрад спрабаваў завочна купіравацьза кошт пакету абяцанняў. Пашырэнне вайсковай базы, маўляў, зробіць станоўчы ўклад у эканоміку рэгіёна за кошт электрыфікацыі сельскіх раёнаў, водазабеспячэння і будаўніцтва новай дарогі.

Атракцыён абяцанняў не спрацаваў. Тым больш, калі стала вядома пра план размясціць непадалёк ад Ларзака балістычныя ядзерныя ракеты «зямля-зямля». У сакавіку 1971-га фермеры пачалі пратэставыя акцыі і петыцыйныя кампаніі. Спачатку асноўную групу незадаволеных складалі чальцы старых сялянскіх кланаў. Іх падтрымлівала каталіцкая грамадскасць на чале з тутэйшым епіскапам, які заявіў пра сваю нязгоду з планам пашырэння базы.

Цяжка сказаць, якую перспектыву меў бы гэты супраціў, калі б нечакана рух не падхапіла французская левая тусоўка ўсіх калібраў: трацкісты, камуністы, сацыялісты, прафсаюзы і нават аксітанскія нацыяналісты, што бачылі ў базе праяву генацыду з боку Парыжу ў дачыненні да правінцыі. На наступны год каля ста тысяч (!) чалавек накіравалася ў Ларзак. Апошнія рысы да карціны пратэстаў дадалі хіпі і шматлікія школьнікі, якія кідалі вучобу ды ўцякалі з дому дапамагаць фермерам змагацца з жандарамі, што праводзілі канфіскацыі.

Тое, што наплыў хіпі шакіраваў мясцовых жыхароў, — гэта яшчэ мякка сказана. Сяляне ўпершыню пабачылі аголеных на публіцы жанчын. Тым больш, што сярод кабет былі прыхільніцы папулярнай на той час дактрыны сексуальнай рэвалюцыі. Аднак за кошт сумесных акцый этычна-культурныя супярэчнасці ўдалося нівеляваць. Да таго ж хіпі аказаліся вельмі актыўнымі падчас аднаўлення муроў, якія ў рамках канфіскацыі зямель разбуралі ўрадавыя органы. Таксама актыўна ўжывалася практыка негвалтоўнага супраціву, калі вядомыя публічныя асобы абвяшчалі галадоўкі на знак падтрымкі пратэсту.

Цікавая была тактыка барацьбы на юрыдычным фронце. Яна палягала ў продажы мясцовымі фермерам невялікіх участкаў зямлі — з мэтай зрабіць магчымую экспрапрыяцыю як мага больш складанай для бюракраты. У перыяд з 1973 па 1981 год аж 6180 маленечкіх участкаў было прададзена за сімвалічны кошт 3500 новых уладальнікаў. Каб зрабіць акт экспрапрыяцыі яшчэ больш складаным, многія з гэтых «землеўладальнікаў» пасля рэгістраваліся за мяжой.

Праўда, была сярод маніфестантаў і фракцыя радыкалаў. Менавіта яе чальцы ўлетку 1976-га нейкім чынам патрапілі на ваенную базу і знішчылі 500 арыгінальных юрыдычных дакументаў, якія тычыліся зямельных канфіскацый. На наступны дзень яны былі арыштаваныя і хутка прысуджаныя да пазбаўлення волі ад трох да шасці месяцаў. Зрэшты, праз цікк грамадскасці і добрую працу адвакатаў ніхто не сядзеў за кратамі больш чым тры тыдні.

Важна адзначыць, што абаронцы Ларзака ніколі не абмяжоўваліся лакальнымі дзеяннямі. У краіне было створана каля 150 камітэтаў падтрымкі пратэсту. У 1975 годзе рух заснаваў уласную газету Gardarem lo Larzac, падпіску на якую аформілі 4000 чалавек. 28 кастрычніка 1978 года адбыўся нацыянальны дзень дзеянняў. У шэсцях, мітынгах і галадоўках прынялі ўдзел дзясяткі тысяч чалавек, якім спецыяльны ліст падтрымкі накіраваў славуты пісьменнік Жан-Поль Сартр.

Яшчэ адной «фішкай» Ларзака сталі «паходы на Парыж», у авангардзе якіх рушылі авечкі і трактары. Першы паход стартаваў 7 студзеня 1973-га. На кожным прыпынку мясцовыя камітэты салідарнасці сустракалі ўдзельнікаў шэсця. Паліцыя і мясцовыя ўлады былі значна менш гасцінныя. Напрыклад, у Арлеане шэсце было заблакаванае атрадамі CRS (французскі АМАП), а 26 трактароў, якія належалі пратэстоўцам, былі канфіскаваныя. У адказ мясцовыя арлеанскія фермеры пазычылі актывістам свае трактары — і паход працягнуўся. Такія паходы на сталіцу сталі рэгулярнымі. А паход у 1978 годзе, які ў фінале сабраў 40 тысяч чалавек, стаў самай буйной маніфестацыяй года ў Францыі.

Заключны акорд «бітвы за Ларзак» прыпаў на 1980 год, калі на прэзідэнцкіх выбарах сустрэліся Франсуа Мітэран і Валеры Жыскар д'Эстэн. Мітэран заняў пазіцыю супраць пашырэння базы — і, адпаведна, пасля перамогі на выбарах у траўні 1981-га афіцыйна скасаваў праект вайскоўцаў. Ледзь не адначасова Касацыйны суд адмяніў усе акты экспрапрыяцыі земляў фермераў.

На гэтым гісторыя не скончылася. Тыя падзеі далі штуршок стварэнню сельскіх прафсаюзаў, руху супраць фаст-фуду, і здабычы сланцавага газу і гэтак далей. Няма сумневаў, што на фоне росту палітычнай напружанасці ў Францыі, юбілей і ўрокі Ларзаку абавязкова будуць у фокусе грамадскіх дэбатаў. Але самы цікавы ўнёсак у спадчыну апісаных падзей, падаецца, ужо зроблены. Згаданыя вышэй аксітанскія нацыяналісты напісалі цэлы цыкл паэмаў на аксітанскай мове, прысвечаны героям «Бітвы за Ларзак».

# «Арабы любяць сваіх дзяцей, тэрарысты не любяць нічыіх дзяцей»

Ганна СОУСЬ,
Радыё Свабода

**Вядомая ізраільская дакументалістка, палітык, дэпутатка Кнесету і арабістка Ксенія Святлова расказвае «Радыё Свабода» пра магчымыя спосабы і тэрміны вырашэння ізраільска-палесцінскага канфлікту, ролю Расіі і арабскага свету. А таксама, калі выйдзе яе фільм «Мяккая сіла» пра беларускую жаночую рэвалюцыю.**





***— Ксенія, ці ў бяспецы вы? Як канфлікт змяніў вашу працу, ваша жыццё?***

— У Ізраілі створаная сетка бамбасховішчаў і бяспечных прастораў. У нас таксама ёсць сістэма, якая называецца «Жалезны купал», яна перахоплівае 90% тых ракетаў, якія павінны былі б прызямліцца ў жылых, густанаселеных раёнах. З аднаго боку, гэта вайсковая абарона, а з другога — мы паслухмяна, як чуем сігнал трывогі, бяжым і хаваемся ў бяспечных прасторах. Так атрымалася, што я цяпер са сваім дзіцём у шпіталі. Апошнія ночы, калі раздаецца сігнал трывогі, нават калі гэта і далёка, усе бяруць дзяцей і бягуць у бяспечныя месцы. Мой муж дома з малой дачкой бегае.

Наша сям'я жыве ў паўднёвым горадзе Ашкелон, там людзі з гэтых сховішчаў амаль не выходзяць, бо Ашкелон стаў галоўнай мішэнню ракетнага абстрэлу з Газы. Паколькі я не выходжу са шпіталя, дзе ляжыць мая дачка, раблю адсюль усё магчымае, каб патлумачыць, што тут адбываецца. Некалькі разоў падчас эфіраў быў сігнал трывогі — і даводзілася спыняць. Аднойчы так было падчас лекцыі, якую я вяла, і мае студэнты кінулі кампутары і пабеглі ў бяспечнае месца.

***— Ёсць дзве вельмі вядомыя цытаты прэм'ер-міністраў Ізраілю. Адна — Голды Меір: «Мір на Блізкім Усходзе наступіць тады, калі арабы будуць любіць сваіх дзяцей мацней, чым яны ненавідзяць габрэяў». І іншая — Іцхака Шаміра: «У гэтай частцы свету габрэі і арабы заўсёды будуць жыць разам». Наколькі яны актуальныя вясной 2021 года?***

— Арабы любяць сваіх дзяцей, тэрарысты не любяць нічыіх дзяцей. У сектары Газа ёсць тэрарыстычная арганізацыя, якая цалкам свядома развязала гэту вайну… Пасля інцыдэнтаў (да іх можна па-рознаму ставіцца) ва Усходнім Ерусаліме, потым у мячэці Аль-Акса, у адказ паляцелі з Газы тры тысячы ракет па жылых дамах у Ізраілі. У Газе на працягу апошніх 14 гадоў дзейнічае тэрарыстычная групоўка, якія кіруе сектарам, і закладнікі найперш — самі жыхары Газы. Самыя вялікія ахвяры гэтай эскалацыі — жыхары Газы.

Тэрарысты не любяць нічыіх дзяцей — ні маіх габрэйскіх, ні дзяцей сваіх суседзяў арабаў. І потым з гонарам выстаўляюць у сацсетках целы дзяцей: глядзіце, што адбываецца. Трэба выказваць спачуванне, бо гінуць дзеці, якія ні ў чым не вінаватыя, як і іх бацькі, многія з якіх не датычныя ні да чаго. Ёсць тэрарысты, якія з халодным сэрцам развязваюць вайну, абстрэльваюць Ерусалім і Тэль-Авіў, б'юць па жылых дамах, шпіталях, школах. І толькі праз тое, што Ізраіль укладае вялізарныя сродкі ў «Жалезны купал», у паветраную абарону, у бамбасховішчы, працэнт загінулых малы. Мы не спаборнічаем з тэрарыстамі ў колькасці цывільных ахвяраў. Мы хочам, каб іх было меней. Вайна каштуе грошай. Калі грошы ёсць на ракеты, яны павінны быць і на бамбасховішчы.

У Ізраілі ёсць нявырашаны канфлікт з палесцінскім народам. Гэта канфлікт дзвюх нацыянальнасцяў, двух этнасаў. Гэта не рэлігійны канфлікт, а найперш зямельны канфлікт, і на яго ўжо спрабуюць насаліць усё астатняе цынічным чынам. Тыя, хто спрабуе «запаліць» гэтую зямлю, насловаюць туды барацьбу за мячэць Аль-Акса. Ёй, між іншым, нічога не паграждае, акрамя магчымага пажару, бо радыкальныя групоўкі мусульманаў, якія там дзейнічаюць, прыносяць туды дрэвы, дровы, будуюць барыкады. І было ўжо ўзгаранне. Але гэта справа іх уласных рук, не Ізраіль гэтаму спрыяе.

Канфлікт трэба вырашаць. У Ізраілі на працягу некалькіх гадоў урад сыходзіць ад спробаў дамагчыся нармалізацыі, выпрацаваць нейкае рашэнне, паспрабаваць весці дыялог з больш умеранымі элементамі ў палесцінскім грамадстве. Напрыклад, цяпер яны адказваюць за тое, што на тэрыторыі Заходняга берага сітуацыя дастаткова спакойная. Я супраць стэрэатыпізацыі і агульных тэрмінаў — кшталту яны там усе такія, а мы ўсе іншыя. Мы ведаем, чым заканчваюцца такія абвінавачанні. Я нямала гадоў працавала як журналістка ў Газе, я ведаю сітуацыю, ведаю, што ёсць людзі, якія выступаюць супраць ХАМАСу, ёсць людзі, якія хацелі б на справядлівых, нармальных умовах вырашыць гэты канфлікт.

Да гэтага трэба імкнуцца, і задзейнічаць нашых сяброў у ЗША, Еўропе, каб спрыяць вырашэнню канфлікту, аслабленню і знішчэнню па магчымасці тэрарыстычных структураў праз узмацненне ўмераных, больш талерантных сілаў. Толькі гэта можа завяршыць канфлікт. ХАМАС выкарыстоўвае перадышку, якую атрымлівае пасля вайны, — 2 гады, 5 гадоў (як самі вырашаць), і за гэты час яны назапашваюць зброю. Яны ўвесь час рыхтуюцца да новай вайны.

Наша мэта — не проста «даваць па галаве», гэта кароткатэрміновае рашэнне. Доўгатэрміновае рашэнне — у дыпламатыі. З тэрарыстамі размаўляць нельга, значыць, трэба размаўляць з іншымі людзьмі. Сітуацыю трэба вырашаць толькі праз дыялог.

***— У Ізраілі вельмі шмат людзей падтрымлівалі Дональда Трампа, які ў сваё прэзідэнцтва абвясціў Ерусалім «непадзельнай» сталіцай Ізраілю. Гучалі засцярогі, што калі не Трамп, то Ізраілю «капец». Ці сапраўды нешта істотна змянілася з прыходам Байдэна?***

— Я перакананая, што не. Ёсць дынаміка лакальных узаемаадносінаў з ХАМАСам, які існаваў да Трампа і існуе пасля Трампа. Новая амерыканская адміністрацыя, гэтаксама, як і папярэдняя, прадае Ізраілю зброю. Толькі што было заключана пагадненне аб пастаўках Ізраілю высокадакладных ракет. Гэта трывалыя, стратэгічныя ўзаемаадносіны, якія не залежаць і не павінны ніколі залежаць ад змены любога прэзідэнта. Амерыка — наш галоўны стратэгічны партнёр, так было да Трампа, пры прэзідэнцтве Трампа, ёсць і будзе пасля Трампа.

Адзінае, што, можа, змянілася з прыходам Байдэна, гэта не падтрымка Ізраілю як такая. Любая спроба асудзіць Ізраіль у Радзе бяспекі ААН будзе сустрэтая амерыканскім вета. Змянілася тое, што Блізкі Усход у цэлым не з'яўляецца высокім прыярытэтам для адміністрацыі Байдэна. Прынамсі, так было дагэтуль. Цяпер, магчыма, саспее разуменне, што нельга не займацца гэтым тлеючым канфліктам. Тут можа быць некалькі гадоў ціха, а потым у адзін дзень усё выбухае — і асколкі далятаюць не толькі да арабскіх, але і да сусветных сталіц.

***— Якой вы як палітык і як эксперт бачыце ролю Расіі? Ізраільскія СМІ паведамляюць, што чальцы палесцінскай групоўкі ХАМАС страляюць з расійскай супрацьтанкавай ракетнай сістэмы «Карнет»...***

— Зброя расійскай вытворчасці тут ёсць ва ўсім рэгіёне. Значная частка зброі трапляе да ХАМАСу праз кантрабандныя тунелі, якія злучаюць Газу і Егіпет. Зброя ідзе з Лівіі. Я перакананая, што яна не ідзе з Расіі, а трапляе праз пасярэднікаў, праз тыя ці іншыя каналы ў сектар Газа. Больш важна, што з чальцамі тэрарыстычнай групоўкі сустракаюцца расійскія высокапастаўленыя ўрадаўцы, такія, як Сяргей Лаўроў ды іншыя. Праводзяцца нейкія кансультацыі. Ляцяць тры тысячы ракет, накіраваных выключна на цывільнае насельніцтва Ізраілю, а на гэтым фоне прадстаўнік МЗС Расіі размаўляе з прадстаўніком ХАМАСу.

У інтэрв'ю расійскім СМІ я казала наўпрост: «А дзе ваша адказнасць за тое, што адбываецца? Вы прымаеце ХАМАС у сябе дома. Дзе ваш дыпламатычны мускул? У рамках квартэту пасярэднікаў заклікаеце ўрэгуляваць сітуацыю, але ж вы наўпрост падтрымліваеце кантакт з ХАМАСам».

Некалькі словаў пра тое, што працяг абстрэлу Ізраілю прывядзе да спынення кантактаў ХАМАСу з Масквой, сталі б моцным дыпламатычным папярэджаннем і ціскам на тэрарыстычную групоўку. Пад абстрэлам знаходзяцца дзясяткі, калі не сотні тысяч расійскіх грамадзянаў, якія жывуць у Ізраілі з падвойным грамадзянствам.

***— Вы нядаўна вярнуліся з Беларусі, Літвы і Латвіі, дзе здымалі фільм пра беларускіх жанчын, удзельніц пратэстаў. Фільм выйдзе па-англійску і на іўрыце. Працоўная назва — «Мяккая сіла» («Soft power»). Ці паўплываў канфлікт на працу над фільмам пра беларускую жаночую рэвалюцыю?***

— Праз канфлікт сітуацыя стала больш складанай. Парушаная звычайная хада жыцця і працы. Тым не менш праца над фільмам працягваецца, прыступаем да мантажу, закончылі ўсе патрэбныя дадатковыя здымкі. Спадзяюся, што да лета ён выйдзе.

# Аперацыя «Сіндыкат-2»: як Савінкаў

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Нашумелыя затрыманні Фядуты, Зянковіча і Кастусёва прымусілі многіх успомніць, як савецкія чэкісты выманьвалі з-за мяжы белагвардзейскіх лідараў. Вядома, падобная аналогія вельмі ўмоўная, і палітолагі з Фэйсбука маюць мала агульнага з мацёрымі канспіратарамі мінулага. Але аператыўныя гульні ОГПУ 1920-х гадоў сапраўды ўвайшлі ў адпаведныя падручнікі многіх спецслужбаў. Паглядзім на знакамітую аперацыю «Сіндыкат-2» з дапамогай нядаўна рассакрэчаных архіўных дакументаў з Лубянкі.**



Барыс Савінкаў

## Ад Маркса да Мусаліні

Пасля таго, як Чырвонай Арміі ўдалося ліквідаваць асноўныя франты грамадзянскай вайны, у краіне працягвала дзейнічаць антыбальшавіцкае падполле. Беларусь ператварылася ў адзін з ачагоў як палітычнага ўзброенага супраціву, так і звычайнага бандытызму. Большасць паўстанцаў у Беларусі была звязаная з «Народным саюзам абароны Радзімы і свабоды» (НСАРіС) Барыса Савінкава.

Барыс Савінкаў правёў сваё дзяцінства ў Варшаве. Спачатку ён далучыўся да сацыял-дэмакратычнага руху, але затым перайшоў у партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. Дзякуючы рашучасці, харызме і нядрэнным арганізатарскім здольнасцям Савінкаў стаў памочнікам кіраўніка баявой арганізацыі партыі эсэраў Еўна Азефа, ураджэнца Гродзенскай губерні. Савінкаў стаў арганізатарам самых знакамітых эсэраўскіх замахаў — забойства міністра ўнутраных спраў Вячаслава фон Плеве, вялікага князя Сяргея Аляксандравіча, святара Георгія Гапона і іншых. Будучы арыштаваным і чакаючы смяротнага пакарання, ён змог здзейсніць дзёрзкія ўцёкі з Севастопальскай турмы і на лодцы па моры сышоў за мяжу. Аднак на фоне паразы рэвалюцыі 1906–1907 гадоў і выкрыцця Азефа, які аказаўся банальным правакатарам царскай паліцыі, у Савінкава пачаўся светапоглядны крызіс.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі эвалюцыя былога эсэраўскага баевіка направа працягнулася. У 1917 годзе Барыс Савінкаў стаў памочнікам ваеннага міністра Часовага ўрада. Пры гэтым ён зблізіўся з генералам Лаўрам Карнілавым, які задумаў няўдалы мяцеж супраць дэмакратычнай улады. У выніку Савінкаў быў выключаны з партыі эсэраў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі былы паляўнічы за царскімі міністрамі стварыў падпольныя афіцэрскія арганізацыі пад пафаснай назвай «Саюз абароны Радзімы і свабоды». Але пасля некалькіх няўдалых спробаў падняць паўстанне САРіС распаўся. Савінкаў апынуўся за мяжой, а ў кастрычніку 1920-га ён прыняў удзел у паходзе Булак-Балаховіча ў Беларусь. Рускі нацыяналіст Савінкаў спрабаваў падлашчвацца да беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў.

Але неўзабаве Савінкаў і Балаховіч сталі непрымірымымі ворагамі. Барыс Віктаравіч, які быў яшчэ і нядрэнным літаратарам, напісаў раман пра Мазырскі паход — «Конь вараны». А ў сваёй газеце «За Свабоду» — артыкулы з выкрыццём габрэйскіх пагромаў, учыненых балахоўцамі ў Пінску і Мазыры. Станіслаў Булак-Балаховіч ад гэтак непрывабных дзей адхрышчваўся, але адначасова лупцаваў у сябе на стайні салдат і афіцэраў свайго войска, якія перайшлі да Савінкава. Паміж двума лідарамі вялася жорсткая барацьба за рэсурс, які застаўся пасля няўдалага паходу ў Беларусь, — за людзей і матэрыяльныя каштоўнасці. Многіх балахоўцаў Савінкаў паспяхова перамяніў да сабе. А вось з маёмасцю арміі справы пайшлі горш — галоўны інтэндант Елін не змог даць справаздачу на суму ў 39 мільёнаў марак. І Савінкаў, карыстаючыся сваёй блізкасцю да Юзафа Пілсудскага, дамогся арышту неразборлівага загадчыка гаспадаркі балахоўскага войска польскімі ўладамі.

Але тут ужо Станіслаў Нікадзімавіч зрабіў «ход канём» — разгарнуў конегадоўчы бізнес, выкарыстоўваючы пры гэтым і былых вайсковых коней. А з дапамогай міністра абароны Сікорскага атрымаў канцэсію на высечку Белавежскай пушчы, дзе пачалі працаваць многія яго былыя падначаленыя.

Лесапавал — гэта ўсё ж нашмат лепш, чым польскія лагеры, дзе тады панаваў тыф, галадуха і адбываліся кровапралітныя сутыкненні паміж манархістамі і рэспубліканцамі. Іншыя ж, каб вырвацца з лагера, запісваліся ў баявыя групы савінкаўцаў, якія хадзілі ў закардонныя рэйды.

У 1920 годзе ў Варшаве з'явіўся Аляксандр Упельніц, які нелегальна перайшоў савецкую мяжу. Ён жа — Упеліньш, ён жа Оперпут, ён жа Селянінаў, ён жа Спектарскі, ён жа Стаўніц, Касаткін і інш. Былы афіцэр ваеннага часу, з латышскіх сялян, а цяпер — камандзір Чырвонай Арміі, памочнік начальніка



Леанід Шэшэня

ўнутраных войскаў Заходняга фронту. Па словах Упельніца, у той час ён быў левым эсэрам, але люта зненавідзеў бальшавікоў. Прыехаўшы па справах службы ў Гомель, ён звязаўся там з былымі афіцэрамі і інтэлігенцыяй, стварыўшы буйную антысавецкую арганізацыю. З дакладам пра гэта ён і прыбыў да Савінкава ў Варшаву.

Упельніц уразіў «бацьку сялянскай дэмакратыі» Савінкава сваёй незвычайнай энергічнасцю і неўтаймоўным жаданнем змагацца з бальшавікамі — любымі метадамі. У 1920–1921 гадах ён чатыры разы пераходзіў мяжу, на службе на гэты час узяў адпачынак — для лячэння рэўматызму і варыкознага пашырэння вен. У Варшаве ж Упельніц-Оперпут пераканаўча распавядаў, што сяляне ў Беларусі спяць і бачаць, як падняць паўстанне. Чырвонаармейскія часткі пры гэтым прапанавалася атруціць цыяністым каліем, два кілаграмы якога тут жа і закупілі ў варшаўскіх аптэках. Яшчэ латыш, які стаў з «чырвонага» «белым», прапанаваў сябе ў якасці арганізатара паўстання ў Гомельскай, Смаленскай і Цвярской губернях. І ўвайшоў у аргкамітэт па аднаўленні «Народнага Саюза абароны Радзімы і свабоды», нават сфарміраваўшы Заходнюю абласную арганізацыю, найбуйнейшую структуру ў НСАРіС. Увесну 1921 года Упельніц у чарговы раз перайшоў мяжу — і знік.

Улетку 1921 года атрад палплечніка Савінкава Паўлоўскага перайшоў мяжу і накіраваўся ў Ігуменскім павет. Атрад вынішчаў па дарозе камуністаў і савецкіх актывістаў, разззбройваў чырвонаармейцаў і рабаваў дзяржаўныя ўстановы. У акрузе дзейнічала шмат законспіраваных арганізацый «Народнага саюза», а ў самім Ігумене ёй кіраваў мясцовы ваенкам. Але ўсеагульнага паўстання не атрымалася.

У Гомель жа накіраваліся паручнік Міхайлаў і Сікорскі. Яны ўжо ішлі на яўку да Гомельскага губернскага камісара НСАРіС Маісеенкі, атрымануюю раней ад Упельніца-Оперпута, не ведаючы таго, што кватэры іх чакае чэкісцкая засада. Аднак аб небяспецы эмісараў папярэдзіла маленькая дзяўчынка. Міхайлаў і Сікорскі паспелі схавацца, у Жлобіне іх зноў спрабавалі арыштаваць. Адстрэльваючыся, савінкаўскія баевікі кінуліся ў розныя бакі і зноў здолелі сысці ад пераследу.

Заходні абласны камітэт быў цалкам правалены. У Гомелі прайшлі масавыя арышты. Сур'ёзныя ўдары былі нанесеныя чэкістамі і па маскоўскіх рэзідэнтурах. Але савінкаўцы зноў і зноў пераходзілі мяжу. Той жа атрад Паўлоўскага зноў спрабаваў падняць паўстанне на Ігуменшчыне, а атрад паручніка Пруднікава — на Магілёўшчыне і Гомельшчыне. Да Паўлоўскага далучаліся дробныя групы, але далей гэтага справа ўсё роўна не рухалася. У Пухавічах арганізавалася дружына габрэйскай самаабароны. Паўлоўскі ўспрыняў гэта як выклік, загадаў самаабароне разззброіцца, а мясцоваму насельніцтву — выплаціць кантрыбуцыю. Для гарантыі ён узяў закладнікаў. У момант перадачы кантрыбуцыі з'явіліся савецкія часткі, тады савінкаўцы проста расстралялі закладнікаў і збеглі. Падраздзяленні Чырвонай Арміі праследавалі атрад, і Паўлоўскі сышоў у Варшаву. Тут стала вядома пра арышт Упельніца-Оперпута і разгром многіх арганізацый НСАРіС у Беларусі. Кіраўніцтва НСАРіС у лютасці нават рыхтавала рэйд у Мінск для вызвалення свайго лепшага закардоннага функцыянера з турмы.

У ліпені 1921 года «партызаны» Паўлоўскага, Міхайлава і Пруднікава зноў перайшлі мяжу. Як і раней, атрады камплектавалі з эмігрантаў і інтэрнаваных у лагерах, за ўдзел у рэйдзе абяцалі грошы. Сам «Серж» Паўлоўскі называў іх «ландскнехтамі». Але ўсё горш ішлі справы з настроямі мясцовага насельніцтва. У сваіх наступных паказаннях Паўлоўскі пісаў: «Калі ў нас выйшла харчаванне і давялося звяртацца да сялян, тут я заўважыў, што настрой сялян супраць нас. У тых вёсках, дзе нас вясной сустракалі ледзь не хлебам-соллю, не толькі з намі не размаўлялі, але беглі ў валвыканкам паведамляць, што прыйшлі бандыты». У гэты час ужо ўводзіўся НЭП, была адменена харчразвёрстка, і дазволены свабодны гандаль хлебам. Напружанне сярод сялянства паступова спадала.

З вялікай цяжкасцю атрад палкоўніка Паўлоўскага, у якім быў і ад'ютант Савінкава штабс-капітан Леанід Шэшэня, змог прабіцца скрозь чырвонаармейскія кардоны на польскую тэрыторыю.

У гэты час у шэрагах самога НСАРіС ішло раскладанне. Як паведамляў Паўлоўскі, чальцы Саюза дакументы, захопленыя ў рэйдах на савецкую тэрыторыю, сталі аддаваць не Савінкаву, а наўпрост прадавалі французскай выведцы. Бывалі выпадкі, калі палявыя камандзіры не разлічваліся са сваімі баевікамі пасля чарговай вылазкі. У Глыбокім стаяў атрад палкоўніка Эрдмана — сапраўдны боль для польскіх уладаў. Пазбаўленыя ўтрымання расійскія баевікі па начах выходзілі на вялікую дарогу і рабавалі ўсіх, хто праязджаў. Сам жа палкоўнік Эрдман усім сустрэчным распавядаў пра свой план «заваёвы Масквы» — ён павінен быў з Глыбокага перайсці на савецкую тэрыторыю, дзе яго, быццам бы, чакала ўжо гатовая падняць паўстанне 5-я дывізія РККА.

Пад гэтую аперацыю Эрдман атрымаў мільён марак. Перайшоўшы мяжу, ён павёў свой атрад ноччу да нейкага чырвонага гарнізону. За сотню крокаў да мэты палкоўнік стрэліў з рэвальвера і з крыкам «Ратуйся, хто можа» кінуўся да польскай мяжы. Грошай у касу НСАРіС ён, зразумела, не вярнуў.

## «Сіндыкат» для дыктатуры пралетарыяту

Такім чынам, справы ў НСАРіС ішлі ўсё горш і горш. У давяршэнне, пад ціскам савецкага ўрада Савінкаў быў вымушаны пакінуць Польшчу. У аснову гэтай савецкай ноты Польшчы шмат у чым ляглі паказанні Упельніца-Оперпута, якія ён даў пасля арышту.

Цяпер Савінкаву давялося ездзіць па іншых еўрапейскіх сталіцах у пошуках грошай. Ён працягваў займаць у гэты час нішу «сялянскага дэмакрата», правей эсэраў і меншавікоў — і лявей адкрытай белагвардзейскай рэакцыі. Правадыр НСАРіС казаў пра «Саветы без камуністаў» і «мужыцкую Расію». Але пачаў расхвальваць і італьянскі фашызм, які нядаўна зарадзіўся, сцвярджаючы, што «за фашызмам — будучыня».

У 1922 годзе Савінкаў нават сустрэўся з Беніта Мусаліні. Аднак італьянскі Дучэ не ацаніў прапанову Савінкава супрацьпаставіць Камінтэрну нейкі «Інтэрнацыянал нацыяналістаў» і грошай яму не даў. Увесну 1922 года, падчас Генуэзскай мірнай канферэнцыі, Барыс Савінкаў змог асабіста ўвайсці ў давер да мясцовай рэзідэнтуры ГПУ пад чужым прозвішчам і рыхтаваў замах на чальцоў савецкай дэлегацыі на чале з Чычэрыным, але быў выкрыты і арыштаваны італьянскай паліцыяй (не дапамаглі і кантакты з Мусаліні). Увесь гэты час кіраўніцтва РКП(б) і ГПУ па-ранейшаму лічылі Барыса Савінкава адным з самых небяспечных лідараў антысавецкай эміграцыі. Былы эсэр і цяперашні «права-левы» папуліст быў больш істотнай пагрозай, чым перакананыя манархісты з іх вельмі абмежаванай сацыяльнай базай.

Але самому лідару НСАРіС данясенні праз кардон сталі

# трапіў у пастку ГПУ у Беларусі

паступацьусё радзей, а ад актыўнасці «ў Саўдэпіі» залежаў фінансавы дабрабыт арганізацыі. І тады Савінкаў паслаў з праверкай за кардон свайго асабістага ад'ютанта — штабс-капітана Леаніда Шэшэню.

Перайсці польска-савецкую мяжу, якая ў той час была падобная на дзіравы швейцарскі сыр, было нескладана. Але даверany эмісар Савінкава чамусьці нарваўся на памежны нарад. А трапіўшы ў ГПУ, Шэшэня станавіцца героем белай справы (і адначасова — да сцэнкі) не захацеў. Убачыўшы, што арыштаваны «паплыў», чэкісты вырашылі пачаць рызыкоўную аператыўную гульню.

Пра далейшае развіццё сюжэту ў савецкі час пісаліся мастацкія кнігі і здымаліся фільмы. Праўда, многія падрабязнасці тады заставаліся «за кадрам». Пад кантролем ГПУ Шэшэня паведаміў «у цэнтр», што яму ўдалося ўсталяваць сувязь з буйной антыбальшавіцкай арганізацыяй — «Ліберальнымі дэмакратамі» (арганізатары Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі на чале з Уладзімірам Вольфавічам, напэўна, валодалі пачуццём гумару). Пасланне ад «ліберал-дэмакратаў» Савінкаву перадаў легендарны чэкіст Андрэй Фёдараў.

Трэба аддаць належнае: аперацыя «Сіндыкат-2», як яе назвалі распрацоўшчыкі, праводзілася на мяжы фолу, але гэтую мяжу не пераходзіла. Складаную гульню вёў незадоўга да гэтага створаны Контрвыведніцкі аддзел (КРО) ГПУ на чале з Артурам Артузавым. Барысу Савінкаву дасталіся няпростыя праціўнікі — эліта тагачаснага ГПУ. Сапраўднае імя начальніка аддзела было Артур Яўген Леанард Фраўчы (Рэнуччы). Яго бацька быў вядомым сыраварам італьянска-швейцарскага паходжання, маці мела латышска-эстонска-шатландскія карані. Скончыў з адзнакай Петраградскі політэхнічны інстытут па спецыяльнасці інжынер-праекціроўшчык. З 1918 года — у ваеннай контрвыведцы.

Намеснікам начальніка КРО быў Раман Піляр (Рамуальд Людвіг Пілар фон Пільхау) прыбалтыйскі барон, які ўступіў у РСДРП(б) у 1914 годзе. Нарадзіўся на Беласточчыне, адзін з заснавальнікаў Кампартыі Літвы і Беларусі, сакратар ЦВК Літбела. Пры захопе палякамі ў Вільні ў 1918 годзе спрабаваў застрэліцца, але выжыў з прабітым лёгкім. Прысуджаны да смяротнага пакарання, расстраляны — але зноў цудам застаўся жывы! Затым барон-бальшавік стаў спецупаўнаважаным па Асобым аддзеле Заходняга фронту, разведчыкам-«нелегалам» у Германіі.

Андрэй Фёдараў, які першым выехаў да савінкаўцаў за кардон, у мінулым належаў да адной з самых радыкальных рэвалюцыйных фракцый — эсэраў-максімалістаў. З 1917 года левы эсэр, з 1919 — член РКП(б). Былых анархістаў і левых эсэраў з іх вопытам баявой і падпольнай працы ахвотна бралі ў ВЧК-ГПУ, іх там было больш, чым у любой іншай савецкай сілавой арганізацыі.

Начальнік 6-га «белагвардзейскага» аддзялення КРО быў Ігнат Сасноўскі, афіцэр польскай арміі і рэзідэнт польскай разведкі ў савецкай Расіі, які пасля арышту перайшоў на бок Саветаў.




Фота з кнігі Б. Савінкава

Аператыўнік Рыгор Сыраежкін славіўся незвычайнай сілай і адвагай. І як казалі відавочцы, мог перапіць любога на сяброўскай вечарыне...

План «Сіндыката-2» складаўся супрацоўнікамі КРО з улікам псіхалагічных асаблівасцяў «партнёра», з прыцягненнем экспертаў з ліку людзей, якія ведалі яго яшчэ па рэвалюцыйнай дзейнасці. І ён спрацаваў.

Савінкаўцы не паверылі Фёдараву, у Парыжы яму інсцэніравалі «выкрыццё» як «агента Гепеу» і пагражалі забіць на месцы. Але Фёдараў праявіў незвычайную вытрымку і вынаходлівасць, і прымудрыўся пераканаць найдасведчаных змоўшчыкаў у сваёй невінаватасці. І яшчэ не раз аперацыя была пад пагрозай правалу. Аднак НСАРіС, які знаходзіўся ў крызісе, з праваленымі за кардонам арганізацыямі, як у глытку кіслароду меў патрэбу ў «свежай крыві». І савінкаўцы праглынулі прынаду.

Пасля інтэнсіўнага абмену пасланнямі і сувязнымі Барыс Савінкаў паслаў для праверкі «ліберальных дэмакратаў» аднаго са сваіх самых давераных людзей — Сержа Паўлоўскага. Пад Бешанковічамі палкоўнік Паўлоўскі злучыўся з групай нейкага Данілы Іванова, якая ўсю зіму прасядзела ў лесе і сілкавалася мясам з бочкі. Разам з «іваноўцамі» яны абрабавалі станцыю «Зубры», пры гэтым забіўшы 4-х чалавек, у тым ліку 60-гадовага начальніка дарогі, расправіліся з габрэямі. У гэты час Паўлоўскі прапанаваў называцца «фашыстамі» і пашыць атраду чорныя кашулі.

Потым Паўлоўскі прабраўся ў Маскву для праверкі Шэшэні, які жыў там на кватэры з жонкай — зразумела, пад наглядам контрвыведнікаў. Дасведчаны дыверсант так нічога і не западозрыў, на сустрэчы з лідарамі «ліберальных дэмакратаў» быў арыштаваны. І таксама пачаў працаваць пад кантролем. У Парыж і Варшаву паведамілі, што ён паранены ў нагу, але абставіны патрабуюць тэрміновага прыезду Савінкава ў СССР.

Ці верыў палкоўнік, пры ўсіх яго мінулых «подзвігах», што гэтым ён выглядае сабе жыццё? Наўрад ці. Ён адчайна спадзяваўся вырвацца, выратавацца самому і папярэдзіць «правадыра». Да чаго і зрабіў шэраг спробаў. Не атрымалася.

Але менавіта лісты «Сержа» да Савінкава, здаецца, згулялі адну з вырашальных роляў у поспеху чэкісткай аперацыі. Паўлоўскі ў канспіратыўнай перапісцы называў Савінкава «бацькам» і прасіў яго самога хутчэй прыехаць для «агледзін» і наступнага «вяселля».

15 жніўня 1924 года лідар НСАРіС з некалькімі паплечнікамі перайшоў савецка-польскую мяжу, а ўжо на наступны дзень у Мінску быў арыштаваны ГПУ.

## Версіі

І адразу пасля сенсацыйнага арышту Савінкава, і сёння існуе мноства версій, па якіх прычынах



# Слушайте!

Раззоряемые, измученные, убиваемые коммунистами русскіе, украинцы, бѣлоруссы, поморяне, корелы, волжане, сибиряки, уральцы, оренбуржцы, астраханцы, донцы, кубанцы и братскіе народы сѣверного Кавказа, СЛУШАЙТЕ!

Приходит час уничтожить коммуну и возвратить себѣ свободу.

Ни англичане, ни французы вам не помогут.

Нѣмцы помогают большевикам-коммунистам, чтобы держать вас в вѣчном рабствѣ, чтобы захватить всѣ сокровища ваших земель.

Не вѣрьте никому, кто приходит из Берлина и Германіи. Если это будут даже русскіе, то знайте, что они поступили к нѣмцам на службу и пріѣдут в Россію на должности по нѣмецкому назначенію.

Полагайтесь только на собственныя силы, на свой разум.

Довольно вы воевали во славу царя, на потѣху Троцкаго и по указкѣ Ленина, чтобы жилось весело и хорошо то царским чиновникам, то коммунистам.

Довольно. Вспомните о себѣ, о женах и дѣтях ваших.

Вас много, а коммунистов, которые тянут ваши жилы, мало. Помните это, перестаньте быть рабами и слугами негодяев, вор и проституток.

Вас, несчастные народы, убивают солдаты по приказанію коммунистов.

Откуда эти солдаты? Вѣдь это сыны народа.

Коммунисты сдѣлали так, что москвичи убивают кіевлян, донц убивают москвичей, донцов убивают сибиряки и так далѣе. Коммунисты подняли народ на народ, племя на племя, семью против семьи, брата против брата.

Коммунисты поступают так, как приказал им сам Сатана. Царству Сатаны приходит конец. Уже поняли красноармейцы кому они служат. Они думали, что служат бѣдному народу. Но нѣт такого бѣднаго человѣка, котораго они не обидѣли бы. Богатѣют коммунисты, залитые кровью человѣческой, хорошо одѣтые, жирные, осыпанные золотом и брилліантами. Такіе люди не должны жить на свѣтѣ. Всякій человѣк имѣет право на честный заработок, на свободный труд в своем хозяйствѣ. Каждаго жулика, который хочет жить на чужой счет, нужно уничтожить.

Приходит час и будет дан знак по всѣм землям от Бѣлаго до Чернаго моря, от Великой Сибири до Бѣлоруссіи.

Ждите этого часа! Он близок.

Будьте уже теперь готовы выступить на защиту родных сел и деревень. Когда придет этот час возстанут повсемѣстно войска и пойдут солдаты против красных латышей, курсантов, китайцев, коммунистических полков. Город пойдет на город, один гарнизон против другого и побѣдят тѣ, кому помогут крестьяне и рабочіе.

Вам всѣм русскіе, украинцы, бѣлоруссы, поморяне, корелы, волжане, сибиряки, уральцы, оренбуржцы, астраханцы, донцы, кубанцы и братскіе народы сѣвернаго Кавказа будет дан знак выступить, но **не принимайте этого знака от чужих и вам незнакомых людей.** Иначе вы погибнете без пользы для дѣтей и отцов ваших, напрасно для родины. Знак всеобщаго возстанія вам подадут близкіе люди; вѣрьте только им, вѣрьте только тѣм, кого вы лично знаете и будьте готовы выступить всѣ вмѣстѣ, всѣ в один час. Когда начнется возстаніе, организуйте немедленно собственную власть, власть народную, на мѣстах.

НАРОДНЫЙ СОЮЗ ЗАЩИТЫ РОДИНЫ и СВОБОДЫ

гэта адбылося. Загадкай застаецца, чаму ўсё ж найвопытны падпольшчык, што дзясяткі разоў выслізгваў ад гібелі, паверыў у хоць і бліскуча выкананую, але не такую ўжо і складаную па задуме камбінацыю савецкай контрвыведкі? Аператыўнікі і аналітыкі таго часу з КРО змаглі неяк аргументаваць, чаму Савінкаў асабіста і неадкладна павінен прыехаць у СССР. Але як?

Не менш загадкавай з'яўляецца і яго наступная смерць на Лубянцы 7 траўня 1925 года — ці то Савінкаў сапраўды выкінуўся з вакна, ці яго выштурхнулі чэкісты. Так можа ад самага пачатку гэтае вяртанне было несвядомым або ўсвядомленым суіцыдам лідара, які прайграў сваю барацьбу?

Уяўляецца ўсё ж, што самагубства было не ў характары Барыса Савінкава. Іншых на смерць яму даводзілася пасылаць, сябе — не. Але ён сапраўды быў фанатыкам — чалавекам, які жыў дзеля барацьбы і свайго асабістага самасцвярджэння праз яе. Савінкаў ні за што не хацеў змірыцца з паразай. Верагодна, на гэтым і згулялі арганізатары «Сіндыката»: іх містыфікацыя хаця б на кароткі час давала яму надзею на перамогу.

Можна вылучыць яшчэ адзін аргумент, з дапамогай якога лідара антысавецкай эміграцыі маглі матываваць да вяртання ў СССР. Уладзімір Ленін быў у гэты час смяротна хворы, і Савінкава маглі пераканаць — ён павінен быць у краіне ў той момант, калі пасля смерці правадыра ў бальшавіцкай партыі пачнецца крызіс, сутычка за ўладу паміж яе рознымі фракцыямі. Па зразумелых прычынах, такая «легенда» не агучвалася не толькі ў адкрытых крыніцах, але і ва ўнутранай справаздачнасці ГПУ.

Зрэшты, з часам усе арганізатары і ўдзельнікі пераможнай аперацыі самі пацярпелі ў выніку менавіта гэтай барацьбы за ўладу ўнутры ВКП(б). Артур Артузаў, Раман Піляр, Ігнат Сасноўскі, Андрэй Фёдараў, Рыгор Сыраежкін, як і амаль усе чэкісты часоў Грамадзянскай вайны, былі расстраляныя ў 1937–1939 гадах. Па злой іроніі гісторыі — як «польскія шпіёны».

Магчыма, што ацалеў толькі няўлоўны Упельніц-Оперпут. Падобна, гэта быў першы супрацоўнік савецкіх спецслужбаў, які ўвайшоў у давер да савінкаўцаў. І яшчэ да аперацыі «Сіндыкат-2» славутая магутная арганізацыя НСАРіС у Беларусі — была збольшага таксама чэкісткай містыфікацыяй? Але гэта — асобная гісторыя. Дакладна вядома, што пасля арышту ў Мінску ў 1920 годзе Аляксандр Упельніц перайшоў на службу ў ГПУ (калі толькі ён не быў агентам ЧК ужо з 1918 года), і ўдзельнічаў у якасці прынады яшчэ ў адной легендарнай гульні — аперацыі «Трэст». А ў 1927 годзе Аляксандр Упельніц-Оперпут-Стаўніц зноў з «чырвонага» стаў «белым»: збег за мяжу, дзе выступіў з серыяй выкрыццяў.

Аднак кім ён быў на самай справе і чым займаўся далей — усё яшчэ застаецца загадкай.

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у траўні.**

### 23 траўня

21 год споўніцца **Уладзіславу Марціновічу** — студэнту Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Быў затры-



маны 19 лістапада. Прад'яўлена абвінавачанне па арт. 342 КК РБ.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

31 год споўніцца **Ігару Повараву** — работніку ААТ «БМЗ-кіруючая кампанія холдынгу "БМК"». Затрыманы 23 лістапада і змешчаны пад варту за арганізацыю забастоўкі. Ігару і яшчэ некалькім работнікам прад'яўлена абвінавачанне па ч. 1 арт. 342 КК РБ. Асуджаны



да трох гадоў пазбаўлення волі.

Адрас для лістоў: ПК №1. 211440, г. Навапалацк, вул. Тэхнічная, 8.

### 24 траўня

39 гадоў споўніцца **Іллю Туркову,** спецыялісту па аперацыях з нерухомасцю. Быў затрыманы 27 ліпеня дома і з таго часу знаходзіцца пад вартай. Яму былі



прад'яўленыя абвінавачанні ў актыўным удзеле 14 ліпеня ў групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак, і гвалце ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў. Асуджаны на 4 гады агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №3. 211322, Віцебская вобласць, г.п. Віцьба.

41 год споўніцца случаку **Уладзіміру Няронскаму.** У 2009 годзе заснаваў фірму «Віва прэстыж», якая займаецца вытворчасцю драўнянага вугалю. Бацька чацвярых дзяцей: двух хлопчыкаў і дзвюх дзяўчынак. Аўтар ютуб-канала «Слуцк для жизни».

З 8 траўня 2020 года ён беспярапынку адбываў 40 сутак адміністрацыйнага арышту. 17 чэрвеня стала вядома, што Уладзіміра Няронскага змясцілі ў СІЗА. На яго заведзеная крымінальная справа па арт. ч. 1 арт. 342 і арт. 369 КК.



2 лютага суд Лагойскага раёна асудзіў Няронскага да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183.

44 гады споўніцца **Міхаілу Юдзіну,** гродзенскаму прадпрымальніку, асуджанаму на



4 гады пазбаўлення волі па арт. 364 КК. Таксама па гэтай крымінальнай справе асуджаны Міхаіл Ефімовіч, Вадзім Хіжняков і Андрэй Севяртока.

Адрас для лістоў: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1.

36 гадоў споўніцца **Аляксандру Цярэшку** — фігуранту «Пінскай справы».



Яму было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК. Суд Маскоўскага раёна Брэста 30 красавіка асудзіў Аляксандра Цярэшку да 6,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

27 гадоў споўніцца **Вячаславу Папову** — мінчуку, затрыманаму 10 сакавіка ў сябе дома. Дачакаўшыся, пакуль бацькі



Вячаслава з'едуць, сілавікі ўзламалі дзверы ў кватэры, паклалі хлопца на падлогу і разбілі твар. У кватэры быў праведзеныператрус, на які бацькоў не пусцілі. Прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле 342 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 25 траўня

Дзень народзінаў за кратамі сустрэне **Аляксей Павядайла** — трэнер-выкладчык па плаванні ў спартыўнай школе ў Баранавічах. Аляксея абвінавацілі па ч. 1 арт. 295-3 КК. Паводле абвінавачання, ён вырабіў, захоўваў і перавозіў у аўтамабілі «Аўдзі А6» гарачае рэчыва, з якім яго затрымалі 11 жніўня ў Баранавічах. 4 лютага суд Баранавіцкага раёна пакараў яго 2 гадамі пазбаўлення волі.



Адрас для лістоў: ПК №17. 213002, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

20-годдзе за кратамі адзначыць **Кася Будзько** — сябра «Задзіночання беларускіх студэнтаў», студэнтка БДПУ. Была затрыманая 12 лістапада ў межах



крымінальнай справы па ч. 1 арт. 342 КК. У доме, дзе жыве Кася, праведзеныператрус. Кася Будзько праходзіць па «справе студэнтаў», якая цяпер разглядаецца.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 26 траўня

47 гадоў споўніцца **Алегу Юр'евічу Фаміну,** прадпрымальніку, трэнеру па футболе. 15 жніўня гэтага года, калі пацярпелы міліцыянт сыходзіў з юбілею бацькі, да яго нібыта падышоў Алег Фамін, назваў фашыстам, абразіўшы гэтым, і абяцаў фізічную расправу. Пасля чаго завязалася сварка і ўрэшце бойка. Да бойкі ў нейкі момант далучылася Настасся Фаміна,



жонка Алега. Фаміны сваёй віны не прызнаюць і лічаць, што бойку пачаў сам Вячаслаў Іваноў.

Суддзя Мікалай Талашка асудзіў Анастасію да 1,6 года «хатняй хіміі», а яе мужа — Алега Фаміна — да 2,5 гадоў калоніі агульнага рэжыму. Таксама Алег павінен выплаціць міліцыянту 2000 рублёў за маральную і фізічную шкоду.

Адрас для лістоў: ПК №17. 213002, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

За кратамі сустрэне дзень народзінаў **Уладзімір Уладзіміравіч Гарох,** жыхар Навагрудка. Быў затрыманы 18 жніўня па так званай «Карэліцкай справе» — аб нібыта плана-



ваных беспарадках у Карэлічах і Навагрудку пасля прэзідэнцкіх выбараў. Уладзіміру Гароху было прад'яўлена абвінавачанне па ч. 1 арт. 293 КК. Таксама яго абвінавачваюць у публічнай абразе Лукашэнкі.

29 снежня быў агучаны прысуд: 7 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №17. 213002, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.




**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

Працягваецца падпіска на «Новы Час» **на II паўгоддзе 2021 года.** З лютага 2021 года нас немагчыма набыць у шапіках «Белсаюздруку» (акрамя Магілёва і Магілёўскай вобласці), аднак можна аформіць падпіску на пошце ці праз сайт «Белпошты» і атрымліваць газету ў паштовую скрыню. Нам патрэбна ваша падтрымка. Яна дазволіць нам працягваць друкаваць папяровую газету і падпісваць палітвязняў.

**Падпісны індэкс «Новага Часу» — 63279, кошт падпіскі: на 1 месяц — 4 рублі 69 капеек, на адзін квартал — 14 рублёў 07 капеек, на паўгоддзе — 28 рублі 14 капеек.**

Падпішыцеся самі, прапануйце падпісацца суседзям, сябрам, бацькам!

**Таксама па 26 траўня можна паспець аформіць падпіску на чэрвень.**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №838

Падпісана да друку 20.05.2021. 8.00. Наклад 7500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.